№3 (966) 1 сакавіка 2017 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# ЛЮДЗІ ЗЛЫЯ

## Народ выйшаў на вуліцы

супраць «падатку на дармаедаў».
**Старонка 3.**

## Гаворадь Ганцавічы: «Тут тупік»

Рэпартаж Кацярыны Карпіцкай і Сяргея Гудзіліна.
**Старонка 12.**

## А з ахоўнай зоны вывелі задняй датай

Канфлікт вакол будоўлі каля Курапат.
**Старонка 6.**




Удзельніца дэманстрацыі пратэсту ў Віцебску.

СЯРГЕЙ СЕРАБРО

Меркаванне

## Бюджэтныя датацыі маюць стаць даступнымі для недзяржаўных СМІ

Піша **Андрэй Дынько**.

Мой выступ на канферэнцыі «Медыя Беларусі: выклікі і шанцы» ў Мінску выклікаў вялікія дыскусіі. Я лічу патрэбным патлумачыць сваю пазіцыю.

Усё больш людзей у нашай краіне разумее, што багатыя і камфортныя для жыцця краіны зрабіліся багатымі і камфортнымі ў тым ліку дзякуючы існаванню ў іх свабодных і канкурэнтных СМІ.

Як дабіцца ў канкрэтных беларускіх умовах, каб СМІ былі прафесійнымі і якаснымі? Ва ўмовах, калі рэкламны рынак невялікі, краіна — сярэдняя па памерах, а расійскія СМІ падціскаюць беларускія?

І, галоўнае, калі аўтарытарны рэжым прывучыў да падзелу СМІ на «дзяржаўныя» і «недзяржаўныя», хоць асобныя з тых «дзяржаўных» лепш было б называць «антыдзяржаўнымі» за іх дрымучасць і бескарыснае марнаванне грамадскіх грошай.

СМІ могуць добра выконваць сваю ролю, калі яны маюць рэсурсы, прычым з розных крыніц.

Мне вельмі падабаецца прыклады Даніі і Славаччыны, дзе буйныя выданні дамовіліся і сінхронна перавялі сайты на платную падпіску для чытачоў. Я не выключаю, што беларускія парталы павінны падысці да такога салідарнага дзеяння — стварэння гэткай самай *Pay Wall*. Бо без платнага доступу да сайта мы не маем чым замяніць колішнюю падпіску — суфінансаванне выданняў грамадзянамі.

Такі платны доступ стане магчымы тады, калі дасягне дастатковага развіцця сістэма электронных плацяжоў.

Аднак у краіне, як Беларусь, з яе спецыфікай, гэтага замала. Да гэтага павінны дадацца дзяржаўныя датацыі. Такая сістэма існуе ў Швецыі, Нарвегіі і нават на такім вялікім рынку, як Францыя.

Усюды там у мэтах забеспячэння плюралізму дзяржаўныя датацыі выдзяляюцца прыватным выданням розных ідэалагічных кірункаў, ад «Юманітэ» да раённых газет у Лапландыі.

Я не бачу нічога кепскага ў самой ідэі дзяржаўнай падтрымкі медыя.

Нагадаю, што ў Беларусі дзяржава выдзяляе на гэта штогод каля 100 млн рублёў (50 млн у пераліку на даляры).

Працяг на старонцы 9.

# СТБ 1100-2016: Дзяржстандарт забіў яшчэ адзін цвік у труну беларушчыны




Малады бізнэсовец з Жодзіна Павел Касцянкоў праз некалькі месяцаў плануе запусціць продаж пітной вады пад брэндам «Белыя крылы».

«Усё афармленне я планаваў на беларускай мове. Я патрыёт, хоць сам не размаўляю па-беларуску, але хацеў бы навучыцца, каб і дзеці размаўлялі. Распрацаваная прыгожая этыкетка з вышыванкай, буслом. Калі я павёз яе на ўзгадненне ў Барысаў, у Дзяржстандарт, то там мне сказалі, што так быць не можа. Я вельмі моцна засумняваўся ў кампетэнцыі супрацоўніка, таму папрасіў спасылкі на дакумент», — расказвае Павел Касцянкоў.

У выніку бізнэсовец атрымаў стандартную спасылку на Тэхнічны рэгламент Мытнага саюза, дзе гаворыцца пра тое, што інфармацыя абавязкова павінна быць на рускай мове.

Але разам з тым была дасланая спасылка на дакумент СТБ 1100-2016, які ўступіў у сілу 1 лютага 2017 года. Яго прыняццем займаўся Дзяржстандарт.

У артыкуле 4 дакумента гаворыцца: «Інфармацыя для спажыўца ў выглядзе тэксту наносіцца на рускай або рускай і беларускай мовах». Выходзіць, што выключна па-беларуску інфармацыю нанесці нельга.

Павел Касцянкоў звяртае ўвагу, што гэты стандарт супярэчыць закону «Аб мовах», у артыкуле 30 якога гаворыцца: «Маркіроўка тавараў, этыкеткі на таварах, інструкцыі па карыстанні таварамі выконваюцца на беларускай або рускай мове. Маркіроўка тавараў, прызначаных на вываз за межы Рэспублікі Беларусь, выконваецца на беларускай ці рускай мове або на мове заказчыка. Назвы ў таварных знаках падаюцца на беларускай або рускай мове».

Павел Касцянкоў кажа, што пасля такога вымушаны ўвогуле адмовіцца ад беларускай мовы, бо рабіць этыкеткі на дзвюх проста нявыгадна для яго.

З падобнай праблемай таксама сутыкнуліся яшчэ адны вытворцы вады — «Нарач». Намеснік генеральнага дырэктара Наталля Барodзіч кажа, што яны звярнуліся ў Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай дарэалізаваць прадукцыю са старой маркіроўкай, бо беларускамоўных этыкетак у іх яшчэ на 14700 рублёў, а таксама спасаліся на нелагічнасць СТБ 1100-2016.

А вось новы разліў будуць выконваць у тару з рускамоўнай этыкеткай. Рабіць на дзвюх мовах у прадпрыемстве таксама не бачаць сэнсу. Да гэтага больш за пяць гадоў «Нарач» была выключна беларускамоўнай у афармленні.

Выглядае, што і астатнія рэдкія вытворцы, якія карысталіся ў афармленні сваёй прадукцыі беларускай мовай, могуць адмовіцца ад яе.

**Зміцер Панкавец**

### Трусаў: Людзі, пішыце ў пракуратуру!

Кіраўнік Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў параіў, што трэба рабіць, каб была адмененая пастанова СТБ 1100-2016 Дзяржстандарта, якая фактычна забараняе выкарыстанне толькі беларускай мовы на маркіроўцы прадукцыі.

«Першым чынам трэба звяртацца ў Генеральную пракуратуру, каб яна праверыла адпаведнасць дзейнаму заканадаўству. Па-другое, у Міністэрства юстыцыі, бо ўсе афіцыйныя дакументы павінны праходзіць праз гэтае ведамства. Трэба пытацца, наколькі адпавядае дзейнай Канстытуцыі, закону «Аб мовах» гэтае СТБ.

Міністэрства юстыцыі можа сваёй пастановай адмяніць гэты стандарт, такія выпадкі былі. Пастанавілі мы назваць вуліцу ў гонар Вайніловіча, Мінгарсавет прагаласаваў, а Мінюст адмяніў. І няма ў нас вуліцы Вайніловіча.

Яшчэ ёсць Канстытуцыйны суд, але туды хто можа звярнуцца? Напрыклад, дэпутат. І такія дэпутаты ў нас ёсць — Алена Анісім і Ганна Канапацкая.

### Самае чытанае на nn.by за люты 2017

1. У Беларусі ўпершыню пачалі вырабляць шмаравідла для сэксу
2. У Мінску некалькі тысяч чалавек выйшлі на Марш абураных беларусаў
3. Тысячы людзей выйшлі на вуліцы ў Віцебску і Бабруйску ФОТА, ВІДЭА
4. Тысячы людзей выйшлі ў Гомелі на марш пратэсту: «Не дэкрэту нумар тры! Лукашэнка, уходзі!» ФОТА, ВІДЭА
5. Прэс-канферэнцыя Аляксандра Лукашэнкі АНЛАЙН і рэакцыі на яе
6. Дзевяць беларускіх прадуктаў, якія дзівяць іншаземцаў
7. Самы складаны ТЭСТ па беларускай мове
8. Зорка беларускага балета Марына Парамонава скончыла жыццё самагубствам
9. Жанчына-«дармаедка» дае справаздачу перад чыноўнікамі на прыёме ў выканкаме ФОТАФАКТ
10. Фрык з «НОД», мілітарыст, кіраўнік прадпрыемства… Хто выйшаў на пікет у падтрымку Расіі?

## У «Нашай Ніве» змяняецца рэдактар



З 1 сакавіка Андрэй Скурко сыходзіць з пасады галоўнага рэдактара «Нашай Нівы». Выданне і сайт NN.BY узначаліць Ягор Марціновіч.

Ягор Марціновіч працуе ў «НН» з 2009 года. Ён аўтар расследаванняў, рэпартажаў і інтэрв'ю. Ягоныя матэрыялы былі адзначаныя шматлікімі нацыянальнымі і міжнароднымі прэміямі.

Вам цікава будзе ведаць, што Ягор Марціновіч — сын пісьменніка Алеся Марціновіча і намесніцы галоўнага рэдактара часопіса «Мастацтва» Тацыяны Мушынскай, унук членакарэспандэнта Акадэміі навук Беларусі Міхася Мушынскага. Ён вырас у Мінску, скончыў Ліцэй БДУ і Інстытут журналістыкі БДУ.

Андрэй Скурко застанецца працаваць у «НН» на пасадзе намесніка галоўнага рэдактара. Скурко ўзначальваў «НН» з 2006 да 2017 года — па працягласці гэта рэкорд тэрміну на пасадзе. Для параўнання: Аляксандр Уласаў узначальваў выданне 8 гадоў, Сяргей Дубавец — 9 гадоў. Гэта былі 11 няпростых гадоў, з каласальнымі фізічнымі і псіхалагічнымі нагрузкамі. Гэтыя гады сталі таксама слаўнымі гадамі росту выдання ў інтэрнэце. Мы выкарысталі крызіс папяровай прэсы і цяжкасці як шанец для развіцця. «НН» замацавалася ў пазіцыі самага папулярнага партала на беларускай мове. На сёння «НН» мае 7 мільёнаў праглядаў у інтэрнэце штомесяц, займаючы 3—4 месца па гэтым паказчыку сярод усіх-усіх беларускіх СМІ, беларускамоўных і расейскамоўных. «НН» даказала, што інтэрнэт-партал на беларускай мове можа быць паспяховы.

Калектыў «НН» моцна дзякуе Андрэю Скурко за ўсё, што ён зрабіў для выдання.

На пярэдні план у «НН» выходзіць чарговае, новае пакаленне са сваёй канцэпцыяй.

**Нашаніўцы**




**Падзякі**

Дзякуем за грошы, дасланыя праз сістэму АРІП, чытачам-фундатарам НН Bekarevichu, Вадзіму Жыдовічу, М.А.Градзіцкаму, І.У.Бураму, Максімовічу, Віктаровічу, Андрэю Вашкевічу, СВГЦ, Яўгену Чыгіру, Вячаславу Кіпрыяновічу, D.K., Алесю, Міхаілу Т., Буку А.В., Aliaksieju, Андрэю Пісарыку, Андрэю Н., Сяргею Ш., В.В.Дарэўскаму, Зюзю Старобінскаму, Ю.Ю. Л.І.Міронцык, В.А.Я., а асабліва — Сцяпану, Андрэю К., А.І.Харытону, Ганне К. і Марыі Луцэвіч-Напалкуў.

# Людзі злыя

Упершыню шматтысячныя дэманстрацыі пратэсту адбыліся не толькі ў Мінску, але і ў гарадах Усходняй Беларусі: Гомелі, Віцебску, Бабруйску. Лозунгі эканамічныя: людзі хочуць работы і росту заробкаў. А беспрацоўных каб хоць «падаткам на дармаедства» не мучылі.

Пратэсты пачаліся 17 лютага ў Мінску. На заклік экскандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча на Марш абураных беларусаў выйшлі некалькі тысяч чалавек. Яны прайшлі маршам ад Кастрычніцкай плошчы да Міністэрства падаткаў і збораў.

Шэсце было мірным, без інцыдэнтаў. І выклікала ашаламляльную цікавасць. Відэазапісы яго ў інтэрнэце прагледзелі паўтара мільёна разоў! Лічы, у кожнай другой сям'і.

Што такая рэакцыя не была выпадковай, стала ясна праз два дні, калі ў нядзелю 19 лютага некалькі тысяч людзей выйшлі на маніфестацыю ў Гомелі. Тут настрой быў гарачэйшы, людзі — злыя. «Не дэкрэту нумар тры! Лукашэнка, уходзі!» было яшчэ не самым рэзкім скандзіраваннем. У той жа дзень невялікія пратэсты адбыліся таксама ў Магілёве і Гродне.



Інтэлігентная жанчына прыйшла на дэманстрацыю з накрыўкамі ад каструль.




Папулярным лозунгам стала «Баста!»



Моладзь намалявала расцяжкі.



Людзі бралі з сабой нацыянальныя сцягі.

Нягледзячы на тое, што Мікалай Статкевіч заклікаў людзей да стрыманасці, прасіў не распыляць сілы, а ўсім з'ехацца на Дзень Волі ў Мінск 25 сакавіка, 26 лютага людзі зноў, праз сацыяльныя сеткі, самаарганізаваліся на мітынгі ў шэрагу рэгіянальных цэнтраў.

Асабліва шмат людзей выйшла на вуліцу ў Віцебску. Яны скандавалі «Жыве Беларусь». Некалькі маладзёнаў са схаванымі тварамі выгуквалі «Слава Расіі», але людзі іх не падтрымалі.

Пры гэтым ніякай арганізацыі ў Віцебску не было, нават мегафона не было.

Адзначыўся таксама прамысловы Бабруйск, дзе каля 1500 чалавек узялі ўдзел у мітынгу на цэнтральнай плошчы. Выступ там узначалілі незалежныя прафсаюзы і хрысціянскія дэмакраты.

Прыкладна па 300 чалавек заўзята пратэставалі ў Брэсце і Баранавічах.

Сярод удзельнікаў акцый былі як пенсіянеры, так і людзі, што дапрацоўваюць да пенсіі, а трохі і моладзі.

Усюды пратэстоўцы былі настроеныя радыкальна, але маніфестацыі адбыліся без інцыдэнтаў. Міліцыя ў ход падзей не ўмешвалася.

Людзі збіраюцца выказаць пазіцыю таксама ў Пінску, Маладзечне.

Свой «Марш недармаедаў» у сталіцы на 15 сакавіка плануюць лібералы, хрысціянскія дэмакраты і Рух «За свабоду». Яны падалі заяўку ў гарвыканкам і дамагаюцца дазволу на акцыю, каб прыцягнуць максімальную колькасць удзельнікаў.

А максімальная мабілізацыя чакаецца на Дзень Волі 25-га.

**Сяргей Гезгала,**
**фота Сяргея Гудзіліна**

## Прыбыткі наркагандляроў у Беларусі — сотні тысяч даляраў

Дзякуючы гэтаму расследаванню Арцёма Гарбацэвіча спынілася дзейнасць інтэрнэт-крамаў, што прадавалі спайсы.

Колькі ўжо гадоў Беларусь б'ецца са спайсамі. Са з'яўленнем гэтых сінтэтычных наркотыкаў наркаманія перастала быць маргінальнай з'явай, бо ў пастку даступнасці трапілі тысячы пасняховых людзей.

Нейкі час у Беларусі і не ведалі, што рабіць з новым выклікам. Склалася сітуацыя, калі за продаж гэтых наркотыкаў не ўдавалася караць, бо дэ-юрэ яны былі легальнымі. Гэтым паспелі скарыстацца нават асобныя ўвішныя супрацоўнікі міліцыі і дзяржбяспекі.

Сітуацыя змянілася, калі ад перадозаў пачалі паміраць дзясяткамі.

Дзяржава адрэагавала жорстка — наркагандляроў садзяць на тэрміны ад 8 да 15 гадоў.

Урэшце тактыка запалохвання спрацавала. Калі на зоне аказалася 7 тысяч чалавек, распаўсюд спайсаў удалося абмежаваць — наркаманаў паменела ў разы, кажуць нарколагі.

Аднак гаворка па-ранейшаму ідзе пра сотні людзей, якія штогод трапляюць на ўлік у буйных гарадах. І гэта толькі тыя лічбы, якія фіксуюць нарколагі, а пра колькі яшчэ дактары не ведаюць?

У гэтым матэрыяле «Наша Ніва» прааналізавала сучасны рынак хімічных псіхатропаў у Беларусі, каб зразумець, ці далёка нам да перамогі. Высновы нас уразілі — прыбыткі наркагандляроў па-ранейшаму вымяраюцца дзясяткамі тысяч даляраў штодзень. І гэта толькі тое, што на паверхні.

### Вывад грошай праз біткойны

Схема продажу спайсаў у Беларусі вядомая: гэта ланцуг з некалькіх чалавек, якія звычайна і не ведаюць адзін аднаго.

Працяг на старонцы 5.

# Гомель выйшаў першы

Важакі пратэсту заявілі, што, калі ўрад не адменіць дэкрэт, то на Дзень Волі 25 сакавіка будзе арганізавана ўсерэспубліканская акцыя пратэсту.

Дэманстранты ў Гомелі неслі нацыянальныя бел-чырвона-белыя сцягі, скандавалі «Жыве Беларусь!».

Сход пачаўся на плошчы Паўстання, вялікая калона прайшла па вуліцы Савецкай да плошчы Леніна.

Гучалі палітычныя лозунгі, лозунгі супраць падаткаў на «дармаедства». «Не дэкрэту нумар тры! Лукашэнка, ухадзі» стала папулярнай крычалкай. «А што далей, прыгоннае права?» — абураліся ўдзельнікі.

Калона расцягнулася на сотні метраў, аўтамабілі віталі ўдзельнікаў шэсця працяглымі гукавымі сігналамі.

Міліцыя правядзенню шэсця не замінала.

Людзі наракалі, што ў горадзе бракуе работы, уладкавацца няма як. Большасць з іх прыйшлі на акцыю пратэсту ўпершыню.



Фотаздымкі з маршу апублікаваў у сваім фэйсбуку гомельскі праваабаронца Леанід Судаленка.

## Хто яны — лідары пратэстаў

Пратэсты ў Брэсце павёў за сабой фермер Аляксандр Кабанаў.

Непасрэдна яго Дэкрэт №3 не чапае — Аляксандр мае сваю гаспадарку. Але ён балатаваўся ў Палату прадстаўнікоў і адным з пунктаў праграмы абяцаў у якасці дэпутата падняць пытанне адмены дэкрэта.

Гэтае абяцанне людзі запомнілі і, калі прыпякло, пачалі звяртацца па дапамогу.

«Можа я і не лідар увогуле — гэта людзям вырашаць. А пачалося ўсё са збору подпісаў, пасля прыйшло разуменне, што патрэбны і вулічныя акцыі», — кажа нам Аляксандр.

Гомельскі юрыст і бацька чатырох сыноў Леанід Судаленка сказаў «НН», што ў горадзе няма адной асобы-лідара пратэстаў.

«У нашым горадзе лідараў пазначыла ўлада — 9 чалавек, на якіх склалі пратаколы. Гэта я, у тым ліку, Уладзімір Кацора, Васіль Палякоў — намеснік Лябедзькі, Віктар Рубцоў, ёсць яшчэ маладзёны-блогеры. У гэтую суботу ладзім пашыраны сход на Палескай 52, чакаем чалавек 200—300, запрасілі найбольш актыўных. Хочам вызначыцца з далейшым планам», — кажа Судаленка.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Чаму выйшлі людзі ў Віцебску? Што імі рухала?

Апытаныя карэспандэнтамі «Нашай Нівы» прыводзілі розныя прычыны. Іх аб'ядноўвала незадаволенасць эканамічнай палітыкай уладаў. Але і тэма недаверу Аляксандру Лукашэнку праходзіла праз адказы большасці пратэстоўцаў. «Супраць Лукашэнкі ідзём! — кажа на камеру жанчына ў Віцебску. — Мяне і маю сям'ю дэкрэт не зачапіў. Я проста супраць яго выйшла! Дзеля будучыні маіх унукаў!»

«Я таксама працуючы чалавек, — дадае спадар, што ідзе побач. — Дык у мяне пяць гадоў заробак не павышаўся!»

«Лукашэнка не кіраўнік, ён абы што! Развaліў і заводы, і калгасы. Які ў нас завод толкам працуе? Людзі едуць у Расію зарабляць, сем'і распадаюцца! Людзі проста існуюць пры ягонай уладзе, не жывуць, а існуюць», — крычыць у камеру пенсіянерка.

«А што ён кажа, што яго выбіраюць — ніхто яго не выбірае. Гэта не прэзідэнт, а проста дыктатар!» — дадае на відэа жанчына.

«Ён паказаў, што ён няздольны, мы перакаваліся», — дабаўляе іншая пенсіянерка.

Але не ўсе падзялялі такія палітычныя лозунгі.

«Многа крыкуноў тут, — кажа мужчына гадоў 50-ці. — Крычаць «Лукашэнка, ухадзі», а хто замест яго прыйдзе?» Ён думае, што трэба абмежавацца патрабаваннем адмены дэкрэта.

«Самае галоўнае — свабода!» — кажа побач юнак, з выгляду — студэнт.

«Наконт дармаедства прыйшлі, наконт таго, што няма работы прыйшлі. Трэба, каб работу давалі людзям! — кажа хлопец гадоў дваццаці пяці, — Сабралася шмат людзей! А наступны раз яшчэ больш выйдзе», — лічыць ён.

**Сяргей Гезгала**

Пасля незвычайна масавай акцыі пратэсту ў Віцебску паўсталі пытанні, чаму на чале калоны не было апазіцыі. Выступіла толькі Таццяна Севярынец — былая настаўніца, а цяпер пенсіянерка з Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. А дзе ж быў «Наш дом» і яго лідарка Вольга Карач, якая нават збіралася ў прэзідэнты балатавацца?

Як сказала «Нашай Ніве» сама Вольга, на пратэст яна не выйшла, бо была ў бальніцы.

«Актывісты «Нашага дому» былі на акцыі, але сябе ў натоўпе не абазначалі, проста былі. Тут такі момант, што няма магчымасці займацца ўсім. Наша арганізацыя з мінулага году працуе вельмі фокусна, мы з цяжкасцямі да гэтага прыйшлі, дарэчы, але ў нас цяпер ёсць дзве тэмы: дапамога жанчынам, на якіх цісне дзяржава, і праца з дэпутатамі па выкананні 10 нашых патрабаванняў. Гэта наш фокус», — расказвае Карач.

**АЯ**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

На вуліцы выйшлі людзі пераважна старэйшыя.



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Былі сярод дэманстрантаў і студэнты.



Гэтыя трое мужчын у Віцебску спрабавалі падбіць натоўп на скандаванне «Слава Расіі». Аднак люд іх не падтрымаў. Гэты момант трапіў на відэа «Нашай Нівы». Замест гэтага вечa зноў пачало скандаваць «Жыве Беларусь!»

**Ірына Арахоўская**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Мужчыны расказалі, што яны вымушаныя ездзіць на заробкі ў Расію.

# Прыбыткі наркагандляроў у Беларусі — сотні тысяч даляраў

Працяг са старонкі 3.

Адзін з іх працуе «аператарам» і прымае замовы праз ананімныя інтэрнэт-месенджары. Пасля пацвярджэння аплаты, якая робіцца хоць у звычайным інфакіёску, аператар перасылае задачу закладчыку, які хавае дозу ў непрыметным месцы на вуліцы і кажа аператару, як гэтае месца знайсці. У выніку інструкцыя даходзіць да кліента і той забірае свой спайс.

Атрымліваецца хітра: ніхто нікога не бачыў, доза ў замоўцы, а грошы на рахунку ананіма, які і стварыў гэтую сетку.

Але не ідэальна: нашы сілавікі ўмеюць выяўляць такія схемы, ад чаго сям-там перыядычна гучаць навіны пра незайздросны лёс закладчыкаў, якія ў структуры наркагандлю самыя ўразлівыя і звычайна першымі трапляюць на зону, змушаючы сваіх «працадаўцаў» шукаць новых ёлупняў.

### Лялькаводы і закладчыкі

Адмысловы форум для наркаманаў багаты на прапановы падзарабіць «закладчыкам» на стаўцы ад $7 за адну зробленую закладку. Лялькаводы нават аплачваюць правінцыялам пераезд і арэнду жылля ў абласных гарадах, абы іх «крамы» не прастойвалі.

З закладчыкамі пытанне толькі ў тым, як доўга ён адпрацуе, пакуль яго не вылічаць у міліцыі. Садзяць гэтых наіўных, што спадзяюцца на лёгкія грошы, стапрацэнтна.

Але гэта ўсё вяршыня айсберга. Глянем на прыбыткі тых, хто стаіць на чале самых буйных у Беларусі крам.

Пасля пасадкі банды Вілюгі беларускі рынак страціў манапаліста, і ў лідары выйшлі тры крамы, якія працуюць у сталіцы і маюць філіі ў буйных гарадах.

Яшчэ ёсць дзясяткі больш дробных рэгіянальных і абласных дылераў.

Як на іх выходзяць кліенты? Для гэтага існуе адмысловы сайт для краін СНД, які заблакаваны ў Беларусі.

### Сайт у Кітаі

Але з дапамогай вядомых праграм на яго можна зайсці з абсалютна любога беларускага камп’ютара, і застаецца толькі гадаць, што ўжо столькі гадоў замінае сілавікам Беларусі, Расіі, Казахстана ды Украіны скааперавацца і праз міжнародныя юрыдычныя рычагі прымусіць улады Кітая (Ганконга), дзе зарэгістраваны сайт, адключыць яго.






**Тыповая карта ADW, праз якую наркагандляры здымаюць сродкі з беларускіх банкаматаў. Фота з сайта для наркаманаў.**

Уладальнікі сайта зарабляюць на гандлярах, беручы з іх аплату за права публікацыі свайго прайсу і кантактаў на форуме.

### Рэагенты, «крышталі», «спіды»

Скажам, тры найбуйнейшыя беларускія крамы толькі за гэтае права плацяць па $1500 штомесяц, яшчэ 16 крам — па $300, іншыя, драбнейшыя, менш.

За 2 грамы спайсу (мінімальная вага для куплі) — у Беларусі звычайна просяць 30—35 рублёў. Але прадаюцца таксама розныя рэагенты, «крышталі», «спіды» і гэтак далей.

Усе выручаныя грошы прыходзяць на электронныя кашалькі наркагандляроў, рэквізіты якіх яны самі перадаюць кліентам. Зазвычай гэта *WebMoney* (эмітэнт сэрвісу ў Беларусі — «Тэхнабанк») і *EasyPay* (эмітэнт — «Белгазпрамбанк»).

Зарэгістраваць узгаданыя электронныя кашалькі без прадастаўлення прыватных звестак, аж да нумара тэлефона, немагчыма. Таму гэтыя кашалькі альбо рэгіструюцца на падстаўных асоб, звычайна — наркаманаў, альбо проста выкупляюцца на адмысловых рэсурсах у «цёмным» інтэрнэце.

Але адна справа — прымаць сродкі на гэтыя кашалёк, іншая — вывесці іх з яго. Справа ў тым, што па беларускім заканадаўстве гэта можна зрабіць, толькі прыйшоўшы асабіста разам з пашпартам у банк альбо звязаўшы з рахункам картку — але тады асобу, што зняла сродкі, будзе лёгка вылічыць.

Таму ў асяродку беларускіх наркагандляроў узнікла неабходнасць стварыць так бы мовіць нелегальную фінансавую біржу, дзе можна было б гандляваць валютамі за спіною беларускіх банкаў, а пасля выводзіць гэтыя сродкі з віртуалу ў рэал.

### Як гэта робіцца?

За стварэннем такой нелегальнай біржы стаяць невядомыя, але вельмі тэхнічна прасунутыя асобы, якія прапануюць гандлярам наступную схему па вывадзе сродкаў: яны прымаюць на свой рахунак у сістэме *Bitcoin* пераводы з рахункаў прадаўцоў, узамен выдаючы ім плацежную картку *ADWCash*, на якую з камісіяй у 16—20% пераводзяць ужо рэальныя грошы.

Гэтыя карткі трапляюць да сваіх замоўцаў гэтак жа, як наркотыкі да наркаманаў — праз «закладкі» на вуліцы.

Сама сістэма *Bitcoin* не вельмі распаўсюджаная ў Беларусі, у нас яна працуе ў напаўлегальным стане, але яе галоўная перавага — ананімнасць уласніка рахунка.

Пры гэтым *Bitcoin* дазваляе бачыць усе транзакцыі, праведзеныя па рахунку. І каб зразумець, якія сумы праварочваюцца ў беларускім наркабізнэсе сінтэтычных наркотыкаў, застаецца толькі знайсці рахунак гэтай «біржы».

### Ад $5000 за суткі

«Наша Ніва» гэты рахунак знайшла. Лічбы аказаліся, з аднаго боку, немалыя, а з другога — не гіганцкія.

За няпоўны год — з 21 красавіка 2016 года — сума атрыманых пераводаў роўная прыкладна $450 тысячам.

Калі адсочваць транзакцыі па днях, то можна ўбачыць, што ў сярэднім праз рахунак «біржы» праходзіць ад $5 тысячаў у суткі.

У святочныя дні, кшталту Новага году, сумы скачуць нават да $30 тысяч і болей.

Некаторыя крамы за пару месяцаў «працы» праводзілі праз свой рахунак да $15 тысяч.

Як сцвярджаюць ананімныя «фінансісты», з якімі мы звязаліся пад выглядам цікаўнага гандляра, іх паслугамі карыстаюцца каля 20 беларускіх «крам».

Гэтыя фінансавыя злачынцы (а наркотыкі яны не прадаюць, зарабляюць толькі на пераводах) карыстаюцца ў сваёй дзейнасці складанымі камп'ютарнымі скрыптамі, якія дазваляюць настолькі заблытаць шлях транзакцый на *Bitcoin*, што вылічыць адрасантаў некаторых пераводаў праблематычна праз наяўнасць сотняў пасярэднікаў.

### EasyPay у арэнду

Пры гэтым пераводы праз біткойн — не адзіны шлях вывесці грошы. Частка транзакцый праходзіць па іншых віртуальных гаманцах, што немагчыма адсачыць, не маючы доступу да банкаўскай інфармацыі, таму тыя сотні тысяч даляраў — толькі частка рэальных абаротаў беларускага наркабізнэсу.

Але мы адкрылі і яшчэ адзін момант: для таго, каб наркагандляры маглі прымаць сродкі на свае рахункі ў беларускіх банках, зламыснікі далёка пайшлі — узламалі сістэму *EasyPay*, ці скарысталіся яе ўразлівасцю.

Для спрашчэння разлікаў паміж гандлярамі і спажыўцамі першыя выкарыстоўваюць кашалькі *EasyPay*, не рэгіструючы іх самастойна, а беручы «ў арэнду» ў невядомых хакераў.

З невядомых прычын доступ да асобных рахункаў *EasyPay* ажыццяўляецца не праз арыгінальны сайт разліковай сістэмы, а праз старонку, створаную махлярамі — *iwallet.pro*.

Ведаючы нумары рахункаў — а іх наркагандляры звычайна называюць самі, каб кліент мог аплаціць дозу, — можна зайсці ў электронныя кашалькі злачынцаў, мінуючы пратакол інтэрнэт-бяспекі *ssl*, проста дадаўшы лічбавы код у пачатак адрасу сайта злачынцаў.

### Карэспандэнт «Нашай Нівы» «залагініўся»

Карэспандэнт «Нашай Нівы» «залагініўся» ў адзін такі кашалёк.

Найперш, каб спраўдзіць, ці не ідзе гаворка ўсяго толькі пра банальнае капіяванне інтэрфэйсу, мы зрабілі два пераводы на згаданы рахунак праз інтэрнэт-банкінг — 2 і 1 рублі.

Пераводы дайшлі цягам пары секундаў.

Для нас былі даступныя ўсе стандартныя опцыі *EasyPay*. Але вярнуць грошы назад немагчыма праз страхуючую сістэму — для любога пераводу з кашалька неабходна ведаць чатырохзначны кантрольны код, які выдаецца падчас рэгістрацыі кашалька, і, можна меркаваць, яго ведаюць толькі ўласнікі.

Таксама нам сталі бачныя ўсе транзакцыі кашалька злачынцаў — гаворка ідзе пра пераводы тысяч беларускіх рублёў.

Апошняе паступленне датуецца ноччу 19 лютага — тады на рахунак паступіў 31 рубель. З улікам камісіі гэта акурат заведзеная цана на 2 грамы спайсу.

Агулам гаворка ідзе пра сотні тысяч беларускіх рублёў.

Праўда, мы заблакавалі гэты кашалёк, тройчы ўвёўшы памылковы кантрольны код, а разам з гэтым даведаліся мабільны нумар, на які ён зарэгістраваны: гэта +375 29 8323981 (нумар недасяжны).

Спачатку мы падумалі, што гаворка ідзе пра ўзлом сістэмы бяспекі банка, але ў «Белгазпрамбанку» нам патлумачылі, што гэта не так: уразлівасць ёсць, але за бяспеку канкрэтна *EasyPay* адказвае не банк. «Банк і *EasyPay* ведалі пра наўмыснае выкарыстанне ідэнтыфікацыйных кашалькоў *EasyPay* трэцімі асобамі, доступ да якіх ажыццяўляўся праз проксі-сервер са спецыяльнай старонкі. Банкам яшчэ на пачатку лютага прынятыя захады па інфармаванні кампетэнтных органаў аб існаванні дадзенай сітуацыі, за актыўнасцю на дадзенай старонцы ажыццяўляўся маніторынг», — сказалі ў банку і падкрэслілі, што тэма, паднятая «Нашай Нівай», не датычыць пытанняў бяспекі банка і ўзлому электронных кашалькоў, бо ўказаная схема магла існаваць толькі ў выпадку раскрыцця інфармацыі аб кашальках іхнімі ўласнікамі. Банк у сістэме, маўляў, толькі эмітэнт.

«Працэсінг электронных грошай *EasyPay* ажыццяўляе ТАА «Адкрыты кантакт», якому належыць гандлёвая марка *EasyPay* і сайт, дзе ажыццяўляецца кіраванне кашалькамі. ААТ «Белгазпрамбанк» з'яўляецца партнёрам ТАА «Адкрыты кантакт» і ажыццяўляе эмісію і разлікі па электронных грошах», — адзначылі ў банку.

Трэба адзначыць, што ў дзень публікацыі матэрыялу пра ўзлом EasyPay на сайце «Нашай Нівы» ў інтэрнэце — у той жа дзень — хакерскі сайт *iwallet.pro* адключылі. Гэта зрабіла немагчымым ранейшыя транзакцыі на рахункі гандляроў і пацягнула масавае спыненне продажу наркотыкаў у Беларусі. Прынамсі да таго моманту, пакуль наркагандляры не прыдумаюць іншую схему вываду грошай.




**Перавод на 2 рублі на рахунак EasyPay адлюстроўваецца ў інтэрфэйсе сайта злачынцаў.**

За период с 2015-02-01 по 2017-02-18 Все получатели Показать

| | Статус | Получатель | Сумма, руб. | № счета | Дата оплаты | Дата отмены |
|---|---|---|---|---|---|---|
| возобновить | завершен | Продажа WMB (эл.денег) | 58.82 | 89486664 | 2017-02-18 21:56 | |
| возобновить | завершен | Продажа WMB (эл.денег) | 54.12 | 89486453 | 2017-02-18 21:48 | |
| возобновить | завершен | Продажа WMB (эл.денег) | 56.47 | 89483185 | 2017-02-18 20:04 | |
| возобновить | завершен | Продажа WMB (эл.денег) | 56.47 | 89482233 | 2017-02-18 19:39 | |
| возобновить | завершен | Продажа WMB (эл.денег) | 107.35 | 89481272 | 2017-02-18 19:15 | |

**Апошнія транзакцыі на адным з кашалькоў, які здадзены ў «арэнду» наркагандлярам невядомымі злачынцамі.**

# А з ахоўнай зоны вывелі задняй датай

У чым сутнасць канфлікту вакол будоўлі каля Курапат?

### Што ўвогуле адбываецца?

На лапіку зямлі паміж вуліцай Мірашнічэнкі і МКАД кампанія «Белрэканструкцыя» пачынае будаўніцтва пяціпавярховага офіснага будынка. Мясцовыя жыхары і салідарныя з імі «маладафронтаўцы» спрабуюць спыніць будоўлю.

### Хто дазволіў будаўніцтва?

Участак плошчай 0,32 га кампанія «КІПрэканструкцыя» ўзяла ў арэнду яшчэ ў 2013 годзе, выйграўшы гэта права на аўкцыёне. Дарэчы, плаціць арандатар зусім нямнога — каля 600 рублёў на месяц.

Калі кампанія сабралася пачынаць будаўніцтва, раённыя ўлады арганізавалі грамадскія слуханні, супольныя для жыхароў Савецкага і Першамайскага раёнаў Мінска. Людзі выступалі супраць любога новага будаўніцтва — забракавалі і паркінгі, і кафэ, і нават паліклініку. Аднак ці то не звярнулі ўвагу на планаваны бізнэс-цэнтр, ці то прапановы не трапілі ў пратакол.

У Адміністрацыі Савецкага раёна тлумачаць, што ўсе неабходныя дакументы ёсць: рашэнне Мінгарвыканкама, заключэнне дзяржаўнай экспертызы, а таксама дазвол Дэпартамента кантролю і нагляду за будаўніцтвам па Мінску.



Людзі не даюць будаўнікам распачаць работы

### У чым прэтэнзіі мясцовых жыхароў?

Жыхары дамоў па вуліцы Мірашнічэнкі ў прынцыпе не хочуць ніякага будаўніцтва пад сваімі вокнамі. Яны мяркуюць, што бізнэс-цэнтр створыць праблемы з паркоўкамі (у праекце запланавана толькі 40 машына-месцаў). Таксама іх абурае высечка дрэваў.

Ды і ўчастак быў аддадзены ў арэнду яшчэ ў 2013 годзе, задоўга да грамадскага абмеркавання. Дэталёвы план пасля абмеркавання ў 2016 годзе адправілі на дапрацоўку, а будаўніцтва пачалі, не чакаючы зацвярджэння гэтага плана.

### Чаму тэма зацікавала грамадскасць?

Рэзанансу тэме дадала блізкасць да Курапатаў. Асноўная частка магілаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій знаходзіцца на процілеглым баку МКАД.

Зону аховы, на тэрыторыі якой нічога будаваць нельга, упершыню вызначылі ў 2004 годзе. Дакумент адразу быў пазначаны як часовы. Карта, прыкладзеная да яго, вельмі недакладная, бо археалагічныя працы не праводзіліся.

У 2013 годзе, пасля канфлікту з «Бульбаш-холам», які падступіў да самых курапацкіх крыжоў, архітэктару Вадзіму Глінніку замовілі скласці праект новых ахоўных зонаў. Ён прааналізаваў усе існуючыя дакументы і карты і прапанаваў свой варыянт.

Па ягоным праекце, лапік зямлі, дзе цяпер пачынаецца будоўля, уваходзіў у склад ахоўнай зоны. Аднак Міністэрства культуры, якое мела права ўносіць змены ў праект Глінніка, трохі змяніла мяжу — якраз каб вывесці патрэбны кавалак зямлі з-пад абмежаванняў.

Межы ахоўнай зоны вакол Курапатаў былі зацверджаныя пастановай Міністэрства культуры №70 ад 1 снежня 2014 года. На той момант спрэчная зямля ўжо была прададзеная на аўкцыёне.

### Ці могуць падчас будоўлі знайсці парэшткі ахвяраў Курапат?

У кожнага з бакоў канфлікту свая праўда.

У лесе, побач з якім вядзецца будаўніцтва, пахаванні ёсць. Прычым падчас расстрэлаў там было поле, такое самае як і на месцы цяперашняга будаўніцтва. Таму абаронцы Курапатаў не выключаюць, што экскаватары дастануць з-пад зямлі косткі.

Забудоўшчык пераконвае, што імавернасць гэтага нулявая. Маўляў, на гэтым лапіку зямлі пракладзеная безліч водаправодных і электракабеляў. Пры іх пракладцы ніякіх парэштак не знаходзілі.

Архітэктар Вадзім Гліннік, які рабіў найбольш грунтоўнае даследаванне, сцвярджае, што на месцы канфлікту раней былі вясковыя агароды.

Абаронцы Курапат лічаць справу прынцыповай. Калі чыноўнікі так лёгка падмахнулі вывад гэтай пляцоўкі з ахоўнай зоны, то ёсць небяспека, што ад мемарыяла будуць адразаць кавалкі і ў будучыні.

**Ягор Марціновіч**

## Топ-5 рэплік з круглага стала пра Курапаты, арганізаванага «Советской Белоруссией»

У дыскусіі на «круглым стале» ўдзельнічалі першы намеснік старшыні КДБ генерал-маёр **Ігар Сяргеенка**, упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў **Леанід Гуляка**, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук доктар гістарычных навук **Аляксандр Каваленя**, дэкан факультэта міжнародных адносін БДУ доктар гістарычных навук **Віктар Шадурскі**, дацэнт кафедры факультэта міжнародных адносін БДУ кандыдат гістарычных навук **Ігар Кузняцоў** і кандыдат гістарычных навук **Уладзімір Адамушка**. Вёў дыскусію галоўны рэдактар «СБ» Павел Якубовіч.

Удзельнікі «круглага стала» прапануюць стварыць у Курапатах Усебеларускі мемарыял памяці і смутку ў памяць аб нявінна забітых і пахаваных у розных кутках Беларусі ў тыя гады:

«Пры дапамозе дзяржавы, усіх беларусаў, незалежна ад іх канфесійных і палітычных прыхільнасцяў, нам трэба стварыць на месцы пахавання памятны знак, акультурыць тэрыторыю, разам падтрымліваць на ёй такі парадак, каб кожны ахвотны мог прыйсці і аддаць належнае памяці нашых продкаў.

У гэтым працэсе галоўнае месца павінна належаць дзяржаўным органам і грамадскасці, палітычным і моладзевым арганізацыям, партыям. Туды мусяць прыходзіць хлопцы з БРСМ і «маладафронтаўцы», усе, хто любіць Беларусь і жадае ёй дабра.

**Працяг на старонцы 8.**

## Хто гэты Пальчэўскі, які прыкаваў сябе да МАЗа ў Курапатах?

Мінчук Сяргей Пальчэўскі лёг пад колы грузавіка і прыкаваў сябе кайданкамі да бампера, каб спыніць будаўнічыя работы ў Зялёным Лузе каля Курапат.



ІРЫНА АРЛОЎСКАЯ



«Буду ляжаць, пакуль не здохну», — сказаў 30-гадовы Пальчэўскі. Ён кажа, што пайшоў на крайні крок, бо не бачыць іншых шляхоў спыніць будаўніцтва на пляцоўцы, якая раней уваходзіла ў ахоўную зону мемарыяла.

Сяргей Пальчэўскі — мінчук, скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт, а цяпер зарабляе цяслярствам. Раней ён працаваў майстрам на заводзе «Атлант».

У 2012 годзе ён прыйшоў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю, а крыху больш за год таму пазнаёміўся са Змітром Дашкевічам і стаў актывістам «Маладога фронту».

Калі прыехалі ратавальнікі, то ён сам адшпіліў кайданкі, каб не рэзалі. Міліцыя спрабавала затрымаць хлопца, але людзі грамадой адбілі. Гэты эпізод трапіў на відэа «Нашай Нівы». Яго можна пабачыць у Youtube.

Для Пальчэўскага Курапаты не пусты гук. У 1937-м быў рэпрэсаваны яго прадзед — Волюсь Каралецкі. «Ён быў з Уздзенскага раёна. Вядома толькі, што яго трымалі ў турме пад Оршай, а дзе пахаваны — ніхто не ведае. Гэта быў бацька маёй бабулі па мячы. Пасля смерці Сталіна яго рэабілітавалі».

«Спачатку было холадна, але потым мяне абклалі коўдрамі, грэлкамі», — расказаў «Нашай Ніве» Пальчэўскі, які праляжаў на халоднай зямлі каля трох гадзін.

**Мікола Бугай, Зміцер Панкавец**

# Мінчукі назносілі абаронцам Курапат цэлую палатку прадуктаў, з Вілейкі прывезлі дровы

Каля будпляцоўкі стаяць шэсць намётаў. Адзін з іх ператвораны ў прадуктовы склад. Ён цалкам завалены прыпасамі. Мінчукі нанеслі сасісак, цукерак, кавы, печыва. Есць згушчонка і кетчупы. Хлеба насыпалі цэлы мех.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Жыхары сталіцы з сімпатыяй паставіліся да пратэстоўцаў супраць пабудовы офіснага цэнтра ля Курапат. Ручаінка людзей цягнулася туды цэлыя выхадныя. На імправізаваным стале з паддонаў стаіць дзясятак тэрмасаў.

Адны прыходзяць, другія сыходзяць. Дзясятак чалавек начуе.

Як кажуць «вахтавікі», максімум народу было ў нядзелю, асабліва калі 80 пратэстантаў з адной з мінскіх цэркваў прыехалі туды на маленне. Увечары 26 лютага а 20-й карэспандэнт «Нашай Нівы» налічыў на пляцоўцы 80 чалавек. Мужчын і жанчын прыкладна пароўну.

Пратэстоўцы паставілі 4 крыжы. На паркане вісяць здымкі расстраляных у Курапатах і інфармацыя пра мемарыял.

Жыхарка сталіцы Таццяна Гацура-Яворская прывезла экран і праектар і паказвала відэафільмы пра людзей, што прайшлі праз сталінскія лагеры.

Удзельнікі намётавага мястэчка падпарадкоўваюцца цесляру Змітру Дашкевічу, апранутаму ў дажджавік.

Людзі грэюць рукі каля вогнішчаў, разведзеных у бочках.

Пад нагамі раскладзеныя паддоны, каб ногі не моклі. Паўз намёты часам праходзяць амапаўцы. Ахова намётаў трымае з імі канструктыўны кантакт.

Абаронцы Курапат лічаць, што прынцыпова важна не дапусціць пачатку будаўнічых работ.

**Мікола Бугай**



**На нашых вачах група хлопцаў на чале з настаўнікам фізкультуры з Вілейкі прывезла на легкавіку дровы. А медзведзяваты мужчына прыцягнуў Дашкевічу вялікую каністру паліва для электрагенератара. «Падчас першага стаяння ў Курапатах нічога такога не было, — успамінае Дашкевіч. — Нам есці не было чаго. Як змянілася атмасфера!» — кажа ён.**



# Алесь Кіркевіч: «Адзін збіў з ног, а другі ўдарыў калом па галаве». Няўжо міліцыя не знойдзе нападнікаў?

«Адзін збіў з ног, а другі ўдарыў калом па галаве», — расказвае журналіст Алесь Кіркевіч, які пацярпеў пры нападзе невядомых на намёт пратэстоўцаў супраць пабудовы офіснага цэнтра ў Зялёным Лузе каля Курапат.

Пачатак будоўлі выклікаў абурэнне мясцовых жыхароў, а таксама людзей, чые продкі былі расстраляныя ў Курапатах у 1929—1941 гадах.

Як высветлілася, забудова лапіка між МКАД і вуліцай Мірашнічэнкі стала магчымая, бо ў 2014 годзе Міністэрства культуры дазволілі змяніць мяжу ахоўнай зоны некропаля ў Курапатах. Між тым участак у арэнду быў выдзелены ў 2013 годзе, што было парушэннем і дае фармальную нагоду для адмены рашэння.

23 лютага ўначы каля 3-й гадзіны 15—20 маладзёнаў напалі на дзясятак юнакоў, што вартавалі каля будпляцоўкі. Частка «вартаўнікоў Курапат» уцякла ў лес, другая аказала супраціў.

Нападнікі раскідалі намёт, сарвалі беларускія сцягі і перакулілі бочку з вогнішчам. Пры гэтым яны гукалі «Белая раса!».

Хто яны былі?

«Мне падалося, што яны хацелі стварыць уражанне, што гэта фанаты, — кажа Кіркевіч. — Выгукаў «Слава Расіі» асабіста я не чуў, толькі «Белая раса!».

Кіркевіч апісвае нападнікаў як маладых людзей ва ўзросце да 25 гадоў. На ягоную думку, гэта не маглі быць пераапранутыя спецназаўцы, якія б дзейнічалі больш прафесійна.

«Магчыма, гэта былі курсанты ці спартоўцы», — выказвае меркаванне ён.

Ягоную ўвагу звярнуў той факт, што за пару гадзін да з'яўлення цітушак з будпляцоўкі зніклі міліцыянты-цівары і з'ехаў «козлік» з амапаўцамі.

Пасля хвіліннага нападу хуліганы сышлі праз тунэль у бок Курапат.

Журналістаў, акрамя Кіркевіча, на вахце ў момант нападу не было.

Курапаты — месца, дзе Саветы расстралялі дзясяткі тысяч грамадзян Беларусі. Гэта была частка палітыкі, скіраванай на вынішчэнне нацыянальных эліт, здольных узначаліць супраціў паняволеных народаў. У Беларусі былі загубленыя практычна ўсе багатыя сяляне, большасць пісьменнікаў, міністраў, акадэмікаў, а пазней, у некалькі прыёмаў, самі чэкісты, якія ўдзельнічалі ў арыштах і расстрэлах.



SVABODA.ORG

Кіркевіч не рашаецца рабіць здагадак, хто мог арганізаваць напад.

Але вельмі сумнеўна, каб нехта мог у межах МКАД гэткае правярнуць незаўважна для органаў унутраных спраў.

Міліцыя абмяжоўваецца заявай, што праводзіць праверку па факце інцыдэнту.

«На спецлінію 102 паступіла паведамленне аб тым, што на грамадзян у Савецкім раёне сталіцы напалі два дзясяткі невядомых асобаў. Да месца здарэння неадкладна быў накіраваны нарад супрацоўнікаў міліцыі Савецкага РУУС Мінска, былі праведзены папярэднія праверачныя мерапрыемствы. Па стане на 9 гадзін раніцы грамадзяне, якія звярнуліся ў міліцыю, ад напісання заяў і ад якіх-небудзь тлумачэнняў адмовіліся. Разам з тым па факце, які паступіў ад іх звароту ў міліцыю, праводзіцца праверка», — сказаў «Нашай Ніве» прэс-сакратар ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Ластоўскі.

**МБ**

# Апошнія сведкі расстрэлаў у Курапатах сабраліся ў Мінску

З 22 па 28 лютага ў Палацы мастацтваў у Мінску прайшла выстава «Праўда пра Курапаты».

На адкрыццё яе прыйшло больш за 100 чалавек. Прамаўлялі арганізатар выставы пенсіянер Марат Гаравы, паэт Алесь Разанаў, спявалі барды.

Не маглі прамоўцы абысці ўвагай сённяшнюю сітуацыю ў Курапатах. Гэты новы канфлікт, адзначыў Марат Гаравы, выкліканы ў першую чаргу рашэннем Міністэрства культуры.

Арганізатары адшукалі і запрасілі на выставу апошніх сведкаў курапацкіх падзей. Іх было трое — жанчына і два мужчыны. Яшчэ адна сведка захварэла і не змагла прыехаць. Яны былі дзецьмі ў 1930—40-я і жылі, як выказаўся Гаравы, пры самым плоце, якім тады былі абнесеныя Курапаты. Яны ведалі пра расстрэлы ад старэйшых, самі чулі стрэлы і бачылі энкавэдыстаў. Зала сустракала сведкаў воплескамі, ім дарылі жывыя кветкі.



Павал Міхалевіч з Цна-Ёдкава пераказаў даследчыкам успаміны свайго бацькі Герасіма, які шматкроць чуў ва ўрочышчы Брод страляніну і крыкі людзей.



Сяргей Гудзілін

Арганізатары выставы сабралі і праекты мемарыяла ў Курапатах. Самым цікавым з іх падаецца праект маладых польскіх архітэктараў, якія прапанавалі стварыць у Курапатах Цэнтр нацыянальнай памяці — цэлы комплекс з музеем і капліцай. Прапануюцца і больш традыцыйныя мануманты.

Так супала, што ў дзень адкрыцця выставы ў Мінску быў польскі кінарэжысёр Кшыштаф Занусі (ён прыехаў атрымаць званне доктара honoris causa Мінскага інстытута працоўных і сацыяльных адносін). Занусі ўдумліва слухаў трагічныя сведчанні. А гісторыю пра энкавэдыста, які жыў у недалёкай ад Курапатаў вёсцы, паклаў у Курапатах двух сваіх суседзяў, чым пасля п'яны выхваляўся, Занусі назваў цалкам кінематаграфічнай.

**Сяргей Мікулевіч**



Зоя Залецкая — родам з блізкай ад Курапатаў вёскі Цна-Ёдкава. Яе бацька Уладзімір Залецкі таксама быў рэпрэсаваны, але ўцёк з калымскага лагера і доўга жыў пад выпраўленым прозвішчам.



Алесь Генералаў з Цна-Ёдкава шасцігадовым хлапчуком пералез цераз плот, якім былі абнесеныя Курапаты. Энкавэдыст, што ахоўваў тэрыторыю, так яго напалохаў, што пасля Алесь баяўся нават падыходзіць туды. Па начах з-за плота чуліся стрэлы. Забіваюць «ворагаў народа», казалі ў вёсцы.

## Прапануецца абвясціць акцыю па зборы сродкаў на мемарыял у Курапатах

Акцыю па зборы сродкаў для стварэння Усебеларускага мемарыяла памяці і смутку ў Курапатах прапануецца правесці ў Беларусі. З адпаведнай ініцыятывай выступілі ўдзельнікі круглага стала «Курапаты — мемарыял памяці і смутку» ў газеце «Советская Белоруссия».

На думку галоўнага рэдактара «СБ» Паўла Якубовіча, трэба абвясціць дабрачынную акцыю па зборы сродкаў на стварэнне такога мемарыяла. «Наступны крок — падключыць як мага больш ахвотных да распрацоўкі праекта памятнага знака.

Рашэнне павінна быць нестандартным, сучасным. Паказвае, што мы з XXI стагоддзя схіляем галовы перад памяццю ахвяр, перад нявінна забітымі, — сказаў ён. — Таму павінны быць максімальна шырокі конкурс, публічнае абмеркаванне ідэй, каб як мага больш людзей выказала сваё меркаванне».

Варыянты пры гэтым могуць быць рознымі: ад школьных сачыненняў на тэму трагедыі да глыбокіх навуковых канферэнцый, з'яўлення новых кніг, кінафільмаў.

«А ў пытанні добраўпарадкавання неабходна падключыцца і ўладам, і дзяржорганам, — мяркуе Павел Якубовіч. — Калі мы будзем спадзявацца толькі на якога-небудзь палітычна ангажаванага мысляра, мы нічога не даб'емся.

І мы, усе СМІ краіны, павінны данесці да грамадства, да моладзі галоўную думку: як бы ні было складана, трэба адкінуць усё лішняе і ўжо вясной пад эгідай гарвыканкама ці іншай арганізацыі, з удзелам і БРСМ, і «маладафронтаўцаў», і іншых моладзевых арганізацый, усе ахвотныя павінны з'явіцца ў Курапатах з інструментамі і прыбраць магілкі, як гэта заведзена хрысціянскімі і наогул людскімі звычаямі».

Таксама на думку галоўнага рэдактара «СБ», гэтае месца ў перспектыве павінна стаць турыстычным аб'ектам, са змястоўнымі экскурсіямі, кваліфікаванымі гідамі.

«Тут можна будзе праводзіць урачыстыя рытуалы. І не таптаць нагамі спарахнелыя косці, што зараз робяць некаторыя арганізацыі, лічачы гэта «асабістай тэрыторыяй», а праводзіць сапраўды глыбокія, грамадска важныя рытуалы. Напрыклад, на Дзяды, Радаўніцу.

Там могуць праводзіцца сумесныя набажэнствы духавенства за дзяржаву, беларускі народ», — адзначыў ён.

«Я як рэдактар буду звяртацца на высокі палітычны ўзровень, у кіраўніцтва Адміністрацыі прэзідэнта, каб ідэі, выказаныя за нашым круглым сталом, былі падтрыманы і ўлада ўзяла іх пад сваю апеку. І адкрыццё гэтага памятнага знака павінна прайсці на высокім дзяржаўным узроўні», — дадаў Павел Якубовіч.

У сваю чаргу кандыдат гістарычных навук Уладзімір Адамушка падтрымаў ідэю аб тым, што стварэнне мемарыяла ў Курапатах павінна стаць дзяржаўна-грамадскім праектам. А каардынацыю неабходна даручыць Мінгарвыканкаму. «Усё ж такі гэта яго тэрыторыя. Калі гэтым не будзе займацца дзяржаўная структура, справа не пойдзе», — сказаў ён.

З гэтым пагадзіўся і дэкан факультэта міжнародных адносін БДУ доктар гістарычных навук Віктар Шадурскі: «Гэта, вядома, павінен быць народны помнік, пабудаваны і на дзяржаўныя, і на народныя сродкі. Зразумела, мы не павінны рабіць упор на нейкія рэлігійныя канфесіі, на пэўныя этнасы. Гэта павінен быць агульначалавечы, гуманістычны мемарыял».

Першы намеснік старшыні КДБ генерал-маёр Ігар Сяргеенка звярнуў увагу на тое, што гэты памятны знак павінен аб'ядноўваць, а не адлюстроўваць інтарэсы пэўнай нацыі, канфесіі або палітычнай групы. «У перспектыве гэта можа быць і філіялам нашага Нацыянальнага гістарычнага музея. Шэфства можа ўзяць і БДУ. А ў далейшым, вядома, трэба працягнуць даследчыя работы», — мяркуе ён.

**БелТА**

## Топ-5 рэплік з круглага стала пра Курапаты, арганізаванага «Советской Белоруссией»

**Працяг са старонкі 6.**

Курапаты павінны стаць сапраўдным агульнанацыянальным мемарыялам».

Прапануем яркія цытаты удзельнікаў дыскусіі.

**Л.Гуляка:** Безумоўна, Курапаты — гэта месца незалежна ад таго, хто там расстраляны і па якіх матывах, заслугоўвае ўшанавання. Заслугоўвае прызнання. Іншая справа, што ў грамадстве ёсць невялікая група, нават не зусім зрэз грамадства, а менавіта група, якая хацела б гэтую тэму «прыватызаваць». І зрабіць Курапаты «сваім месцам», у тым ліку і для супрацьстаяння ўладзе. Тым не менш улада абсалютна роўна ставіцца да ўсіх. Мяркую па ўласнай прафесійнай дзейнасці: больш за 10 гадоў я працую з нацыянальнымі меншасцямі (прадстаўнікі 141 нацыянальнасці пражываюць у Беларусі), і ні ад каго з іх за ўвесь гэты час не чуў тэмы Курапатаў. Гэта я да таго, каб мы сваімі размовамі не парушылі няўзнак гэту раўнавагу. Усё гэта вельмі тонкія тэмы…

**А.Каваленя:** Думаю, усе згодныя з тым, што Курапаты — гэта нацыянальная трагедыя. Але нам спрабуюць навязаць іншую думку: Курапаты — гэта сімвал беларускага народа. Курапаты такім сімвалам ніколі быць не могуць! Могілкі не могуць быць сімвалам народа. Калі мы пойдзем па гэтым шляху, гэта прывядзе нас да падзелу грамадства. Таму мне здаецца правільнай ідэя зрабіць з Курапатаў сімвал, які аб'ядноўвае, — паставіць там знак або капліцу, якія б у мастацкай форме паказвалі ўсю трагедыю, перажытую беларускім народам у 1930—1940-я гады.

**І.Сяргеенка:** Ніякага падыходу па нацыянальнай прыкмеце ў рэпрэсіях тых гадоў не было. І беларусы, і рускія, і ўкраінцы, і габрэі, і палякі — словам, прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцяў, якія пражывалі на тэрыторыі Беларускай ССР, — усе яны на тых ці іншых падставах падвяргаліся неабгрунтаваным рэпрэсіям. Выходзіць трэба з гэтага!

**В.Шадурскі:** Палітычныя рэпрэсіі — гэта трагедыя і злачынства адначасова. Сёння нам часам цяжка нават вызначыць, хто там быў ахвярай. Рэпрэсіі нагадвалі сабой сякеру, якая спачатку спрабавала секчы галовы вінаватым, а потым усім запар, у тым ліку катам. Яны таксама ёсць сярод ахвяр. Гэта вялікая трагедыя для ўсіх народаў, і наўрад ці мы маем права гаварыць, што нейкая этнічная група пацярпела больш альбо менш.

**П.Якубовіч:** Вельмі па-дылетанцку, а часам подла казаць, што гэта, маўляў, «руская бальшавікі» вырашылі знішчыць у 1937 годзе беларускую эліту. Глупства! Кіраўніцтва партыі і НКВД самі былі людзьмі без нацыянальнасцяў, у гэтым сэнсе тэрор быў безабліччым. Што з таго, што Яжоў нарадзіўся ў польска-беларускай вёсцы, наркам Берман — у Забайкаллі, а першы сакратар ЦК КП(б)Б Шаранговіч, які кіраваў у 1937 годзе ў Мінску, паходзіў з нарачанскай вёскі Качаны? А Сталін быў наогул грузін Джугашвілі?

# Іосіф Сярэдзіч: Пакуль Беларусь не палыхнула, трэба садзіцца за круглы стол

**Галоўны рэдактар «Народнай волі» Іосіф Сярэдзіч 13 лютага сустрэўся з кіраўніком Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Сустрэча доўжылася амаль дзве гадзіны. Сярэдзіч у інтэрв'ю «Нашай Ніве» расказаў аб сваіх уражаннях.**

«Уражанні самыя станоўчыя. У мяне не было адчування, што я ўступіў у дыскусію, сур'ёзную размову з прэзідэнтам. Мы селі адзін насупраць аднаго і на працягу гадзіны сорак — мільён жа пытанняў, праблем, закранаеш адно, потым другое, трэцяе — пагутарылі. Сапраўды, адбылася размова з вока на вока. Нікога іншага не было.

Размова была з некалькіх блокаў. Першы блок — гэта пытанні агульнанацыянальнага маштабу. Можна канстатаваць, што Беларусь перажывае не самыя лепшыя часы. Ёсць пэўныя сілы, якія падштурхоўваюць да разборак. Разборкі могуць быць на майдане, плошчы ці за спінай. Я прыхільнік таго, каб любыя спрэчныя праблемы вырашаліся мірна.

Мы бачым, што творыцца сёння ў нашых паўднёвых суседзяў і ў больш далёкіх краінах. Я б не хацеў, каб палыхнула тут, у Беларусі. Пакуль не позна, трэба знайсці магчымасць сесці за нацыянальны круглы стол, за якім і можна знайсці паразуменне па ўсіх актуальных пытаннях. Мне здаецца, што прэзідэнт правільна зразумеў прапанову.

Я выклаў прэзідэнту свае бачанне, як можна арганізаваць гэты круглы стол, агучыў свае схематычныя накіды, ён папрасіў больш дэтальна, магчыма, пісьмова падрыхтаваць прапановы. Я бачу, што Аляксандр Рыгоравіч не адкідвае прапановы і ў прынцыпе ён прыхільнік не валявымі сцэнарамі разрульваць складаную эканамічную, палітычную, сацыяльную сітуацыю, а менавіта шляхам дыялогу ўлады з грамадствам. Будзем спадзявацца, што ўсё пойдзе менавіта такім шляхам.

Я згадаў генерала Ярузэльскага, які ў складаны для Польшчы час сам даў дабро на круглы стол, які вывеў Польшчу на стабільны шлях развіцця.

У другім блоку я выступаў у ролі адваката СМІ, прыхільніка свабоды слова і дэмакратыі.

Напярэдадні я сустрэўся з кіраўніком БАЖ Андрэем Бастунцом, узяў раздрукоўку, у якім стане знаходзяцца нашы рэгіянальныя недзяржаўныя СМІ. Я сказаў, што гэта смехатура, Еўропа схіляне нас пры кожнай магчымасці за адсутнасць свабоды слова. У нас усяго восем недзяржаўных рэгіянальных газет, што зменіцца ад таго, калі «Барысаўскія навіны» атрымаюць магчымасць размяркоўвацца праз



шапікі? Там набярэцца нейкіх дзесяць шапікаў. Ну хай тыраж падымецца на 2—3 тысячы. Што, зямля пахіснецца ў некага пад нагамі ад таго?! Баяцца канкурэнцыі «раёнкі». Дык няхай канкуруюць! Калі «раёнка» возьме верх над незалежнай газетай, то рэдактар апошняй задумаецца. Ужо даўным-даўно наступіў час вывесці «раёнкі» з падпарадкавання мясцовых князькоў з райвыканкамаў. Калі нешта не так, то ёсць жа суд.

Лукашэнка папрасіў перадаць калегам, што пытанне з недзяржаўнымі рэгіянальнымі СМІ будзе вырашана на сто працэнтаў.

Я вярнуўся да словаў Лукашэнкі, сказаных дзесяць дзён таму, што тэрмін яго прэзідэнцтва, хочаш ці не хочаш, блізіцца да сканчэння. І адзінае яго пажаданне, каб улада перадавалася мірным шляхам, а не праз майдан і калатнечу. І я папрасіў пацвердзіць яго тыя словы. Ці правільна мы, журналісты, яго зразумелі, што ён ужо не трымаецца пасады, вечнага ж нічога няма. Ён сказаў, што ягоная пазіцыя такая ж, як было агучана на папярэдняй сустрэчы.

Вы думаеце, прэзідэнцтва — лёгкая праца? Не, я б ні за якія грошы не хацеў бы. На гэта гатовыя людзі, якія ахвяруюць сабой. Я сустракаўся з прэзідэнтам не дзеля таго, каб учыняць разборкі, што ён мяне спіхнуў з пасады. Нас сёння павінен цікавіць заўтрашні дзень Беларусі, а не гісторыя.

Пачыналі размаўляць пабеларуску, а потым неяк перайшлі на рускую, каб размова была больш інтэнсіўная. Ён сказаў, калі хочаш, то можам увесь час гаварыць пабеларуску. «Не хапае практыкі», — сказаў Лукашэнка».

**Запісаў Зміцер Панкавец**

# Ураджэнец Беларусі арганізоўваў прарасійскія акцыі ў Польшчы

Украінскія хакеры ўскрылі, як расейцы ладзяць антыўкраінскія акцыі ў Польшчы.

Адносіны Польшчы і Украіны нельга назваць ідэальнымі, цяжкім грузам ляжаць такія гістарычныя падзеі, як Валынская разня, ды і больш раннія. Безадказныя палітыкі з абодвух бакоў толькі падліваюць алею ў агонь, замест таго, каб знаходзіць кампрамісы.

Ні для каго не сакрэт, што ў Польшчы ёсць група грамадзян, якія негатыўна ставяцца да ўкраінцаў. Цяпер высвятляецца, што гэткі антаганізм шчодра фінансуецца з Расіі.

Высветлілася, што за антыўкраінскімі акцыямі ў Польшчы стаіць грамадзянін Беларусі (ёсць нават фота яго пашпарта) Аляксандр Усоўскі. Яму 48 гадоў, родам з Белаазёрска.

У 2013 годзе Усоўскім у Славакіі зарэгістраваная «Усходнееўрапейская культурная ініцыятыва» (*Východoeurópska*




*kultúrna iniciatíva*), якая пачынае пошук сродкаў. У выніку Усоўскі выходзіць на Інстытут краін СНД, які ўзначальвае дэпутат Дзярждумы Расіі Канстанцін Затулін.

Усоўскі па-хуткаму накідаў Затуліну свой праект па стварэнні парасонавай прарасійскай арганізацыі, якая будзе працаваць на Венгрыю, Польшчу, Славакію і Чэхію. Месячны бюджэт — $42 тысячы. У выніку Усоўскі стаў пісаць Затуліну аналітыку па гэтым рэгіёне.

Усоўскі стаў уплываць на палітычнае жыццё Польшчы. Напрыклад, ён дамаўляўся з Польскай сялянскай партыяй, каб яна ўключыла ў свае спісы на парламенцкіх выбарах нацыяналістаў з *Obóz Wielkiej Polski*, каб у выніку стварыць у Сейме прарасійскую групу. На гэта Ускоўскі прасіў ні многа ні мала — 285 тысяч еўра.

У выніку спадар Усоўскі абзавёўся сувязямі з польскімі радыкаламі правага і левага толку, еўраскептыкамі. Прыкладна гэтак расійскія спецслужбы працуюць у многіх краінах Еўропы.

Менавіта маргінальныя польскія арганізацыі ладзілі акцыі супраць украінскіх уладаў, а таксама ў падтрымку Наваросіі. На кожную такую акцыю з Масквы прасілі па 3—4 тысячы еўра — на ўлёткі, сцягі, чай, бутэрброды.

Уся перапіска Аляксандра Усоўскага з пошты выкладзеная ў адкрыты доступ. Таксама хакерамі ўзламаны фэйсбук Усоўскага. Цікава, што з перапіскі паўстае асоба прарасійскага блогера з Беларусі Аляксея Дзерманта, які вельмі баіцца, што ўкраінцы зліюць нейкую інфармацыю на яго беларускім «опам».

«Наша Ніва» звязалася з асобамі, якія атрымалі доступ да перапіскі Усоўскага ў фэйсбуку. Найбліжэйшым часам яна таксама будзе выкладзеная ў адкрыты доступ.

Аляксандр Усоўскі, дарэчы, вельмі часта каментаваў фэйсбук Аляксея Дзерманта. Яшчэ нядаўна гэтыя рэплікі былі на старонцы Аляксея, але пасля публікацыі хакераў Дзермант выдаліў усе каментары Усоўскага.

**ЗП**

# Ксёндз выйграў суд у ДАІ



Вячаслаў Барок, пробашч касцёла Святога Антонія ў Віцебску, абвінавачваўся ў тым, што летась 1 ліпеня парушыў правілы дарожнага руху на каталіцкім фэсце ў Будславе.

Святар нібыта незаконна прыпаркаваў аўто на скрыжаванні.

Пасля Барок тлумачыў, што ў дзень свята рух у Будславе перакрываецца, праехаць на спецыяльна адведзеную стаянку могуць толькі святары і прадстаўнікі ўладаў. Але супрацоўнікі ДАІ не прапусцілі святара да гэтай стаянкі і аштрафавалі яго на 42 рублі.

Вячаслаў Барок штраф не аплочваў і некалькі разоў аспрэчваў пратакол. Спачатку падчас адміністратыўнага працэсу святара прызналі вінаватым. Але пасля скаргі суд Фрунзенскага раёна Мінска ў кастрычніку 2016 года накіраваў на дапрацоўку ў ДАІ пратакол аб парушэнні і прыцягненні да адказнасці ксяндза.

І вось 9 лютага суд Фрунзенскага раёна Мінска ўсё ж вырашыў спыніць адміністратыўны працэс у дачыненні да святара.

«Там даішнікі ўжо самі пачалі блытацца ў версіях: спачатку яны сцвярджалі, што спынілі мяне, бо не зразумелі, ці то я ксёндз, ці то не... Пасля яны казалі, што я ўжо сам спыніўся на тым перакрыжаванні... Ну і вось, нарэшце, суд зразумеў, што нічога я не парушаў», — распавёў «Нашай Ніве» Вячаслаў Барок.

**УШ**

## Бюджэтныя датацыі маюць стаць даступнымі для недзяржаўных СМІ

**Працяг са старонкі 2.**

Але гэтыя датацыі пачнуць рэальна працаваць на карысць здаровай канкурэнцыі і плюралізму, толькі калі яны стануць даступныя і для недзяржаўных выданняў.

Нам трэба змагацца за тое, каб «Наша Ніва», БелаПАН, «Народная воля», «Інтэкс-прэс» ды ўсе іншыя выданні маглі прэтэндаваць на дзяржаўную падтрымку.

А як дзяліць? У залежнасці ад 1) долі аўдыторыі, 2) з улікам беларускай спецыфікі — таксама і для фінансавай падтрымкі кантэнту на нацыянальнай мове, 3) па іншых справядліва вызначаных крытэрах. У Скандынавіі і Францыі сродкі размяркоўваюць спецыяльныя органы, і адным з крытэраў з'яўляецца забеспячэнне плюралізму на розных узроўнях (напрыклад, каб у кожным рэгіёне былі газеты з рознымі палітычнымі пазіцыямі).

Для таго, каб недзяржаўныя выданні сталі моцнымі, а канкурэнцыя — здаровай, мала таго, каб усіх вярнулі ў сістэмы распаўсюду і запрашалі на прэс-канферэнцыі Лукашэнкі. Для гэтага неабходна, каб у краіне была выбудаваная галосная раўнапраўная сістэма размеркавання дзяржаўных датацый сярод розных форм медыяў.

Роўнае стаўленне да ўсіх ліквідуе дыскрымінацыю, але адначасова будзе засцярогай ад безадказных паводзінаў самых СМІ.

Сукупнасць платнага доступу да сайтаў і дзяржаўная падтрымка ўсіх відаў СМІ могуць стварыць сапраўдную канкурэнцыю на рынку.

**Андрэй Дынько**

# Пятае пакаленне баявой авіяцыі. Хто каго?

У другой палове XIX ст. пачалася першая маштабная гонка ўзбраенняў. У той час драўляныя караблі страцілі сваю вартасць, і ўсе краіны свету, якія мелі хоць нейкія замежнапалітычныя амбіцыі, пачалі будаваць караблі з металічнымі карпусамі.

Улада над морамі мела прынцыповае значэнне. Той, хто меў найбольшы патэнцыял для масавага будавання караблёў і найноўшыя тэхналогіі, атрымліваў заўважную перавагу над праціўнікам.

Тое самае адбылося праз некалькі дзясяткаў год са з'яўленнем у 1906 годзе дрэдноўтаў — цяжка браніраваных артылерыйскіх караблёў, кожны з якіх разы ў тры па магутнасці ўзбраення пераўзыходзіў караблі папярэдніх канцэпцый.

Ізноў пачалося спаборніцтва па абнаўленні флатоў. У выніку гэтыя караблі сталі індыкатарам эканамічнай і вайсковай магутнасці. Валодалі дрэдноўтамі не толькі краіны першага парадку, аднак спусціць іх на ваду ў сваім доку маглі толькі краіны, якія ўваходзілі ў спіс самых уплывовых у свеце.

Штосьці падобнае адбываецца і ў нашы дні ў сферы баявой авіяцыі.


Дследны беспілотнік X-47B на авіяносцы George H.W. Bush (CVN-77).

**Пятае пакаленне баявой авіяцыі** — пра вызначэнне характарыстык гэтага пакалення спецыялісты спрачаюцца, што ў значнай ступені звязана з пытаннямі прапаганды і змагання за будучых кліентаў. Агулам гэта рэактыўныя баявыя машыны, якія могуць весці бой у любое надвор'е, маюць стэлс-характарыстыкі, то бок нізкую заўважальнасць для радараў, выкарыстоўваюць апошнія дасягненні ў авіёніцы і маюць інтэграваныя камп'ютарныя сістэмы кіравання для максімальна эфектыўнага ўзаемадзеяння з іншымі самалётамі, спадарожнікамі ў космасе, флотам, наземнымі войскамі і сіламі супрацьпаветранай абароны.

## Нараджэнне «невідзімкі»

Да з'яўлення радараў баявыя самалёты спрабавалі схавацца ў небе з дапамогай рознага камуфляжу — у Першую сусветную вайну немцы нават эксперыментавалі з празрыстай ацэтылцэлюлозай, аднак аказалася, што пад сонцам яна плавіцца, а блікі на ёй выдаюць самалёт праціўніку.

У 1943 годзе ўжо падчас наступнай вайны з'явілася нямецкая субмарына U-480 — першая, што мела спецыяльнае гумовае пакрыццё, што моцна зніжала эфектыўнасць варожых супрацьлодкавых радараў.

Пасля Другой сусветнай аказалася, што менавіта радар, а не чалавечае вока, робіцца галоўнай сістэмай папярэджання і ў паветраным баі, і ў змаганні з наземнымі сістэмамі супрацьпаветранай абароны. Амерыканцы, сусветныя лідары ў авіяцыйнай галіне, першымі сталі думаць, як выправіць сітуацыю.

У 1950-я Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне пачало рабіць замовы на навуковыя пошукі ў сферы зніжэння заўважнасці сваіх разведвальных самалётаў для савецкіх радараў. Ужо распрацаваны ў 1964 годзе *SR-71 Blackbird* меў аэрадынамічныя формы, якія мусілі зрабіць мінімальнай эфектыўную плошчу рассеяння электрамагнітных хваляў. Таксама на самалёце выкарыстоўваліся кампазітныя матэрыялы і спецыяльная фарба, якая паглынала электрамагнітнае выпраменьванне радараў.

Лідарства ЗША ў гэтай сферы прывяло да таго, што тэхналогіі, якія зніжаюць электрамагнітную заўважнасць тэхнікі, атрымалі назоў стэлс-тэхналогій, ад англійскага *stealth* — патаемны, схаваны.

Ужо ў 1970-я гады Міністэрства абароны ЗША паставіла за мэту стварыць баявыя самалёты, малазаўважныя для радараў. Так нарадзіўся ў 1981 годзе першы бамбавік-стэлс *F-117 Nighthawk*, а ў 1989 годзе — першы стратэгічны стэлс-бамбавік *B-2 Spirit*.

У той час у свеце не было нічога падобнага — і дагэтуль ЗША застаюцца адзінай краінай, якая мае на ўзбраенні падобныя лятучыя машыны.

## Няма нічога даражэйшага, чым таннае

Як і агромныя дрэдноўты, адносна невялікія самалёты, якія адкрывалі новую эпоху ў вайсковай авіяцыі, аказаліся вельмі дарагія. Маючы адпрацаваныя схемы, ЗША выпусцілі ў 1997 годзе *F-22 Raptor* — задуманы яшчэ ў 1980-я стэлс-знішчальнік. Аднак кожная машына каштавала $150 мільёнаў, таму вытворчасць спынілі ў 2011 годзе пасля таго, як пабудавалі 195 такіх знішчальнікаў.

Да таго ж «Драпежная птушка» задумвалася найперш для барацьбы з савецкай авіяцыяй, а да 2014 года ЗША не думалі, што магчымая новая халодная вайна. Адной з прычын адмовы ад вытворчасці F-22 абсалютна афіцыйна стала «адсутнасць рэлевантнага праціўніка». Адміністрацыя прэзідэнта Барака Абамы палічыла, што такі самалёт непатрэбны ў свеце, дзе галоўная мэта ЗША — ваяваць з паўпартызанскімі групамі ісламістаў у Іраку і Афганістане.

Стаўка была зроблена на наступную машыну, задуманую ў пачатку 2000-х гадоў, — шматмэтавы знішчальнік F-35 Lightning II, які меў вырабляцца адразу ў трох варыянтах: для ВПС ЗША, для авіяцыі ВМС ЗША і для авіяцыі Корпуса марской пяхоты.

Праграма «працейшага і ўніверсальнага знішчальніка стэлс» стала самым дарагім праектам па распрацоўцы ўзбраення ў сусветнай гісторыі і каштавала амерыканскаму бюджэту $1,5 трыльёна. Праўда, чакаецца, што пры гэтым за кошт масавай вытворчасці цана кожнага самалёта паасобку будзе меншай, чым у *F-22 Raptor* на 20—30%.


B-2 Spirit пусты важыць 72 тоны і можа ўздымацца на высату да 15 км да 100 дадатковых тон паліва, бомбаў і ракет.

Працэс прыняцця F-35 на ўзбраенне пачаўся ў 2015 годзе, у выніку цяпер ЗША маюць каля 400 самалётаў пятага пакалення ва Узброеных сілаў — 195 F-22 і каля 200 F-35. Усяго ж плануецца, што ЗША будуць купляць F-35 яшчэ на працягу наступных 20 год, а агульны аб'ём замовы складзе амаль 2500 машын.

## Мы з табою суседзі па сусвеце

Маючы перад вачыма відавочны адрыў ЗША ў найважнейшай абароннай сферы, Расія і Кітай таксама абвесцілі, а потым прадэманстравалі прататыпы сваіх знішчальнікаў пятага пакалення.

У Расіі ім стаў ПАК ФА (Перспектыўны авіяцыйны комплекс франтавой авіяцыі) распрацоўкі Канструктарскага бюро Сухога. Машына паднялася ў паветра ў 2010 годзе і, як чакаецца, у 2018 можа быць прыня-

Манеўр «Кобра».



тая на ўзбраенне. Стваральнікі заяўляюць, што знішчальнік мае стэлс-якасці, крэйсерскую звышгукавую хуткасць, звышманеўранасць.

**Звышманеўранасць** — здольнасць самалёта захоўваць устойлівасць і кіраванасць на закрытычных вуглах атакі з высокімі перагрузкамі, а таксама здольнасць да змены становішча адносна патоку, якая дазваляе наводзіць узбраенне на цэль паза вектарам дзейнай траекторыі. Прыклады — манеўры «Кобра» ці «Звон».

Цікава, што менавіта апошнюю характарыстыку ў Расіі лічаць адной з вызначальных для паняцця «самалёт пятага пакалення», у сувязі з чым ставяць пад сумнеў баяздольнасць тых жа F-35. Аднак у ЗША ўжо распрацоўвалі машыны са звышманеўранасцю і адмовіліся ад іх, звяртаючы ўвагу на тое, што такія манеўры прыводзяць да амаль поўнай страты хуткасці самалётам, што робіць яго амаль бездапаможным у масавым баі.

### А што іншыя?

Кітай распрацоўвае адразу два стэлс-знішчальнікі — *Chengdu J-20* і *Shenyang J-31*, першыя іх палёты адбыліся, адпаведна, у 2011 і 2012 гадах. Невядома, аднак, гэта самалёты рознага прызначэння, напрыклад, для наземнай і марской авіяцыі, канкурэнтныя праекты ці адзін самалёт будзе пастаўляцца для кітайскай арміі, а другі — на экспарт.

Мае прататып знішчальніка новага пакалення Японія — яе *Mitsubishi X-2 Shinshin* падняўся ў паветра мінулай вясной. Аднак на ўзбраенне японскіх Сіл Абароны знішчальнік трапіць толькі ў 2024 годзе.

Індыя мае адразу два праекты знішчальніка пятага пакалення — *HAL AMCA*, над якім працуе ўласнымі сіламі, і *FGFA*, адгалінаванне ад расійскага праекта ПАК ФА. Аднак першы самалёт, як чакаецца, паляціць толькі ў 2023—2024 гадах, а калі з'явіцца другі, увогуле невядома.

І фактычна толькі на ўзроўні канцэптуальных распрацовак знаходзіцца турэцкі праект — знішчальнік *TAI TFX*. Прычым удзел у праектаванні самалёта возьме брытанская абаронная карпарацыя *BAE Systems*.

### Падрыхтоўка да мінулай вайны?

З зайздроснай рэгулярнасцю, прыкладна раз на некалькі месяцаў, з'яўляюцца артыкулы, якія імкнуцца паказаць поўную неэфектыўнасць самалётаў пятага пакалення (зразумела, амерыканскіх, бо іншых няма) альбо іх татальную перавагу над большасцю сучаснай авіяцыі.

Пры гэтым трэба адзначыць, што рэальныя баявыя характарыстыкі самалётаў стэлс супраць сучасных радараў сістэм супрацьпаветранай абароны засакрэчаныя. Мы фактычна не ведаем ані ўзроўню эфектыўнасці першых, ані паказчыкаў другіх.

Спаборніцтва тэхналогій не спыняецца і ў выпадку са снарадам і броняй, і ў выпадку радараў і стэлс-тэхналогій. Гэтак, на пачатку 1990-х ямчэ старыя стэлсы F-117 дапамаглі пераўтварыць у нішто пабудаваную па савецкіх лякалах сістэму СПА Ірака, а ўжо ў 1999 годзе ВПС ЗША страцілі над Югаславіяй адзін з гэтых самалётаў.

Генерал арміі ЗША Марк Мілі заўважыў гэтай восенню ў праграмным выступе: «З-за распаўсюджвання высокатэхналагічных сістэм СПА наземным войскам прыйдзецца ўваходзіць у зачыненыя для ВПС і ВМС раёны, каб затым дапамагчы дзеянням авіяцыі і флоту. Гэта наўпрост супярэчыць таму, што мы рабілі апошнія 70 год, калі ВПС і флот адкрывалі дарогу наземным часткам».



Расійскі ПАК ФА.



Кітайскі Chengdu J-20.



F-35C — варыянт для марской авіяцыі.

Акрамя імклівага развіцця супрацьпаветранай абароны, можа выбухнуць у найбліжэйшыя 5—10 гадоў іншая рэвалюцыя — рэвалюцыя баявой беспілотнай авіяцыі.

Неймаверную колькасць праблем, якія вымушаны вырашаць сучасныя вайскова-паветраныя сілы, можа зняць не стэлс, а пераход на цалкам беспілотную баявую авіяцыю. Прападуць, напрыклад, абмежаванні па перагрузках, якія не мог ператрываць нават добра падрыхтаваны пілот, што дазволіць куды эфектыўней сыходзіць ад ракет манеўрамі самога беспілотніка.

Вялікай колькасцю адносна танных машын, якія не маюць стэлс-характарыстык, можна будзе паспрабаваць проста перагрузіць і знішчыць сістэму СПА праціўніка, пасля чаго адпраўляць на тэрыторыю праціўніка больш дарагія і цяжкія самалёты.

У гэтым кантэксце ўзнікае пытанне, ці патрэбная цяпер Беларусі і шырэй — Еўропе, якая не прапанавала аніводнага праекта свайго самалёта 5-га пакалення, найноўшая пілатаваная баявая авіяцыя? Ці трэба з апорай на сістэмы супрацьпаветранай абароны перачакаць сучасны перыяд звышдарагіх распрацовак і зрабіць стаўку на будучыя беспілотныя баявыя сістэмы?

**Аляксандр Гелагаеў**

Здарэнні

# У Пецярбургу скінхэд забіў беларуса за просьбу «не зігаваць»

У Санкт-Пецярбургу пасля канцэрта панк-гурту *The Exploited*, які прайшоў у клубе «Касманаўт», загінуў адзін з наведвальнікаў мерапрыемства.

Як стала вядома журналістам, каля дома 15 на Браніцкай вуліцы завязалася бойка, якая скончылася панажоўшчынай, у выніку чаго 27-гадовы беларус Ігар Б. атрымаў раненне.

«Невядомы з паголенай галавой у высокіх ботах нанёс нажом удар у жывот 27-гадовамы мужчыну ў крамнінай куртцы і бейсболцы», — каментуюць сітуацыю следчыя.

Работнікі хуткай дапамогі дыягнаставалі ў пацярпелага колата-рэзаную рану брушной паражніны. Аднак, нягледзячы на аказаную дапамогу, малады чалавек памёр у машыне медыкаў пры правядзенні рэанімацыйных мерапрыемстваў.

Па словах Кацярыны, сяброўкі загінулага, Ігар разам з таварышам стаяў пасля канцэрта недалёка ад клуба, калі там з'явілася кампанія маладзёнаў, як мяркуецца, ультраправых поглядаў.

— Ігар папрасіў іх не «зігаваць», пасля чаго завязалася бойка, і ён атрымаў нажом у жывот, — распавяла журналістам дзяўчына.

Відавочцы сцвярджаюць, што пасля гэтага злачынец знік з месца здарэння. Але праз некалькі дзён яго затрымалі. Падазраваным у забойстве праходзіць 42-гадовы мужчына.

Цела маладога чалавека перавезлі на яго радзіму, у Магілёў, дзе і пахавалі.

На старонцы Ігара «Укантакце» пазначана, што ён вучыўся ў Мінску ў аўтамеханічным каледжы.

**СГ**



# Зорка беларускага балета Марына Парамонава скончыла жыццё самагубствам

KP.BY

Маладая беларуская балерына Марына Парамонава скончыла жыццё самагубствам. Яе сябры пацвердзілі інфармацыю. Дзяўчына выкінулася з акна пасля цяжкай хваробы.

У Вялікім тэатры тлумачаць, што Парамонава чатыры гады таму сышла з трупы.

Сярод яе роляў былі Джульета, Кітры і Дульцынэя ў «Дон Кіхоце», Марыя ў «Бахчысарайскім фантане» і іншыя.

Калі ў 2009 годзе Вялікі тэатр адкрываўся пасля рэканструкцыі, Парамонава сядзела на ўрачыстым канцэрце побач з Аляксандрам Лукашэнкам.

# У ЗША застрэлены беларускі імігрант. У Мінску ў яго засталіся жонка і двое дзяцей

Цела загінулага беларуса Віталя Мяліка паліцыя знайшла на запраўцы 3 лютага, каля 11 гадзін вечара. Інцыдэнт адбыўся ў горадзе Норкас, штат Джорджыя. Паліцыя шукае падазраваных у здзяйсненні злачынства, паведамляе *Tut.by*.

Паводле паведамленняў мясцовых СМІ, у ходзе расследавання паліцыя высветліла, што Віталь Мялік зайшоў у краму на запраўчанай станцыі. Затым унутр увайшлі двое падазраваных, адзін з якіх здзейсніў куплю. Калі падазраваныя выйшлі на вуліцу, паміж імі і Мялікам завязалася спрэчка, якая перарасла ў сварку. Адзін з падазраваных дастаў са сваёй машыны вінтоўку і застрэліў Мяліка.

Як адзначаюць у паліцыі, цела імігранта з Беларусі ляжала на сярэдзіне паркоўкі. Аўтамабіля побач не аказалася. Дэтэктывы падазраюць, што Мялік прыехаў на запраўку разам са сваімі забойцамі.



GOFUNDME.COM

Загінуламу было 33 гады. У Мінску ў Віталя засталася сям'я — жонка Кацярына і двое дзяцей, малодшай дачцэ ўсяго 4 месяцы.

«Летам Віталь павінен быў атрымаць грамадзянства, і мы з сынам і дачкой збіраліся пераехаць да яго», — распавяла Кацярына.

Амерыканская паліцыя расшуквае 19-гадовага Мікаласа Янга, яму і будзе выстаўлена абвінавачванне ў забойстве.

# Гавораць Ганцавічы: «Тут тупік»




Каля райвыканкама ў Ганцавічах.

Па афіцыйных звестак Белстата, самы вялікі ўзровень беспрацоўя па выніках 2016 года быў зафіксаваны ў Ганцавіцкім рэгіёне, склаўшы 1,3 %. На першы погляд, лічба — даволі смешная, аднак усім вядома, што за афіцыйным беспрацоўем хаваецца значна больш фактычных выпадкаў немагчымасці ўладкавацца на працу. «Дэпрэсіўны раён», «гіблае месца» — мы чулі нямала непрыемных водгукаў на адрас Ганцавічаў, але лепш адзін раз убачыць...

**«Выжываем дзякуючы заробкам у Маскве»**

У дызелі да Ганцавічаў гучыць рускі рэп, дзе вакаліст чытае нешта пра сэнс жыцця. За акном вільготна і ветрана. Беларусы — гасцінная нацыя, але, калі яны кажуць вам, што лепш прыязджаць летам, яны не хлусяць. Нават размаляваныя камунальнымі службамі ва ўсе колеры шматпавярховікі ў дажджлівае міжсезонне выглядаюць яшчэ больш панылa. Мы праязджаем міма чарговай панэлькі, і раптам нечакана сустракаемся вачыма з Якубам Коласам. «Я сачу за вамі», — быццам кажа беларускі пясняр. Пра тое, чыя вывава змешчана на тарцы дома, хай і прыблізна, ведае кожны школьнік.

Побач з райвыканкамам пустэльна: дзядуля Ленін застылым позіркам ацэньвае Дом культуры — у апошняга ж не толькі культурныя, але і ідэалагічныя функцыі. Паблізу рабочыя старанна ўсталёўваюць слуп для спаборніцтваў на масленічныя гулянні. Так на плошчы гарманічна ўжываюцца паганскія і камуністычныя матывы.

На «Кірмашы» адчынены ўсяго некалькі крамак: індывідуальныя прадпрымальнікі шпацыруюць паміж імі, бавячы час за размовамі.

«Сёння зноў практычна з нулявой выручкай будзем: купцоў няма». Пенсіянерка Ірына працуе прадаўцом больш для сына, чым для сябе: «Хлопец возіць тавары, я прадаю. Атрымліваю пенсію, таму крыху лягчэй сябе адчуваю, чым маладыя. Унук мой школу заканчвае, калі не паступіць, нават не ведаю, што будзе рабіць: працы ў нас няма, у Ганцавічах зараз нейкі тупік».

Ганцаўчане распавядаюць, што вялікая частка працаздольнага насельніцтва выжывае толькі дзякуючы заробкам у Маскве ды ў іншых, больш буйных за Ганцавічы гарадах. А што кажуць афіцыйныя органы?

**Біржа не для ўсіх?**

Аддзел па працы і занятасці насельніцтва на выбар прапануе 46 вакансій, пры гэтым афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных ад эканамічна актыўнага насельніцтва ў раёне налічылі 146 чалавек (на 23 лютага).

«Я тут працую з 2008 года і магу сказаць, што праблема занятасці насельніцтва заўсёды была актуальная для нашага раёна: у 2000-я афіцыйнае беспрацоўе і да 4% даходзіла. Нягледзячы на тое, што пасля прыняцця Дэкрэта № 3 у нас павялічылася загружанасць, у барацьбе з сацыяльным утрыманствам я падтрымліваю палітыку прэзідэнта: маеш нелегальныя заробкі ці за мяжой — плаці пада-



**Начальнік аддзела па працы і занятасці насельніцтва Ганцавіцкага райвыканкама Андрэй Коўш.**



Люсінскі кірмаш.




На месцы здзіўляе вялікая колькасць беларускамоўных шыльдаў.



Хлопчыкі пасля ўрокаў бавяць час паркурам.



Ігар Дулік будзе аспрэчваць свой статус «дармаеда», колькі спатрэбіцца.

так», — каментуе начальнік аддзела Андрэй Коўш.

Вакансій на рынку значна менш, чым беспрацоўных. Прычым некаторыя патрабуюць спецыяльных ведаў у галіне, напрыклад, ветэрынарыі, а таксама не кожны мае магчымасць штодня ездзіць за дзясятак кіламетраў у вёску.

Па дадзеных падаткавікоў, у Ганцавіцкім раёне да 20 лютага 2017 года ўжо 167 чалавек заплацілі збор на фінансаванне дзяржаўных выдаткаў. Аднак ёсць сярод мясцовых жыхароў і тыя, хто шалёна супраціўляецца сістэме. Ігар Дулік выявіў у сваёй паштовай скрыні ліст «шчасця» перад самым Новым годам. Праз месяц такі ж сюрпрыз чакаў яго дачку, якая, між іншым, была і з'яўляецца студэнткай каледжа.

«У 2015-м нашу сям'ю напаткала бяда: дачка трапіла ў аварыю, было не да працы. А цяпер яе і знайсці немагчыма. Што тычыцца біржы, то ў неафіцыйнай гутарцы мяне мякка папрасілі не станавіцца на ўлік: у іх і так там статыстыка не найлепшая, і існуе тайнае распараджэнне па магчымасці не пагаршаць сітуацыі», — распавядае Ігар. Зараз ён закідвае падатковую службу пісьмовымі зваротамі з просьбай «пералічыць, якія канкрэтна дзяржаўныя выдаткі ў 2015 годзе пайшлі на яго, якім чынам і па якіх крытэрыях супрацоўнікі МПЗ выявілі, што ён не ўдзельнічаў у фінансаванні дзяржаўных расходаў» і г.д. Пакуль ніякіх слушных адказаў мужчына не атрымаў.

### «Незадавальненне тут кіпіць, але пакуль пад накрыўкай»

Рэдактар газеты «Ганцавіцкі час» Пятро Гузаеўскі лічыць, што пры сённяшнім узроўні эканомікі многія раёны Беларусі могуць звацца «каралямі» беспрацоўя. Сярод асноўных прычын такой сітуацыі ён называе адсутнасць дзейнай прамысловасці і непрафесійны падыход многіх кіраўнікоў: «У нас горадаўтваральныя прадпрыемствы зачыняліся адзін за адным на працягу апошніх гадоў: «Харчавік»,«ПМК-7»... Шмат былі на мяжы банкруцтва ці ў стадыі санацыі. Раён крыху выцягваюць прадпрымальнікі. Што датычыцца сельскай гаспадаркі: калі б у мясцовых кіраўнікоў быў іншы падыход — не імкнуцца атрымаць гатовыя аклады, а зарабляць грошы, — тады б і беспрацоўя, можа, не было».



Рэдактар «Ганцавіцкага часу» Пятро Гузаеўскі.

У Ганцавічах, дарэчы, нават набралася група людзей, якая збіралася ехаць на Марш абураных беларусаў у Мінск, але такіх актывістаў тут мала: у асноўным ганцаўчане выказваюць незадаволенасць і спрачаюцца толькі паміж сабой.

Працяг на старонцы 14.



Спадар Анатоль жыве насупраць ААТ «Завод Модуль» і на свае вочы бачыць, як развальваюцца мясцовыя прадпрыемствы.




Паўсталае з «попелу» ААТ «Завод Модуль».

# Гавораць Ганцавічы: «Тут тупік»

Працяг са старонкі 13.

«Гэта як каструля з накрыўкай: нешта ў ёй кіпіць, але пакуль не выкіпела», — прыводзіць параўнанне для грамадскага настрою Пятро Гузаеўскі. І ўсяго праз некалькі гадзін яго выдатна ілюструе сустрэты намі на вуліцы Анатоль, які жыве насупраць ААТ «Завод Модуль» — пераемніка збанкрутаванага прадпрыемства «Модуль»: «Развалілі раён, а цяпер яшчэ дармаедства прыдумалі, замест таго, каб лепшае людзям зрабіць. У газетах пішуць, што ў нас сярэдні заробак 500 рублёў — анекдот ды толькі. Калі хто і працуе тут, то за капейкі, астатнія — сям-там ездзяць, як і мой сын», — мужчына мацюкаецца, а на яго вочы наварочваюцца слёзы.

### Латэнтная беларускамоўнасць

Першае, што кідаецца ў вочы, калі прыязджаеш у Ганцавічы ўпершыню, — вялікая колькасць беларускамоўных шыльдаў на кожным рагу: «Піцэрыя», «Дзіцячы свет», «Мясны», «Сузор'е» і інш. Аднак гэты трэнд заканчваецца, як толькі пераступаеш парог усіх крамаў і ўстаноў грамадскага харчавання. Апошніх у Ганцавічах крыху больш за 5: мясцовыя скардзяцца, што адкрыць тут, напрыклад, начны клуб не даюць дзяржаўныя манапалісты. Але на свае вочы бачачы, што наведвальнікаў тут не багата ні ў абед, ні ў вячэрні святочны чацвер, разумееш, што галоўная прычына беднасці выбару крыецца ў адсутнасці попыту. Не дома адзначаюць толькі вяселлі ці арганізуюць памінкі. А пакуль іх не плануецца, начальства адключае ў барах халадзільнікі і ацяпленне, каб хоць неяк эканоміць на ўтрыманні.

Калі «памінкі» можна спраўляць нават па некаторых гарадах, што і гаварыць пра вёскі. Асаблівым у Ганцавіцкім раёне можна назваць аграгарадок Люсіна: тут з 1902 па 1904 гг. Якуб Колас працаваў настаўнікам і нават напісаў першую частку трылогіі «На ростанях». Цяпер у Люсіне нават працуе кафэ з аднайменнай назвай, а ў дзіцячым садзе-сярэдняй школе адкрыты музей, прысвечаны песняру. Гістарычна гэтая школа — беларускамоўная, аднак на справе ўсё абмяжоўваецца падручнікамі.

«Школа была і з'яўляецца беларускамоўнай. Але пры афіцыйным двухмоўі нічога добрага з гэтага не атрымліваецца: ніхто якасна не ведае ні рускую, ні беларускую. Настаўнікі чытаюць па-беларуску, але ў жыцці, на калідорах карыстацца гэтымі ж словамі не могуць: вышэйшую адукацыю яны атрымлівалі на рускай, а дома — у лепшым выпадку ўсе на трасянцы размаўляюць», — лічыць плотнік і цясляр Уладзімір Рылка, які гасцінна пагадзіўся пабыць нашым гідам па Ганцавічах.

Цікава, што продкі Уладзіміра бралі ўдзел у Слуцкім паўстанні (Ганцавіччына са Случчынай суседнічае), а сам Рылка ў 1994 годзе актыўна агітаваў галасаваць за Зянона Пазняка. Рылка цікавіцца гісторыяй і штотыднёва стараецца вазіць сваю сям'ю на беларускую імшу ў касцёл у Ганцавічах. У Рылкаў аж сямёра дзяцей! Для вёскі мужчына — незаменны спецыяліст: выраблае платы, накрывае дахі, ставіць лазні, кладзе печы.



Музей Якуба Коласа ў Люсінскай школе.




Адсылкі да Коласа тут паўсюль.



Спадчыну Якуба Коласа ў раёне шануюць.



Уладзімір і Алена Рылкі з Люсіна гадуюць сямёра дзяцей.

«Мяне таксама хацелі ў дармаеды запісаць. Але пашкадавалі, бо ў мяне сямёра дзяцей. Так, цяпер я афіцыйна ў якасці прадпрымальніка не зарэгістраваны, бо праца толькі сезонная, але я ж набываю прадукты, запраўляю машыну — значыць, папаўняю бюджэт падаткамі».

Уладзімір дасканала ведае гісторыю месца, дзе жыве, і з задавальненнем дзеліцца сваімі ведамі з іншымі.

Першыя звесткі пра Люсіна адносяцца да XVI ст., эпохі ВКЛ. Калісьці тут стаяла уніяцкая царква, на месцы якой зараз засталіся толькі старыя могілкі з вялікімі валунамі. Шмат подзвігаў пабачылі гэтыя землі, але адным гістарычным мінулым сыты не будзеш. З набыццём статуса аграгарадка Люсіна мусіла было расквітнець, але выходзіць наадварот. З кожным годам людзі выміраюць, хаты пусцеюць.

«У нас пустуе каля 40 працэнтаў дамоў! Дадайце сюды вялікую колькасць жыхароў, якія злоўжываюць алкаголем, старых і ўявіце, што адбудзецца з Люсінам праз некалькі гадоў?» — задаецца пытаннем спадар Рылка.

Адна з асноўных прычын вымірання вёскі, як і страты патэнцыялу правінцыйнага горада, усё з той жа песні: няма работы. Работы няма!

На базары ў Люсіне мы выпадкова сустракаем Марыю Дулік, маці якой навучаў сам Якуб Колас. Жанчына прыйшла сюды, каб набыць белую хустку: на смерць. Ад гэтага факта імгненна робішся разгубленым і маркотным. Пад паэтычным коласаўскім уплывам у галаву лезуць думкі пра тое, што аднойчы белая хустка спатрэбіцца ўсёй вёсцы. Калі, вядома, нічога не зменіцца...

**Кацярына Карпіцкая, фота Сяргея Гудзіліна**

# «Шкадую, што мала забіў» — судзяць хлопца з бензапілой

У Мінску судзяць Улада Казакевіча — гэта той самы хлопец, які ў кастрычніку 2016 года прыйшоў з бензапілой і сякерай у ГЦ «Новая Еўропа» і забіў там жанчыну. Хацеў забіваць яшчэ, але яго скруціў прадавец.



### Адну забіў, дваіх параніў

Увечары 8 кастрычніка 17-гадовы Улад Казакевіч — з выгляду звычайны хлопец з доўгімі светлымі валасамі — прыйшоў да гандлёвага цэнтра «Новая Еўропа» з бензапілой і гітарным чахлом, у якім была сякера. Перад тым, як увайсці ў будынак, хлопец адзеў яркую куртку, начапіў на галаву балаклаву і акуляры, уключыў у навушніках музыку.

Пасля Улад завёў пілу і пайшоў забіваць.

Увайшоўшы ў «Новую Еўропу», ён рушыў да першага ж чалавека, які трапіўся на вочы. Гэта была маладая прадавачка Ганна Разентава, якая падмяняла сяброўку. Але яна пачула гук пілы і збегла.

Хлопец пабег за ёй. Але па дарозе заўважыў жанчыну, якая стаяла спінай да яго — гэта была 43- гадовая Алена Александровец, таксама прадавачка.

Нападнік два разы ўдарыў яе бензапілой. Інструмент заглух, на ланцуг наматала шалік жанчыны. Казакевіч дастаў з чахла ад гітары сякеру і дабіў параненую. Жанчына сканала на месцы.

А Улад з сякерай пайшоў далей.

«Я падумала, што гэта розыгрыш, калі яго ўбачыла: аранжавая куртка, маска, навушнікі...» — узгадвае Аксана Вітвер, наведніца піцэрыі гандлёвага цэнтра. Менавіта туды зайшоў Казакевіч з сякерай.

Жанчына прызнаецца: спачатку падумала, што ў хлопца ў руках гумавы малаток. Але калі ён некалькі разоў ударыў яе сякерай, зразумела — не да жартаў. Жанчына ў стане шоку схапіла вешалку, якая стаяла побач і паспрабавала адбіцца ад нападніка.

Але Улад не стаў працягваць — ён развярнуўся і выйшаў з піцэрыі.

У калідоры ён паспрабаваў засекчы прыбіральшчыцу, але толькі лёгка параніў той руку. Жанчына вывернулася і збегла.

Затым хлопца спыніў 28-гадовы Аляксандр Модлік — прадавец гульнявых кансоляў. Якраз падаспела і міліцыя.

### Студэнтам пашанцавала

На судзе Улад Казакевіч трымаўся спакойна. На ўсе пытанні адказваў падрабязна, час ад часу пасміхаючыся.

Ён расказаў, што спачатку хацеў зладзіць разню ва ўніверсітэце.

Улетку 2016 года хлопец паступіў у МІТСО, на юрыдычны факультэт. Але ўжо ў пачатку кастрычніка быў адлічаны за прагулы.

«З кастрычніка ўзнікла жаданне забіць як мага больш аднакурснікаў. Гэта было ўвечары, калі я быў у паліклініцы», — абсалютна спакойна пачынае аповед Казакевіч.

Хлопец не змог атрымаць даведку ў паліклініцы. Дакумент быў патрэбен, каб апраўдаць пропускі заняткаў і пазбегнуць адлічэння.

«І вырашыў, што выдатная ідэя — папілаваць іх [аднакурснікаў] бензапілой. Не, спачатку хацеў пасекчы, пасля вырашыў папілаваць», — кажа Казакевіч.

Такія ідэі былі даўно, прызнаецца хлопец, а адлічэнне з універсітэта проста стала нагодай.

Пазней бацька хлопца, Валянцін Казакевіч, узгадае, што сын званіў яму, пытаўся, як называецца шведская марка пілы. Мужчына падказаў: «Хускварна» — і нават абрадаваўся, што сына цягне да ручной працы. Але ўдакладніў, навошта сыну піла.

Улад адказаў: «Нічога, ёсць тут адна ідэя».

Грошы ў яго былі — бацькі пакідалі дастаткова. Ён набыў бензапілу, вялікую сякеру-кувалду, спецыяльную вопратку, акуляры, балаклаву.

З'ездзіў на Цнянскае вадасховішча — трэніраваўся, папілаваў сухастой.

А 7 кастрычніка са сваім «абсталяваннем» прыехаў ва ўніверсітэт — адмыслова, каб паспець на пару, дзе быў бы ўвесь курс. Пераапрануўся ў прыбіральні, але, выходзячы, ударыў заведзенай пілой і трохі пашкодзіў яе.

Тады хлопец сышоў у парк побач, ізноў наладзіў пілу. Але лекцыя ўжо скончылася. Улад вырашыў вярнуцца на наступны дзень.

Але 8 кастрычніка ён праспаў, ды і «лянота было ехаць». Таму і вырашыў пайсці ў гандлёвы цэнтр.

Казакевіч сказаў, што падчас паездкі ва ўніверсітэт быў цвярозы. Але на наступны дзень вырашыў трохі выпіць, каб «не запароць, каб не накасячыць», бо моцна хваляваўся. Таму развёў 150 грамаў гарэлкі вадой і пацяху піў, каб моцна не напіцца.

Раней, сцвярджаў Улад, ён не ўжываў алкаголь увогуле. Толькі пару разоў спрабаваў трохі, і яму не спадабалася.

З сабой ён меў яшчэ пярцовыя балоны. Па словах Казакевіча, ён планаваў накінуцца з балонамі на ахоўнікаў, пасля іх распілаваць.

Але аховы не было. Таму хлопец кінуўся на тых, хто першым трапіўся яму на вочы.

Адмыслова жанчын у ахвяры не выбіраў, запэўнівае Казакевіч.

«Проста жанчын больш было. Хто трапіўся, той трапіўся», — кажа ён.

### Хацеў з'есці прастытутку

Увогуле, на судзе склалася ўражанне, што Казакевіч проста выдумляе як мага больш жудасныя ідэі, каб шакаваць навокал.

«Хацеў пасля скончэння ўніверсітэта зладзіць буйны тэракт. Забіваць кітайцаў, мусульман... — сказаў Улад. — Але адлічылі, планы сарваліся».

«Навошта забіваць?» — спытаў суддзя.

«Дзеля прыколу», — адказаў хлопец.



Марыя Налівайка, маці загінулай Алены Александронец.

Таксама ён запэўніў, што хацеў выклікаць прастытутку, каб патрэніравацца ў забойстве і з'есці яе мазгі.

Пра фільмы кажа, што любіў глядзець «маніякальныя, пра маньякаў». У інтэрнэце нібыта бавіў час за «пакараннямі Ісламскай дзяржавы без цэнзуры».

«Ці шкадуеце, што пасля вашых дзеянняў загінула жанчына?» — спытаў ва Улада адвакат.

«Не. Шкадую толькі, што мала забіў».

Увогуле, Казакевіч планаваў узяць у гандлёвым цэнтры закладнікаў — каб прыехаў спецназ і забіў яго.

«Лепш памерці, чым сесці ў турму», — сказаў ён.

### Спрабаваў скончыць жыццё самагубствам

У 2014 годзе Улад трапіў у «Навінкі» пасля спробы суіцыду.

Хлопец меў праблемы ў гімназіі, дзе вучыўся на той час. Па словах бацькоў, настаўніца (класны кіраўнік) увесь час чаплялася да сына.

Маці нібыта атрымала паведамленне ад настаўніцы, што Улад даслаў дзіўную смс, і на таксі паехала шукаць сына. Знайшла Улада ля бацькавага гаража (пазней хлопец раскажа, што хацеў атруціцца там чадным газам). Тым часам бацька выклікаў міліцыю: спадзяваліся, што сына «запеленгуюць» па сігнале мабільнага. Міліцыя, якая прыехала, забрала хлопца ў пастарунак, там з ім доўга гаварылі. Пасля маці пераканалі, што сына варта шпіталізаваць. «Міліцыянт сказаў: я сына вам не аддам, вы зараз з ім не паладзіце», — узгадала Вольга Мажэйка, маці Улада. — Міліцыянт абгрунтаваў гэта — і я пагадзілася».

Дактарам у «Навінках» хлопец расказаў, што спрабаваў павесіцца ў лесе: прыходзіў туды з намыленай вяроўкай, але тая развязалася. Хацеў скокнуць з вышыні, але спужаўся.

Пасля выпіскі Улада перавялі ў іншую школу. Таксама паставілі на ўлік у дзіцячы псіхіятрычны дыспансер. Але, па словах бацькоў, асабліва сэнсу ў гэтым не было — яны прыязджалі туды раз на месяц на пяць хвілін, «дзеля галачкі».

У 2016 годзе Казакевіча знялі з уліку. Дыягназ, пастаўлены раней — шызатыпічны разлад асобы, — трэба было ці то пацвердзіць, ці то выключыць. Камісія вырашыла, што хлопец здаровы.

### «Улад, мы цябе любім»

Бацькі хлопца сцвярджаюць, што адносіны з сынам у іх былі добрыя. Але прызнаюць: Улад заўсёды быў замкнёным чалавекам, не любіў шмат размаўляць. «Ён ніколі ні на што не скардзіўся, не расказваў пра праблемы. Казаў толькі: усё нармальна, усё добра», — распавёў Казакевіч-старэйшы.

Бацькі разам не жылі. Улад са старэйшай сястрой і маці жыў асобна. У 2014 годзе маці хлопца, Вольга Мажэйка, выйшла замуж за грамадзяніна Германіі.

«Але з сынам мы заўсёды былі разам. Мы жылі разам. Я з'язджала максімум на тыдзень, і тое толькі цягам 2016 года. 6 верасня я паехала ў Германію. Улад ведаў, што я прыеду 9 кастрычніка [трагедыя адбылася 8 кастрычніка]. Ён жа дастаткова дарослы. І заўсёды мог даглядзець сябе», — распавяла Вольга Мажэйка.

20 верасня ў Германію паехала і сястра Улада. Хлопец застаўся ў кватэры адзін.

За дзень да вяртання Вользе пазваніў Валянцін Казакевіч, бацька Улада, і распавёў пра здарэнне ў гандлёвым цэнтры.

Падчас дачы паказанняў маці амаль не глядзела на сына. Улад на маці глядзеў, часам здавалася, што ён вось-вось заплача — але гэтага так і не адбылося.

Пасля суддзя прапанаваў Вользе Мажэйка застацца ў зале, калі яна хоча. Жанчына выйшла.

Агучыўшы свае паказанні, Валянцін Казакевіч сказаў сыну: «Улад, мы цябе любім!»

### Максімум — 15 гадоў

Казакевіча абвінавачваюць паводле некалькіх артыкулаў, у тым ліку вінаватасць у забойстве і падрыхтоўцы да забойства. Яму пагражае ад 6 да 15 гадоў пазбаўлення волі. Расстраляць ці асудзіць на пажыццёвае Казакевіча не могуць: на момант злачынства Улад быў непаўналетнім. 18 гадоў хлопцу споўнілася ў снежні, калі ён быў пад вартай.

Экспертыза прызнала, што хлопец усведамляў вынік сваіх дзеянняў. Сам Казакевіч цалкам прызнаў віну.

Пацярпелымі па справе праходзяць тры супрацоўніцы гандлёвага цэнтра і сям'я загінулай прадавачкі. Агулам яны хочуць спагнаць з хлопца каля 275 тысяч рублёў маральнай і матэрыяльнай шкоды. За дзень да суда бацька Улада перадаў ім 4 тысячы рублёў.

Аксана Вітвер — жанчына, якую Казакевіч параніў у піцэрыі, — лечыць пашкоджаную руку па сённяшні дзень. Аляксандр Александронец — муж загінулай прадавачкі — кажа, што яны з жонкай хацелі набыць дачу ў кватэру. Цяпер ён не ведае, ці зможа дазволіць сабе гэта.

«Супраць пазоваў нічога не маю. Але загнулі надта. Надта вялікія сумы, — пракаментаваў патрабаванні пацярпелых Улад Казакевіч. — За пахаванні ім заплацілі — і досыць. Кампенсацыя маральнай шкоды мяне не цікавіць».

**Улад Швядовіч**

# Генетыка навучылася «рэдагаваць» дзяцей.

**Няўжо ў будучыні яшчэ да цяжарнасці бацькі будуць ісці ў цэнтр і замаўляць дзіця? «Хачу з блакітнымі вачыма, светлымі валасамі і высокае...»**


NASB.GOV.BY


NASB.GOV.BY

Генетыка імкліва развіваецца. Навукоўцы кажуць, што перад імі адкрываюцца магчымасці, якія раней успрымаліся не інакш як фантастычныя і абсалютна нерэальныя. Калісьці здымалі фільмы пра тое, як у грамадстве будучыні людзі адпраўляюцца ў адмысловыя цэнтры выбіраць якасці будучага дзіцяці. Сёння даследчыкі кажуць, што гэта магчыма.

Васіль Панкратаў працуе навуковым супрацоўнікам лабараторыі нехрамасомнай спадчыннасці Інстытута генетыкі і цыталогіі НАН Беларусі. Разам з калегамі ён займаецца папуляцыйнай генетыкай чалавека, вывучае групы людзей. Насельніцтва Мінска, Мінскай вобласці, Беларусі, Усходняй Еўропы, Еўразіі ці ўсяго свету — гэта ўсё папуляцыі.

«Па-першае, нас цікавіць, наколькі генетычна розныя папуляцыі падобныя альбо не падобныя адна да адной. Да прыкладу, да каго генетычна падобныя беларусы: да рускіх, палякаў ці яшчэ да кагосьці. Па-другое, мы хочам зразумець, як генафонд, сукупнасць генетычнага матэрыялу, змяняецца ў часе. Якія фактары на гэта ўплываюць, якія заканамернасці тут ёсць, — тлумачыць спадар Васіль. — Такім чынам мы зможам у пэўнай ступені вывучаць гісторыю. Да прыкладу, як утварылася пэўная этнічная група, як змянялася колькасць людзей у папуляцыі, якія спецыфічныя хваробы былі ёй уласцівыя».

### Да каго беларусы падобныя генетычна

Беларусы падобныя да сваіх суседзяў, кажа навуковец. Аднак генафонды ва Усходняй Еўропе да такой ступені перамяшаныя, што сказаць, да каго найбольш, надзвычай складана.

«Калі мне дадуць узор ДНК жыхара Усходняй Еўропы, то максімум, што можна сказаць, — гэта што ён з імавернасцю ў 60 адсоткаў з'яўляецца беларусам і з верагоднасцю ў 40 адсоткаў — рускім. А ў большасці выпадкаў будзе па 25 адсоткаў, што ён паляк, беларус, украінец ці рускі. Можа быць, дакладна вызначаць этнічнае паходжанне па ДНК стане магчымым у будучыні, калі ў нас будуць значна большыя выбаркі ўзораў, для якіх прааналізавана ўся ДНК, а не толькі асобныя яе фрагменты, і мы зможам заўважыць нават дробныя адрозненні».

Раней у Інстытут генетыкі і цыталогіі мог звярнуцца любы ахвотны для таго, каб даведацца, кім былі яго продкі. Аднак цяпер гэтую паслугу прыбралі.

«Справа ў тым, што большасці жыхароў Беларусі пасля такога аналізу скажуць: «Вы тыповы жыхар Беларусі». Альбо яшчэ больш шырока: «Вы тыповы жыхар Усходняй Еўропы, і вашы продкі, хутчэй за ўсё, некалькі тысячагоддзяў жылі на гэтай тэрыторыі». І для большасці гэта будзе не тое, чаго яны чакалі, — даводзіць Васіль Панкратаў. — На маё бачанне, варта рабіць генетычны аналіз на вызначэнне паходжання тады, калі ёсць, да прыкладу, сямейная легенда. Аднойчы да нас прыйшоў чалавек, які даследаваў архівы, вывучаў сямейную гісторыю, і меў гіпотэзу, што адна з яго прабабуль была марыйкай і паходзіла з Урала. Мы зрабілі аналіз, і вынікі адпавядалі гэтай гіпотэзе. Яго варыянт «жаночай» ДНК, што перадаецца па прамой жаночай лініі, больш характэрны для Сібіры, чым для Беларусі. Гэта яшчэ не доказ, але гэта факт, які адпавядае яго гіпотэзе».

Яшчэ год таму Васіль займаўся дысертацыяй і даследаваў генафонд беларускіх татар. Высветлілася, што трацiна — варыянты ДНК, якія сустракаюцца цяпер у Сібіры, Манголіі, на Алтаі, у Сярэдняй Азіі. Нягледзячы на тое, што татары працяглы час жывуць на тэрыторыі Беларусі, яны дагэтуль захавалі генетычны след сваіх продкаў. Больш за тое, іх «мацярынская» ДНК, то бок перададзеная ад маці, мае каля 30 адсоткаў супольнага з азіяцкімі папуляцыямі.

«Гэта значыць, што мужчынывоіны татары, якія прыйшлі на нашы землі, не толькі бралі беларусак у шлюб. Некаторыя з іх прыйшлі са сваімі сем'ямі. Праз больш складаныя аналізы мы бачым, што спачатку былі змяшэнні паміж мігрантамі азіяцкага паходжання і мясцовым насельніцтвам, а праз нейкі час утварыўся пэўны бар'ер, калі яны перасталі змешвацца. Інакш, хутчэй за ўсё, з цягам часу яны сталі б вельмі падобнымі да беларусаў. І гэта адпавядае таму, што мы ведаем: Вітаўт спачатку даў дабро на шлюб паміж татарамі і мясцовымі жанчынамі, а праз нейкі час была ўведзеная забарона на міжканфесійныя шлюбы. Пакольні татары былі мусульманамі, то, адпаведна, не маглі далей брацца шлюбам з мясцовым насельніцтвам. Менавіта за кошт гэтага бар'еру яны і захавалі сваю генетычную ідэнтычнасць», — тлумачыць генетык.

Цяпер Васіль займаецца новым праектам, які звязаны не з адборам матэрыялу, а з аналізам назапашанага, прычым не толькі нашай краінай, але і іншымі. Тут фокус даследчыкаў больш шырокі, яны імкнуцца высветліць, наколькі генетычнае мінулае жыхароў Усходняй Еўропы адрозніваецца ад Заходняй.

Навукоўцы спрабуюць працаваць і са старажытнай ДНК, якую можна вылучаць з парэшткаў — тых жа костак ці зубоў.

«Наша краіна кліматычна не вельмі спрыяльная, бо парэшткі лепш захоўваюцца альбо на поўначы, дзе заўсёды халодна, альбо ў пячорах з адпаведным мікракліматам. Тым не менш станоўчыя вынікі ёсць, — запэўнівае Васіль Панкратаў. — У нас ёсць археалагічныя матэрыялы, з якіх атрымалася ўзяць ДНК. Мы зможам сказаць больш канкрэтна, як мяняўся генафонд у часе не праз нейкія матэматычныя аналізы і статыстыкі, а параўнаўшы тое, што маем цяпер, з тым, што было некалькі стагоддзяў ці тысячагоддзяў таму».

**Беларускія генетыкі, прааналізаваўшы толькі асобныя часткі ДНК, могуць вызначыць, якія лекі могуць нашкодзіць чалавеку. З улікам гэтага можна планаваць лячэнне, прычым не толькі падбіраць правільныя лекі, але і вызначаць правільную дозу**

### Як змяняецца ДНК

Увесь свет вакол нас складаецца з хімічных рэчываў. Яны розныя, таму і прадметы, матэрыялы розныя. ДНК — таксама хімічнае рэчыва, у якога вельмі доўгія малекулы, тлумачыць навуковец. Часта кажуць «ланцуг ДНК», бо гэтыя доўгія малекулы складаюцца з маленькіх «цаглінак». Адна храмасома чалавека можа быць даўжынёй каля двух сантыметраў, што для малекулы вельмі шмат. «Цаглінак» на адну храмасому можа прыходзіцца дзясяткі мільёнаў. Толькі ў адной клетцы чалавечага арганізма ДНК будзе даўжынёй каля двух метраў, а колькасць гэтых блокаў, «цаглінак», будзе дасягаць шасці мільярдаў.

ДНК адказвае за тое, якімі мы ёсць. Не на сто працэнтаў, але ў вялікай ступені, адзначае генетык. Яна вызначае колер вачэй, валасоў, скуры, асаблівасці здароўя, уплывае на псіхічныя рысы і нават схільнасці да пэўнай дзейнасці. Напрыклад, матэматычныя ці лінгвістычныя здольнасці ў некаторай ступені залежаць ад ДНК.

«Калі мы кажам пра змяненне ДНК, выкарыстоўваем слова «мутацыя». Асноўная большасць мутацый, якія адбываюцца ў людзей, ніяк не ўплывае на здароўе ці выгляд. Дарэчы, іх мы выкарыстоўваем для нашых даследаванняў, таму што на іх не ўплывае асяроддзе, у якім жывуць людзі. Канечне, мутацыі бываюць шкодныя, яны адбываюцца ў тых частках ДНК, якія ўсё ж такі за нешта адказваюць. І яшчэ радзей адбываюцца карысныя мутацыі», — кажа спадар Васіль.

### Тры карысныя мутацыі

Некалькі тысяч гадоў таму ў Еўропе людзі пачалі гадаваць кароў і піць малако, распавядае генетык. Мы добра ведаем, што звычайна сысуны п'юць малако ў дзяцінстве, а потым страчваюць гэтую здольнасць. Пытанне: як людзі навучыліся піць малако? Калісьці ўзнікла мутацыя, якая прывяла да таго, што здольнасць піць малако не знікла з узростам. А далей, у выніку звычайнага натуральнага адбору, тыя, хто мелі гэтую ўласцівасць, з большай імавернасцю выжывалі ў складаных умовах, калі папросту не было чаго есці.

«Мы ведаем, што сярод сучасных людзей не ўсе могуць піць малако, — кажа навуковец. — Большасць еўрапейцаў — можа, а вось большасць азіятаў — не, бо ў іх праз гэта ўзнікаюць праблемы са страўнікам. Можна сказаць, што людзі, які сёння не могуць піць малако, менш эвалюцыйна прасунутыя. У Азіі не было жывёлагадоўлі, пры якой бы атрымлівалі малако, якое б спажывалі ў ежу, таму і гэтая ўласцівасць не была карыснай. Там жа, дзе пачалі вырошчваць кароў і спажываць малако, гэтая прыкмета стала карыснай і распаўсюдзілася на ўсю папуляцыю».

Даследчык прыводзіць і іншы прыклад. Ёсць людзі, генетычна ўстойлівыя да СНІДу. Гэта значыць, што адбылася мутацыя, дзякуючы якой вірус не можа памнажацца ў клетках. Такіх людзей у еўрапейскай папуляцыя каля аднаго працэнта.

«З пункту гледжання класічнай эвалюцыйнай тэорыі мы разумеем чаму. Не так шмат людзей гіне ад СНІДу. Калі б пачалася татальная эпідэмія, тады б гэтая мутацыя



# Абмежаванні пераважна этычныя

была вельмі карысная. Людзі, якія б дзякуючы ёй выжылі, потым перадавалі б яе далей. Усё ж такі сітуацыя са СНІДам у Еўропе не настолькі вострая, таму доля гэтай мутацыі не такая высокая», — даводзіць навуковец.

Ці яшчэ адзін прыклад.

«Калі хтосьці бываў у гарах на вялікіх вышынях, той ведае, што большасці людзей, асабліва тым, хто прызвычаіўся жыць унізе, знаходзіцца там складана. Не хапае кіслароду, цяжка дыхаць, баліць галава, ванітуе. А вось, да прыкладу, тыбетцы жывуць у гарах доўгі час, і высветлілася, што яны прыстасаваныя да гэтых умоў генетычна, — тлумачыць Васіль Панкратаў. — У іх ёсць мутацыі, якія дазваляюць ім жыць і камфортна сябе адчуваць на вялікай вышыні. Калі беларусы паедуць пажыць у Тыбет, то, хоць яны і прыстасуюцца да нізкай канцэнтрацыі кіслароду, але за кошт вялікай колькасці эрытрацытаў у крыві гэта будзе мець наступствы. Бо калі чырвоных клетак шмат, то ўзнікае высокая рызыка таго, што яны захраснуць у сасудах і справакуюць інсульт ці інфаркт».

Генетык адзначае, што мутацыі ўзнікаюць заўсёды. Кожны з нас адрозніваецца ад бацькоў прыкладна на 60 літар. Праўда, гэта 60 літар з шасці мільярдаў.

### Генетыка будучыні

Даследчык кажа, што ўжо цяпер беларускія генетыкі, прааналізаваўшы толькі асобныя часткі ДНК, могуць вызначыць, якія лекі могуць нашкодзіць чалавеку. З улікам гэтага можна планаваць лячэнне, прычым не толькі падбіраць правільныя лекі, але і вызначаць правільную дозу.

Ужо цяпер беларускія генетыкі могуць сказаць, ці з'яўляецца чалавек носьбітам пэўных генетычных хвароб.

«Палову генетычнага матэрыялу мы атрымліваем ад маці і палову — ад бацькі. То бок кожны ген, за што б ён ні адказваў, прадстаўлены дзвюма копіямі — ад маці і ад бацькі. Некаторыя людзі атрымліваюць адну нармальную копію, а другую — са шкоднай мутацыяй. Самі яны здаровыя, але з'яўляюцца носьбітамі. І калі два такія чалавекі захочуць дзіця, то яно можа нарадзіцца хворым, — распавядае спадар Васіль. — Часцей за ўсё да нас звяртаюцца людзі, у якіх у кагосьці ў сям'і былі выпадкі генетычнага захворвання. Яны хочуць даведацца, ці ёсць рызыка, што дзіця народзіцца хворым».

**Генафонды ва Усходняй Еўропе да такой ступені перамяшаныя!**

Генетык заўважае, што сёння магчыма праводзіць дыягностыку дзіцяці яшчэ да яго нараджэння. Праверыць, ці ёсць у яго генетычныя захворванні, яшчэ калі жанчына цяжарная. Гэта рабілі і раней, але больш складанымі, непрыемнымі і балючымі метадамі. Цяпер жа ў цяжарнай жанчыны бяруць кроў з вены, аддзяляюць ДНК маці ад ДНК дзіцяці і робяць аналіз.

«Далей мы падыходзім да рысы, калі нашы магчымасці сутыкаюцца з пытаннямі этыкі. Напрыклад, мы высветлілі, што і муж, і жонка, з'яўляюцца носьбітамі нейкага захворвання. Яны разумеюць, што з імавернасцю 25 працэнтаў у іх народзіцца хворае дзіця. Тым не менш яны хочуць дзіця, і хочуць, каб яно было здаровым. Цяпер, з дапамогай генетыкі і экстракарпаральнага апладнення, мы можам атрымаць некалькі эмбрыёнаў, кожны з іх праверыць на наяўнасць гэтай хваробы, абраць здаровы і падсадзіць яго ў матку. У выніку жанчына народзіць здаровае дзіця», — распавядае навуковец.

А вось далей пачынаецца навуковая фантастыка, якая, як запэўнівае даследчык, робіцца рэчаіснасцю. Ён прыводзіць у прыклад фільм «Гатака», зняты ў 1997 годзе, у якім распавядаецца пра грамадства будучыні, дзе яшчэ да цяжарнасці бацькі ідуць у цэнтр і замаўляюць дзіця. Кшталту: «Хачу з блакітнымі вачыма, светлымі валасамі і высокае» і далей у тым жа духу.

«Мы пакуль яшчэ не ведаем генетычныя асновы ўсіх прыкмет чалавека, але мы ведаем шмат. Тэхналогіі ўжо дазваляюць узяць зіготу, адну клетку, з якой далей утвараецца эмбрыён і потым — чалавек, і генетычна змяніць яе амаль што як заўгодна, — сцвярджае Васіль Панкратаў. — Канечне, не зрабіць супермена са сталёвай скурай, але ў межах тых прыкмет, якія сустракаюцца ў людзей, змяніць яго амаль як заўгодна. Можам абраць колер вачэй, валасоў, паўплываць на рост, схільнасці. І ў першую чаргу, можам вызваліць ад хвароб, якія альбо цалкам генетычныя, альбо маюць генетычны складнік. Пры ўмове, што мы ведаем, які менавіта ген і ў якім кірунку мы хочам змяніць, тэхнічна гэта цалкам магчыма, абмежаванні пераважна этычныя. І я думаю, маё пакаленне сутыкнецца з тым, што трэба будзе вырашаць, ці хочам мы гэтага».

**Настасся Роўда**



Ірма Масэ.

**Прафесарка, доктарка біялагічных навук Ірма Масэ, ужо больш за 25 гадоў кіруе лабараторыяй генетыкі чалавека Інстытута генетыкі і цыталогіі НАН Беларусі.**

«У сучасным грамадстве натуральнага адбору фактычна няма, мы выходжваем нават вельмі хворых дзяцей. Яны пакідаюць нашчадкаў, назапашваюцца мутацыі, — кажа Ірма Масэ. — Раней жанчыны нараджалі па 15 дзяцей, палова памірала, і заставаліся самыя здаровыя.

У 2013 годзе адкрылі магчымасць рэдагаваць ДНК, магчымасць убудоўваць ці забіраць любую мутацыю. Гэта пераверне наша жыццё, перспектывы каласальныя! Трэба пазбавіцца ад агрэсіі, хвароб, запраграмаваных у ДНК — гэта ўсё можна зрабіць. Ужо цяпер навукоўцы ідуць далей і гавораць пра тое, што будуць прадавацца наборы генаў здольнасцяў і дзецям можна будзе прывіваць таленты».

Спадарыня Масэ заўважае, што цяпер існуе ЭКА, і можна адбіраць эмбрыёны без паталагічных генаў. Напрыклад, у бацькоў вельмі цяжкая хвароба, і няма ніякіх шанцаў, што ў іх народзіцца здаровае дзіця. Робяць ЭКА, ствараюць сем эмбрыёнаў. Пяць хворых, адзін — здаровы, але з'яўляецца носьбітам хваробы, і яшчэ адзін — цалкам здаровы. Яго і падсаджваюць жанчыне, і яна нараджае цудоўнае дзіця, якое далей будзе перадаваць толькі здаровыя гены.

«Сёння можна выбраць хлопчыка ці дзяўчынку, колер вачэй. Іншая справа, што гэтага ніхто не робіць, бо навошта? Цяпер робяць адбор эмбрыёнаў толькі па медыцынскіх паказчыках, але ў будучыні… — разважае загадчык лабараторыі.

— Няхай ужо няважна, які там колер вачэй ці таленты, але калі прыбраць ген агрэсіі, каб людзі перасталі здзекавацца адно з аднаго, не кажучы пра жывёл, і прывіць усім ген дабрыні… Праўда, хто ведае, можа, ад гэтага таксама дабра не будзе».

Ірма Масэ кажа, што самае складанае тут — пытанні біяэтыкі, якія сёння стаяць вельмі востра. Што можна рабіць, а што — нельга.

Спадарыня Масэ дадае, што этычныя праблемы ў генетыцы былі заўсёды. Адкрыцці ў гэтай сферы спачатку пужалі, праз гэта навукоўцы самі кідалі свае даследаванні. Аднак праз нейкі час да іх усё адно вярталіся, да прыкладу: ЭКА было забаронена, а цяпер яго праводзяць па ўсім свеце.

«Ведаеце, нам кажуць: «Вы ўмешваецеся ў справы Бога, вы загубіце ўвесь свет». Але я адказваю, што фізікі і хімікі могуць зрабіць гэта нашмат хутчэй», — усміхаецца Ірма Масэ.

# 9 беларускіх прадуктаў, якія дзівяць іншаземцаў

У кожным айчынным супермаркеце і краме можна знайсці такія рэчы, якія будуць успрымацца як экзотыка ў Заходняй Еўропе і ЗША. «НН» прапануе спіс прадуктаў, якімі можа ганарыцца наша краіна.




### Глазураваныя сыркі

Адзін з першых беларускіх прадуктаў, на які падсаджваюцца замежнікі, — гэта глазураваныя сыркі. Далікатэс, якога не ведаюць нідзе ў свеце, апроч краін Балтыі, СНД і Венгрыі. Але мала якія могуць параўнацца з беларускімі. Іх у нас дзясяткі відаў. Паспрабуй абяры, ці табе хочацца сырокбульбачку ці з какосам, з пячэнем ці без. А самыя класічныя — гэта сыркі з ванільным тваражком і хрумсткім шакаладам. Сыркі любяць і дарослыя, і дзеці, бо яны даступныя па цане і прыемныя па смаку.

### Згушчонка

Не так даўно ў інтэрнэце з'явіўся здымак, дзе культавая польская лыжніца, двухразовая алімпійская чэмпіёнка Юстына Кавальчык на зборах фоткаецца з беларускай згушчонкай. Для спартоўцаў гэты прадукт выгадны тым, што здольны хутка ўзнаўляць баланс у арганізме. Сама тэхналогія вырабу згушчонкі з'явілася яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў ЗША, але папулярнасць гэты прадукт набыў менавіта на нашых абшарах. Адзінае, у чым ніколі не знойдуць згоду адэпты згушчонкі, чыя ж лепшая: глыбоцкая ці рагачоўская. А што думаеце вы наконт гэтага?

### Бярозавік

Магчыма, гэта і анекдот, але часта можна пачуць гісторыі, калі немец ці француз чуе пра бярозавы сок, то яго вочы акругляюцца і ён уяўляе, як сок выціскаюць з дрэва. Беларускія лясгасы заточаныя на тое, каб вясной сабраць як мага болей бярозавіку. Потым увесь год яго можна купляць у крамах. Бярозавік крыху экспартуюць за мяжу, але ў малых аб'ёмах. Некалькі гадоў таму замежная прэса выпусціла шэраг артыкулаў пра «напой, лепшы за ваду». Беларускі бярозавік карыстаецца папулярнасцю ў зорак накшталт Гвінэт Пэлтраў, якая перакананая, што напой дапамагае ёй захаваць добрую фігуру.

### Чыпсы пласцінкамі

Гэтую тэхналогію прыгатавання чыпсаў асвоілі яшчэ ў часы БССР, спачатку ў Мар'інай Горцы. Тады іх гатавалі проста з бульбы без усялякіх дадаткаў. А на сёння чыпсы пласцінкамі сталі адной з візітовак беларускай гастраноміі, іх цэняць за натуральнасць. Такія чыпсы можна знайсці нават у пераборлівым да чужой ежы Кітаі.

### Зефір

Бабруйская фабрыка «Чырвоны харчавік» хутка зарыентавалася, што беларускі зефір часта вязуць у падарунки для замежнікаў, таму пачалі выпускаць прыгожыя ўпакоўкі з традыцыйнымі беларускімі ўзорамі ў якасці сувеніра. У амерыканцаў ёсць маршмэлау, якое нечым аддалена нагадвае наш зефір, але смак усё ж зусім іншы. Зефір — гэта ўзбітае садавінава-ягаднае пюрэ з цукрам і яйкамі. Далікатны ласунак.

### Кефір

Рэжысёр «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін, які цяпер жыве ў Лондане, у адным з інтэрв'ю казаў, што з усіх беларускіх тавараў яму за мяжой не хапае толькі кефіру. У заходніх супермаркетах такога напою не знайсці. Кефір — вельмі карысны напой, таму ў савецкіх, а цяпер і ў беларускіх бальніцах яго прапануюць на ноч пацыентам. Дарэчы, не паўсюль можна знайсці і славянскую смятану, хоць гэты соус карыснейшы, скажам, за маянэз.

### Журавіны ў цукры

Адзін з найсмачнейшых беларускіх далікатэсаў. Наша краіна славіцца сваімі ляснымі ягадамі — чарніцамі, малінамі, дурніцамі, брусніцамі. А таксама і садовымі — тымі ж парэчкамі. А асобна вылучыць можна цукеркі — журавіны ў цукры. Па зборы журавін наша краіна займае адно з вядучых месцаў у свеце. Спалучэнне ягаднай кіслінкі і салодкай абалонкі робяць прысмак такім папулярным сярод замежнікаў. Прывезці ў падарунак некалькі ўпаковак журавін — бяспройгрышны варыянт.

### Сала

Часта даводзіцца чытаць інтэрв'ю з эмігрантамі, якія расказваюць, што за мяжой ім не хапае нашага сала. Каб разам з чорным хлебам, цыбуляй ці часныком, а яшчэ выпіць невялікую чарку гарэлкі. Пры жаданні, канечне, сала можна знайсці шмат дзе, у той жа Амерыцы, але культура спажывання гэтага прадукту не развітая настолькі, як у нас. Беларусы ведаюць дзясяткі рэцэптаў засолкі сала. Гэта беларускі гонар і адна з вызначальных страў.

### Квас

У летнюю спёку кіслы квас спатольвае смагу лепш, чым любая газіроўка. Працэнт алкаголю ў квасе зусім малы, таму пасля яго свабодна можна садзіцца за руль. Беларусы захавалі традыцыі прыгатавання квасу. Яго выпрацоўваюць як на вялікіх заводах, гэтак і ў прыватных гаспадарках. Вырабляюць яго шляхам закісання ячменнага соладу. Квас, як і кефір, карысны для страўніка.

**Зміцер Панкавец**

# Беларусы на службе ЦРУ.
## Частка II. CAMBISTA і AEQUOR

Піша гісторык **Антон Рудак.**

Пры канцы студзеня Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне ЗША апублікавала на сваім сайце 13 мільёнаў старонак дакументаў, якія раней былі даступныя толькі ў Нацыянальным архіве.

Беларусы ў ЦРУ былі заангажаваныя ў шэраг праектаў, якія мелі на мэце перадусім атрыманне актуальных звестак аб стане рэчаў у Савецкай Беларусі, антысавецкую агітацыю беларускага насельніцтва і падрыхтоўку да магчымых ваенных дзеянняў супраць СССР.

Тут сустракаюцца як цікавыя факты з біяграфіяў вядомых асобаў, так і не менш адметныя сюжэты з жыцця малавядомых постацяў. Але ўсіх гэтых персанажаў яднае падабенства іх лёсаў падчас вайны ў Беларусі і на эміграцыі ў Заходняй Еўропе ды ЗША, а таксама заблытанасць у віры супрацьстаяння амерыканскіх, нямецкіх і савецкіх спецслужбаў.

У першай публікацыі на сайце «Нашай Нівы» мы расказалі пра Францішка Кушаля, Станіслава Станкевіча, Ніну Якубовіч і Эмануіла Ясюка. Гэтым разам звернемся да пары іншых імёнаў.



Фота дакументаў Лявона Карася, якія былі пры ім у момант гібелі.

### Могілкі герояў

Прыхільнікі Рады БНР, якая аднавіла сваю дзейнасць у 1947 годзе ў Заходняй Нямеччыне, неўзабаве наладзілі кантакты з амерыканскім ЦРУ. Аналізуючы дакументы амерыканскай разведкі, перадусім варта звярнуць увагу на ўжываныя ў іх крыптанімы. Рада БНР называлася CAMBISTA-1, а яе дзеячы, у храналагічным парадку іх далучэння да супрацоўніцтва, атрымлівалі такі самы псеўданім з адпаведнай лічбай. Так, напрыклад, Барыс Рагуля меў мянушку CAMBISTA-2, прэзідэнт Рады БНР Мікола Абрамчык — CAMBISTA-4, і г.д. (пазней да гэтых крыптанімаў дадалі яшчэ дзве літары — AECAMBISTA).

Беларусы ў ЦРУ былі задзейнічаныя ў цэлым шэрагу праектаў, такіх як REDSKIN (аперацыі, звязаныя з легальнымі метадамі камунікацыі з агентамі ўнутры СССР), REDSOX (аперацыі, звязаныя з нелегальным вяртаннем эмігрантаў у Савецкі Саюз) і AEDEPOT (таксама AEREADY — падрыхтоўка кадраў на выпадак вайны з СССР).

Выключна беларускім быў праект AEQUOR, які прадугледжваў разведвальныя аперацыі ў БССР з выкарыстаннем прыхільнікаў Рады БНР, а таксама фінансаванне газеты «Бацькаўшчына».

Агенты, падрыхтаваныя ў межах праекту AEQUOR для засылкі ў БССР (сярод іх Янка Філістовіч, Цімох Вострыкаў і г.д.), мелі крыптанім CAMPOSANTO з адпаведнымі нумарамі. Цікава, што з лаціны *aequor* перакладаецца як «роўнядзь», *camposanto* з іспанскай — «могілкі», а *cambista* — «мяняла».

### Калі заўтра вайна

Кантактнай асобай між Радай БНР і ЦРУ першапачаткова быў Барыс Рагуля. Як вынікае з дакументаў, амерыканская разведка цікавілася ягонай асобай яшчэ ў 1948 годзе. У 1950, калі паўстала неабходнасць спраўдзіць інфармацыю, якую паведаміў контрвыведцы CIC агент Моніч, таксама вядомы пад іменем Антона Дуды, супрацоўнікі ЦРУ звязаліся з Рагулем асабіста, бо ягонае імя таксама згадвалася ў справаздачы кур'ера.




Рада БНР спадзявалася, што ўдасца дасягнуць незалежнасці Беларусі з апорай на ЗША.

Нагадаем, што Моніч-Дуда быў накіраваны ў 1948 годзе Францішкам Кушалем праз тэрыторыю ПНР з місіяй прабраца ў СССР, але, як у выніку ўдалося высветліць, так туды і не трапіў. Тым не менш, вярнуўшыся ў Заходнюю Нямеччыну, ён, са словаў Кушаля, пераказаў сфальсіфікаваныя сведчанні аб сваім побыце ў БССР і кантактах з «беларускімі партызанамі» (аб гэтым мы згадвалі ў мінулым матэрыяле «Беларусы на службе ЦРУ», змешчаным на сайце «Нашай Нівы»). ЦРУ, аналізуючы гэтыя звесткі, збірала інфармацыю пра згаданых Монічам асобаў і рэаліі. Напрыклад, аб назве «Чорны кот» паведамлялася наступнае: «Арганізацыя неаднаразова згадваецца як вольнае аб'яднанне бандыцкіх груповак з нізкім патэнцыялам у якасці арганізаванага руху. Гэтая назва пераважна ўжываецца для апісання ўсіх відаў супраціву з боку незадаволеных асобаў у Беларусі і Украіне».

У далейшым сустрэчы супрацоўнікаў ЦРУ з Рагулем рабіліся ўсё часцейшымі. У адным з дакументаў згадваюцца забаўныя «распазнаўчыя сігналы» для сустрэчы з інфарматарам: «Аб'ект уваходзіць і сморкаецца. [Агент] пытаецца па-нямецку, ці здалёк ён прыйшоў. Аб'ект адказвае: «Не, тут праз вуліцу». [Агент] пытаецца ў аб'екта, ці яму вядомае значэнне слова «Маладзечна». Сам Рагуля пазней узгадваў у лісце да кіраўніцтва ЦРУ: «В марте 1951 года я имел первую встречу с г-ном Давидом в Мюнхене. На его вопрос, что я могу пообещать дать с белорусской эмиграции для предусмотренной акции, я ответил, что в настоящий момент ничего, кроме хорошего желания её осуществить... Один надлежаще подготовленный человек равнялся бы... сотни солдат на фронте. В противном случае нам нет смысла подвергать риску жизнь белорусских патриотов».

Псіхалагічныя тэсты паказвалі, што Рагуля, безумоўна, не з'яўляецца варожым агентам і шчыра супрацоўнічае з ЦРУ, але ў большай ступені зацікаўлены ў грошах, чым сцвярджае. Ён таксама прыхоўваў факт кантактаў з брытанскай разведкай і ў пэўнай ступені замоўчваў сваю дзейнасць падчас вайны. У выніку была зробленая выснова, што высвятленне яго рэальнага мінулага можа дапамагчы кантраляваць яго шляхам шантажу. Але настроены ён быў рашуча: у 1951 годзе Рагуля ў размове з супрацоўнікам разведкі на пытанне, ці не шкада яму кідаць кар'еру доктара, адказаў, што няма ніякага сэнсу распачынаць кар'еру, якая праз пару гадоў можа быць перарваная вайной.

### Рыба, якая не маўчала

На 1951 год Рагуля адабраў з ліку маладых беларусаў каля 60 кандыдатаў, якія, на яго думку, мусілі б скласці беларускі дэсантны батальён пад амерыканскім кіраўніцтвам. Першы агент, які цалкам задаволіў амерыканцаў і быў падрыхтаваны, дэсантаваўся ў Беларусі 21 верасня 1951 года — гэта быў Янка Філістовіч. Між іншым, разглядалася магчымасць перакідкі агентаў наземным шляхам — з Фінляндыі, але ад гэтай ідэі адмовіліся, бо такі спосаб не дазваляў пераправіць абсталяванне для радыёсувязі. Хаця лёс Філістовіча дакладна так і не быў вядомы, у 1953 следам за ім накіраваліся чацвёра ўдзельнікаў «другой каманды» праекта AEQUOR — група Цімоха Вострыкава. Але гісторыя гэтага дэсанту заслугоўвае асобнага аповеду.

Рагуля прапаноўваў стварыць кадравую школу БНР, якая была б прыкрыццём для вярбоўкі і падрыхтоўкі агентаў для перакідкі ў СССР, але гэтая справа так і засталася на паперы. У 1954 Рагуля пісаў Абрамчыку з гэтай нагоды: «Шлю Вам гэты ліст, каб гэным шляхам паведаміць Вас аб яшчэ адной з шматлікіх няўвязак у нашым супрацоўніцтве з сябрамі... Мы апынуліся ў паложанні калабарантаў. Цяжкасць гэтага паложання якраз у тым, што калабарант мусіць шукаць выхаду з сітуацыяў, створаных тымі, ад каго ў аснаўным праца залежыць...» (правапіс захаваны — «НН»).

Таксама Рагуля ў 1953 годзе быў арганізатарам праекта NIGHTWATCH, які прадугледжваў вярбоўку і выкарыстанне ў мэтах разведкі савецкіх маракоў, якія прыбывалі на караблях гандлёвага флоту ў порт Антверпена. У гэтым праекце была задзейнічаная група студэнтаў Лювэнскага ўніверсітэта, якую ўзначальваў супрацоўнік радыё «Вызваленне» Уладзімір Цвірка (да эміграцыі — Вадзім Сурко). Але ў выніку куратары адзначалі, што Рагуля не выконвае інструкцый, ужывае сумнеўныя метады для выканання заданняў, робіць неабачлівыя абяцанні сваім падначаленым, неахвотна дае справаздачы аб сваіх поспехах і вылучаных фінансах. Існавала таксама падазрэнне, што ён разгалошвае дэталі супрацоўніцтва з амерыканскай разведкай.

Адным з агентаў, якія былі звязаныя з Рагулем і ў 1954 годзе рыхтаваліся для выкарыстання за жалезнай заслонай, быў супрацоўнік радыё «Вызваленне» Лявон Ка-

расць, якога сябры называлі мянушкай Рыба. З кантэксту дакументаў вынікае, што менавіта ён мог быць тым агентам з крыптанімам AECAMPOSANTO-11, які на самым пачатку падрыхтоўкі выявіў залішнюю абазнанасць у справах супрацоўніцтва Рады БНР з ЦРУ — напрыклад, яму была вядомая дэтальная інфармацыя аб папярэдніх дэсантах, месцы іх высадкі і г.д. Больш за тое, высветлілася, што ў той ці іншай ступені дэталі праекта вядомыя іншым беларускім студэнтам у Бельгіі і нават дзеячам БНР далёка за яе межамі. У сакавіку 1954 Рагуля пісаў кіраўніцтву ЦРУ: «Вы упрекаете, что Рыба знает о местонахождении четырёх. Упрёк на ничём не основан, и это совершенно невероятно, так как об этом не знает даже Президент и никто из моих сотрудников. Рыба будто бы знает, где скрыта отрава [атрута, схаваная ў каўнярах вопраткі дэсантнікаў на выпадак затрымання — НН]. Но я сам об этом ничего не знаю. Я пришёл к единственному возможному заключению, что все эти аргументы подысканы для маскировки действительной опасности, которая, вероятно, угрожает не с нашей стороны».

У верасні таго ж года Лявон Карась быў знойдзены мёртвым у рацэ Ізар каля Мюнхена. Паліцыя праводзіла следства надта няйдбайна, і сапраўдныя абставіны ягонай смерці так ніколі і не былі высветленыя. У эмігранцкім асяродку панавала думка, што Карась зрабіўся ахвярай савецкіх агентаў.

### Янка Брыль паведамляе

У чаканні вайны з СССР сваё супрацоўніцтва прапанаваў ЦРУ і прэзідэнт Рады БНР Мікола Абрамчык. Наведаўшы беларускі асяродак у Кліўлендзе, ён са здзіўленнем даведаўся, што некаторыя маладыя беларусы так жадалі вярнуцца на Бацькаўшчыну, што пайшлі служыць у амерыканскае войска, каб навучыцца скакаць з парашутам, і такіх налічвалася каля дваццаці. Абрамчык прапанаваў стварыць з ліку такіх добраахвотнікаў беларускую гвардзейскую роту.

Інфармацыю аб антысавецкім руху на Бацькаўшчыне шукалі ў самых нечаканых месцах. Так, на адной з сустрэчаў Абрамчык паведаміў супрацоўніку ЦРУ, што ў СССР выйшла кніга Янкі Брыля «У Забалоцці днее», дзе змяшчаюцца звесткі аб антыкамуністычным падполлі на Навагрудчыне. Абрамчык сцвярджаў, што згаданыя ў кнізе асобы могуць быць знаёмыя Барысу Рагулю, які паходзіць з апісаных у творы мясцінаў.

Падчас візіту ў ЗША паэта Пятра Глебкі з дыпламатычнай місіяй разглядалася магчымасць скантактавацца яго з даўнім сябрам з даваенных часоў Антонам Адамовічам, які запэўніваў, што Глебку можна схіліць застацца ў Амерыцы. Увагу ЦРУ прыцягнула і такая вестка: 13 снежня 1956 года газета *New York World Telegram and Sun* паведамляла, што на баку венгерскіх паўстанцаў у вакаліцах Будапешта змагаюцца беларускія салдаты, якія дэзерціравалі з савецкай арміі. Рабіліся захады па ўсталяванні кантакту з гэтымі асобамі.

### Бальшавік — таксама чалавек

Але ў антысавецкім змаганні можна было разлічваць далёка не на ўсіх саюзнікаў. У гутарцы з супрацоўнікамі ЦРУ Мікола Абрамчык, між іншага, няўхвальна адгукаўся аб АУН(б), якая, на ягоную думку, псавала рэпутацыю ўсіх нерасійскіх эмігрантаў з СССР, і імкнуўся падкрэсліць, што Рада БНР не хоча мець з бандэраўцамі нічога супольнага. Зрэшты, як адзначаў ягоны суразмоўца, гэта магло быць выклікана невысокім меркаваннем аб АУН, якое на той час панавала ў амерыканскіх спецслужбах. Абрамчык лічыў, што галічане з АУН «успрынялі рамантычны аспект польскага нацыяналізму, але не здолелі пераняць польскую вытанчанасць», таму схільныя дзейнічаць неабачліва.

Пасля чарговага візіту ў ЗША Абрамчык наракаў, што ўсе антыкамуністычныя інстытуцыі абсаджаныя русафіламі, якія не даюць развівацца беларускім захадам у гэтай справе. Так, сутыкнуўшыся з меркаваннем, што радыё «Голас Амерыкі» можа вяшчаць на Беларусь парасійску, Абрамчык настойваў на арганізацыі беларускай секцыі, аргументуючы, што беларуская мова адрозніваецца ад расійскай мацней, чым скандынаўскія мовы міжсобку, а колькасць насельніцтва Беларусі большая, чым усіх балтыйскіх рэспублік разам.

Між іншым, у 1956 годзе Абрамчык прапаноўваў ЦРУ каля 60 кг арыгіналаў дакументаў Беларускай Народнай Рэспублікі, якія ўяўлялі немалую гістарычную каштоўнасць — пры ўмове, што ў будучыні яны будуць перададзеныя беларускаму ўраду, які будзе прызнаны ЗША. Ці былі запатрабаваныя гэтыя дакументы амерыканскай разведкай — невядома.

ЦРУ ніколі не хавала сваёй занепакоенасці, што Рада БНР і кола яе прыхільнікаў могуць быць інфільтраваныя савецкімі агентамі. Тым большую цікавасць выклікала паведамленне аб магчымых сувязях прэзідэнта Міколы Абрамчыка з камуністамі. У 1955 адзін з супрацоўнікаў паведамляў, што ў газеце расійскіх эмігрантаў «Новое русское слово» была апублікаваная інфармацыя, якая кампраметавала Абрамчыка як агента НКВД. Калі яму было прапанавана даць абвяржэнне, Абрамчык нечакана адказаў: «Я не лічу патрэбным рэагаваць на плёткі. Зрэшты, нават калі я і быў бальшавіком, то што ў гэтым крымінальнага?»

### «Беларускі паўстанец» на чале польскіх спецслужбаў

У 1953 годзе адбылася першая сустрэча Абрамчыка і яго зацятага суперніка і канкурэнта — прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага. Падчас спаткання апошні не хаваў скепсісу што да сваіх аднадумцаў і паплечнікаў і прапаноўваў аб'яднаць прыхільнікаў Рады БНР і БЦР пад супольным кіраўніцтвам. У Радзе БНР у той час таксама наспяваў унутраны крызіс. Пасля правалу Філістовіча і групы Вострыкава ў БССР давер ЦРУ да сяброў Рады БНР аслабеў. Астроўскі не мог не скарыстаца з такой магчымасці. Калі раней БЦР актыўна супрацоўнічала з брытанскімі спецслужбамі, то цяпер яе прыхільнікі імкнуліся зацікавіць ЦРУ. Беларуская цэнтральная рада ў дакументах амерыканскай разведкі згадваецца пад крыптанімам AETOMAC-1, Астроўскі меў мянушку AETOMAC-2.

За супрацоўніцтва з брытанскай разведкай у БЦР адказвала ваенізаваная арганізацыя «Беларускі вызвольны рух» (БВР). Яе кіраўнік Людвіг Галубовіч-Зарэчны нават пагражаў, што расстраляе Абрамчыка і Рагулю за тое, што яны «прадаюць беларусаў амерыканцам». 27 жніўня 1952 года Зарэчны склаў на імя Астроўскага абсалютна фантастычны рапарт, у якім са словаў агента за жалезнай заслонай распавядаецца, нібыта «беларуская антысавецкая партызанка» ў БССР і ПНР спынілася толькі ў 1948, усе яе ўдзельнікі легалізаваліся, многія — у войску ці спецслужбах, а нейкі «генерал Р.» наогул зрабіўся міністрам дзяржбяспекі ПНР (!). Пра Міхала Вітушку адзначана, што ён нібыта з'яўляўся «ў горадзе» двойчы — у 1946 і 1947, далей ягонае месцазнаходжанне невядомае.

З далейшых дакументаў высвятляецца, што высокапастаўлены «сімпатызант беларускіх партызанаў» — гэта нібыта міністр дзяржбяспекі ПНР Станіслаў Радкевіч. Наогул, Зарэчны ў сваёй справаздачы робіць акцэнт на тым, што ўсе «беларускія партызаны» знаходзяцца ў ПНР, куды ўцяклі ад бальшавікоў, чакаючы, што Польшча будзе незалежнай (ці не тут бяруць пачатак гіпотэзы пэўных сучасных аўтараў аб тым, што штаб Вітушкі знаходзіўся пад Варшавай?). Так ці інакш, гэтыя звесткі былі прызнаныя ЦРУ абсалютна неймавернымі.

### Заклятыя сябры

У барацьбе з канкурэнтамі ўсе сродкі здаваліся добрымі. У жніўні 1952 агент ЦРУ паведамляў, што з размоў з Абрамчыкам і Рагулем стала вядома аб радыёстанцыі, меркавана размешчанай у Брытаніі, якая ад імя «беларускіх партызанаў з-пад Гродна» агітуе за Астроўскага супраць Рады БНР. Але, нягледзячы на вострае суперніцтва БЦР і Рады БНР, ЦРУ было зацікаўленае ў аб'яднанні беларускіх антысавецкіх сілаў.

Увосень 1952 года Астроўскі прапанаваў амерыканцам распрацаваны БВР план супрацоўніцтва з разведкай ЗША, які прадугледжваў, між іншага, засылку групы разведчыкаў у ПНР і яшчэ дзвюх — у БССР. У ЦРУ ўспрынялі такі праект з энтузіязмам, вырашыўшы прапанаваць сябрам Рады БНР стварэнне адзінай разведвальнай школы для прыхільнікаў абедзвюх палітычных арыентацый беларускай эміграцыі. Адмова з боку Рады БНР азначала б, на думку амерыканцаў, «палітычную катастрофу, бо гэтая група амаль цалкам залежная ад нашай падтрымкі». Барыс Рагуля ў 1954 пісаў: «Г-н Питир упрекнул нас в том, что у нас «больше организаций, чем людей»... Позвольте обратить ваше внимание на то, что, несмотря на все разницы внешних форм и методов работы этих организаций, они все стремятся к одной и той же цели. Полного же единомыслия можно требовать только в тоталитарных системах, против которых мы боремся».

Аднак супярэчнасці між канкурэнтамі былі занадта моцнымі, а неўзабаве ў ЦРУ высветлілі, што і Радаслаў Астроўскі ў мінулым быў цесна звязаны з камуністамі ў Заходняй Беларусі. На тле правалу ў БССР місіі дэсантнікаў Рады БНР у 1952–1954 гг. ЦРУ палічыла немэтазгодным далейшае супрацоўніцтва з беларусамі з абодвух палітычных лагераў.

Барыс Рагуля ў сваім лісце да кіраўніцтва ЦРУ ў 1954 годзе пісаў: «Вы ошибаетесь, если думаете, что в случае прекращения вашей помощи белорусская эмиграция не будет продолжать своей работы. Даже в случае прекращения нашего сотрудничества (хотя это и немыслимо в связи с людьми, находящимися там), раз начатое дело не будет прекращено. Наша борьба за освобождение Белоруссии датируется ни от 45-го, ни, тем более, от 51-го года. Наши усилия в продолжении контакта с Б[елоруссией] не прекратятся, независимо от положения, в которое нас могут поставить».

*(Працяг будзе.)*



**Прэзідэнт Беларускай цэнтральнай рады Радаслаў Астроўскі.**



**Барыс Рагуля адабраў з ліку маладых беларусаў каля 60 кандыдатаў, якія, на яго думку, мусілі б скласці беларускі дэсантны батальён пад амерыканскім кіраўніцтвам.**

# Чаму ўкраінцы лічаць Галадамор генацыдам

Галадамор — страшны голад у 1932—1933 гадах ва Украіне.





З таго часу мінула 85 гадоў. Цяперашнім людзям цяжка нават уявіць, што такое голад. Яшчэ цяжэй усвядоміць тое, што голад не быў наследкам неўраджаю, а быў створаны савецкай уладай спецыяльна. Больш за ўсё украінцаў загінула ў Харкаўскай, Кіеўскай, Палтаўскай, Сумскай, Чаркаскай, Днепрапятроўскай, Жытомірскай, Вінніцкай, Чарнігаўскай, Адэскай абласцях — у жытніцы Еўропы, на чарназёмах, быў голад.

Галоднай смерцю тады загінула каля 4 мільёнаў чалавек. У мірныя 1932—1933 гады ўкраінцаў загінула прыкладна столькі ж, колькі ў Другой сусветнай вайне.

Першымі, самымі безабароннымі, ахвярамі Галадамору былі дзеці — іх колькасць складае амаль палову ад агульнай колькасці ахвяр. А колькі дзяцей не нарадзілася...

Арганізатары масавага забойства голадам у 1932—1933 гадах загадалі адбіраць у сялян усе прадукты, усю скаціну, усё неабходнае для выжывання. Штучна створаны голад падтрымліваўся ізаляцыяй сёл. Дарогі, па якіх спрабавалі дабрацца да гарадоў, перакрываліся ваенізаванымі атрадамі.

Людзі елі траву, кару, падлу, пацукоў, катоў, сабак... Былі масавыя выпадкі канібалізму. Толькі афіцыйна было заведзена каля 2000 спраў аб людаедстве.

Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры, пісьменніца Святлана Алексіевіч, якая мае беларускія і ўкраінскія карані, згадвае, што калі яна маленькай жыла ў сваёй украінскай бабулі, то бабуля і іншыя вясковыя жанчыны заўсёды замаўкалі, калі праходзілі міма хаты адной жанчыны, пра якую ведалі, што ў Галадамор яна з'ела сваіх дзяцей... Яе ніхто не асуджаў, проста замаўкалі...

Страшна, амаль невыносна, чытаць сведчанні тых, хто перажыў Галадамор.

Вось расказ Уладзіміра Сергіенкі з Харкаўскай вобласці, які ў той час быў дзіцём: «Ніколі не забуду жахлівага ўчынку, да якога падштурхнуў голад нашых суседзяў — дзядзю Яшу і цёцю Кацярыну. У гэтай пары памерла адзіная любімая дачка Галя. Яе мёртвае цельца паклалі ў нейкую скрыню і павезлі ў астатні шлях, раз за разам падаючы ад бяссілля. Суседзі падышлі дапамагчы і папрасілі адкрыць твар памерлай, каб развітацца. Бацькі запратэставалі. Хутаране ўсё ж настаялі на сваім і пабачылі, што цела дзяўчынкі абрэзана нажом. Раз'юшаныя людзі накінуліся на мужа і жонку, каб пакараць іх за людаедства. А дзядзя і цёця сталі маліць не забіваць іх, апраўдваючыся: «Елі яе ўжо нежывенькую». А як жа раней песцілі Якаў і Кацярына сваю дачушку, як балавалі. Памятаю, гадоў за пяць да гэтай страшнай трагедыі бацька, прадаўшы карову, купіў Галі паўмяшка цукерак. Дзеля дачкі ён быў гатовы на ўсё. Аднак і ён не вытрымаў здзеку голадам, страціў чалавечае аблічча».



А вось аповед Алены Нагорнай з Запарожскай вобласці: «Баюся, сынок, баюся ўспамінаць пра гэта. Бо пасля голаду быў трыццаць сёмы, і ў нас ездзіў «чорны воран», дзёўб людзей... А ў голад памёрла трое маіх сыноў — Васілёк, Рыгор і Пятрусь. Адзін аднаго меншы. Як жа яны хлябцу прасілі! Божа мой! Ніхто не злітаваўся, ніхто — ні Бог, ні сельсавет, — апухлі мае дзеткі...»

Расказвае дачка рэпрэсаванага доктара Алена Жарнова з Запарожжа: «Бацьку як камуніста пасылалі на хлебанарыхтоўкі. Пасля кожнай паездкі ён вяртаўся чорны. «Яны ўсе памруць. Ім ужо няма чаго аддаваць. Маленькі бурачок — і той цягнуць з дому. А ў кожным доме — па сем-дзесяць дзяцей. Гэта забойства. Забойства без стрэлу!»

Хто вінаваты ў гэтым масавым забойстве, у гэтым страшным злачынстве? Усе, хто браў у ім удзел. Пачынаючы са Сталіна, які аддаваў распараджэнні пра тое, каб забраць у сялян усю ежу, і заканчваючы тымі «ўпаўнаважанымі», якія непасрэдна адбіралі ў сялян хлеб да апошняга зярнятка, усе прадукты, тымі, хто не дазваляў апухлым ад голаду людзям выязджаць з вёсак.

Па вялікім рахунку, вінавата савецкая ўлада, дзяржава СССР. Пры гэтым ніхто не быў пакараны за гэта. Наадварот, трагедыю ўкраінскага сяла камуністычная ўлада ўспрыняла як перамогу.

Так, адзін з высокапастаўленых дзеячаў кампартыі ва Украіне, член Палітбюро Мендзель Хатаевіч (да слова, ён быў родам з Гомеля) з гонарам заяўляў у 1932 годзе: «Паміж сялянамі і нашай уладай ідзе жорсткая барацьба. Гэта барацьба не на жыццё, а на смерць. Гэты год стаў выпрабаваннем нашай сілы і іх цягавітасці. Голад даказаў ім, хто тут гаспадар. Ён каштаваў мільёны жыццяў, але калгасная сістэма створана. Мы выйгралі гэтую вайну».

У 2006 годзе Вярхоўная Рада Украіны афіцыйна прызнала Галадамор 1932—1933 гадоў генацыдам украінскага народа. Па законе публічнае адмаўленне Галадамору лічыцца супрацьпраўным, але пакаранне за такія дзеянні не ўдакладняецца.

Галадамор прызналі генацыдам украінцаў 24 дзяржавы: Грузія, Эстонія, Іспанія, Італія, Канада, Латвія, Літва, Польшча, ЗША, а таксама шэраг цэркваў (Каталіцкая царква, Канстанцінопальская праваслаўная царква ды іншыя). У той жа час многія краіны, напрыклад Расія і Беларусь, не прызналі афіцыйна Галадамор генацыдам. Больш за тое, многія расійскія гісторыкі абвінавачваюць украінцаў у наўмысным палітызаванні гэтай трагедыі, а таксама ў тым, што прызнанне Галадамору генацыдам распальвае міжнацыянальную варожасць.

На чым базуецца ўспрыманне Галадамору як генацыду? Першым гэты тэрмін у адносінах да Галадамору прапанаваў адвакат Рафаэль Лемкін у 1944 годзе (дарэчы, нарадзіўся ён у Ваўкавыскім раёне Гродзенскай вобласці).

## А дзядзя і цёця сталі маліць: «Мы ж елі яе ўжо нежывенькую»

Лемкін — аўтар самога тэрміна «генацыд» і праекту канвенцыі ААН аб папярэджанні і пакаранні злачынстваў генацыду. Ён, як і шэраг іншых даследчыкаў потым, лічыў, што Галадамор цалкам падпадае пад вызначэнне генацыду, і ставіў яго ў адзін шэраг з Халакостам (вынішчэннем яўрэяў падчас Другой сусветнай вайны). Згодна з міжнародным правам, генацыдам лічацца дзеянні, якія здзяйсняюцца з намерам знішчыць, цалкам або часткова, якую-небудзь нацыянальную, этнічную, расавую, рэлігійную ці іншую гістарычна-культурна-этнічную групу як такую шляхам забойстваў членаў гэтай групы, прычынення цяжкай шкоды іх здароўю, мер, разлічаных на прадухіленне дзетанараджэння ў такой групе, адабрання дзяцей з сям'і, наўмыснага стварэння жыццёвых умоў, разлічаных на поўнае або частковае фізічнае знішчэнне гэтай групы.

Тыя гісторыкі, якія не ўспрымаюць такой канцэпцыі, абгрунтоўваюць сваю думку тым, што голад у 1932—1933 гадах быў створаны не толькі ва Украіне, а, напрыклад, у Паволжы, Казахстане, іншых рэгіёнах СССР, таму, маўляў, гаварыць аб генацыдзе менавіта ўкраінцаў некарэктна.

Але як бы хто ні ставіўся да гэтых падзей, ясна, што Галадамор — праява сусветнага Зла, якое часта праяўляецца ў дзеяннях улады, калі яна становіцца бесчалавечнай, непадкантрольнай народу, беспакаранай.

**Наталля Панасюк**

# Сем найлепшых серыялаў гэтай зімы

Тэлевізійныя серыялы становяцца важнымі падзеямі ў культурным жыцці свету. Іх абмяркоўваюць і чакаюць нават больш, чым поўнаметражных фільмаў. Найлепшыя рэжысёры сучаснасці, напрыклад, Вудзі Ален ці Паола Сарэнціна, не грэбуюць здымкамі серыялаў. «НН» прапануе вашай увазе міні-гайд па найлепшых серыялах апошніх месяцаў.



Клэр Фой у ролі Лізаветы II у серыяле «Карона».

### «Карона» (The Crown)

Драма, біяграфія. ЗША, Вялікабрытанія. 1-ы сезон
Адзнака на IMDB: 8,9

Серыял «Карона» сёлета атрымаў «Залаты глобус» як найлепшы драматычны серыял 2016 года. А выканаўца галоўнай ролі Клэр Фой — як найлепшая актрыса ў серыялах.

Заходнія кінематаграфісты працягваюць увекавечваць жыцці брытанскіх манархаў у серыялах. Толькі восенню з'явіўся першы сезон «Вікторыі», як патокавы тэлеканал *Netflix* запусціў «Карону» пра каралеву Лізавету II.

Дарэчы, вельмі цікава параўнаць паводзіны гэтых асоб. Вікторыя з малых гадоў чакала смерці свайго дзядзькі Вільгельма IV, каб узысці на трон. Для Лізаветы сыход яе бацькі Георга VI быў нечаканы. Яна не рыхтавала сябе да каралеўства.

Тайныя спружыны палаца, інтрыгі і перашкоды, з якімі сутыкалася каралева на сваім шляху, — усё гэта ў «Кароне». Вельмі цікавая роля мужа каралевы — герцага Філіпа (каб ажаніцца, ён адмовіўся ад грэцкага праваслаўя на карысць англіканства). Гэта сапраўды цяжкая ноша — быць у цені сваёй жонкі, заставацца на другіх ролях. Можа, таму Філіп не заўсёды паказаны ў прывабным святле.

Гэты серыял варта глядзець і дзеля Джона Літгоу, які геніяльна выканаў ролю Уінстана Чэрчыля. Брытанскі прэм'ер з'яўляецца ў серыяле ва ўсёй сваёй вялікасці і нікчэмнасці.

### «Вікінгі» (Vikings)

Гістарычная драма. Канада, Ірландыя. 4-ы сезон.
Адзнака на IMDB: 8,7

У цэнтры серыяла легендарны скандынаўскі конунг Рагнар Ладброк. Вікінгі разумеюць, што краіны Балтыйскага рэгіёна спустошаныя імі цалкам. Дзеля таго, каб выжыць, трэба адкрываць новыя кірункі для набегаў. Ад кагосьці з падарожнікаў Рагнар чуе пра Англію і яе багацці. Пасля гэтага Рагнар жыве толькі думкай пра тое, як накіравацца туды з воінамі.

Каталіцкі біскуп з Лос-Анджэлеса Роберт Беран выказаў меркаванне, што «Вікінгі» — самы цікавы тэлесерыял апошняга часу для вернікаў, хоць і большасць герояў марыць пра Вальхалу і клянецца ў вернасці Тору. Хрысціянства прысутнічае ў асобе манаха Адэльстана, які шукае падыходы да сэрца Рагнара. А паганства — у асобе будаўніка караблёў Флокі, аднаго з найцікавейшых персанажаў фільма.

У серыяле шмат крыві і жорсткасці, але не трэба толькі праз гэта ставіць на ім крыж. Гэтае кіно пра мужнасць, здраду, веру, адносіны. А падзеі не даюць засумаваць.

Ролю жонкі Рагнара — непаўторнай Лагерты — выканала канадская актрыса Кэтрын Уінік. Гэта псеўданім, а сапраўднае імя — Кацярына Вінніцкая. Яна нарадзілася ў Таронта, да васьмі гадоў размаўляла толькі паўкраінску, хадзіла ва ўкраінскую школу.



Кадр з серыяла «Чалавек у высокім замку» па рамане Філіпа Дзіка.

### «Малады папа» (The Young Pope)

Драма. Італія, Іспанія, Францыя. 1-ы сезон
Адзнака на IMDB: 8,5

Пра гэты серыял ужо сказана столькі ўсяго, што дадаць нешта вельмі цяжка. Яго рэжысёрам стаў Паола Сарэнціна, адзін з найбольш цікавых рэжысёраў сучаснасці. І Сарэнціна з'яўляецца адным з галоўных герояў фільма на працягу ўсіх дзесяці серый. Часам не столькі цікава назіраць за ігрой акцёраў, як за рэжысёрскай працай майстра. «Малады папа» перапоўнены самымі рознымі дэталямі, вобразамі. Праз кожныя пару секунд можна ціснуць на «стоп», каб паўзірацца ў дэкарацыі.

Што тычыцца сюжэту, то малады амерыканскі кардынал Ленi Белардa па выніках канклаву становіцца новым папам. Яго разглядаюць як альтэрнатыву ліберальнаму дзяржсакратару Ватыкана Анджэлу Ваёлу і харызматычнаму кардыналу-кансерватару Майклу Спэнсэру. Новы папа Пій XIII мусіў стаць цацкай у руках старэйшых калег, але нечакана пачынае гуляць па ўласных правілах.

Папа курыць у Ватыкане, прыручае кенгуру, п'е кока-колу, шантажуе італьянскага прэм'ер-міністра, не ведае, пра што размаўляць з праваслаўным мітрапалітам, адштурхоўвае ад сябе вернікаў, яго даймаюць дэманы дзяцінства. Але чым больш пра яго даведваюцца людзі, тым больш яны разумеюць, што папа — святы. Вось толькі пытанне: ці верыць Пій XIII у Бога?

### «Галіяф» (Goliath)

Юрыдычная драма. ЗША. 1-ы сезон
Адзнака на IMDB: 8,3

Галоўны герой — адвакатняўдачнік Білі Макбрайд. Калісьці ён быў сузаснавальнікам буйной адвакацкай канторы, але ў нейкі момант жыццё пасыпалася. Цяпер Макбрайд разведзены, жыве ў матэлі, глушыць літрамі алкаголь, а таксама перабіваецца выпадковымі справамі.

Такі стан рэчаў працягваецца да той пары, пакуль Білі не падварочваецца справа ўсяго жыцця — таямнічая смерць маладога супрацоўніка абароннага прадпрыемства. Супрацьстаяць Білі ў гэтай справе будзе ягоны колішні кампаньён — Дональд Куперман.

Здавалася б, шанцаў нуль. І канкурэнты проста раструшчаць Білі, калі не юрыдычна, то фізічна дакладна. Але яму неяк удаецца навязаць барацьбу.

Варта адзначыць бліскучую ігру Білі Бобі Торнтана — выканаўцы галоўнай ролі. Менавіта ён атрымаў «Залаты глобус» за найлепшую мужчынскую ролю ў серыялах за 2016 год.

### «Чалавек у высокім замку» (The Man in the High Castle)

Альтэрнатыўная гісторыя, трылер. ЗША. 2-і сезон
Адзнака на IMDB: 8,1

Давайце ўявім сітуацыю: нацысты перамагаюць у Другой сусветнай вайне. ЗША падзеленыя на тры часткі. Усходняе ўзбярэжжа кантралюе Германія, заходняе — Японія. Невялікая палоска зямлі ў раёне Скалістых гор утварае нейтральную тэрыторыю. Менавіта такі сюжэт стварыў амерыканскі фантаст Філіп Дзік.

Падзеі адбываюцца ў пачатку 1960-х. На сцягу ЗША, замест зорачак, красуецца свастыка, састарэлы Гітлер кіруе вялікай імперыяй апошнія дні. І ў Нью-Ёрку, і ў Сан-Францыска тлеюць ачагі супраціву. Падполле кішыць шпіёнамі, нікому давяраць нельга.

Адзіную надзею даюць кінахронікі перамогі над нацызмам, створаныя нейкім «чалавекам у высокім замку». Хто гэта такі і дзе ён жыве, ніхто не ведае.

### «Узорныя бунтаркі» (Good Girls Revolt)

Гістарычная драма. ЗША. 1-ы сезон
Адзнака на IMDB: 8,1

Канец 1960-х. Нью-ёркскі часопіс «Навіны тыдня» лічыцца адным з самых папулярных і паспяховых у краіне. Журналістамі ў часопісе працуюць толькі мужчыны, але да кожнага з іх прыстаўленая жанчына, якая дапамагае ў зборы інфармацыі, абзвоньвае крыніцы. Пісаць самастойна артыкулы жанчынам забараняецца. Нават уласніца выдання кажа: «Не, мілачкі, вы пісаць нічога не будзеце».

Некалькі памочніц пачынаюць сваю барацьбу, спачатку таемную, за правы жанчын. У стварэнні серыяла ўзялі ўдзел дастаткова таленавітыя акцёры. Моднікам будзе вельмі цікава паглядзець, як апраналіся, дзе праводзілі час у Нью-Ёрку 1969 года. У гэтым плане фільм атрымаўся вельмі густоўным.

Дзеля справядлівасці варта адзначыць, што не абышлося ў кіно і без гендарных перагібаў. Але ў цэлым бунтарак глядзець варта хаця б дзеля таго, каб пабачыць, які каласальны прагрэс у пытанні правоў жанчын быў дасягнуты цягам жыцця аднаго пакалення.

### «Стралок» (Shooter)

Драма, баявік. ЗША. 1-ы сезон
Адзнака на IMDB: 7,7

У Сіэтле рыхтуецца замах на жыццё прэзідэнта ЗША, але падчас мерапрыемства куля знаходзіць кіраўніка Украіны, які і быў мэтай злачынцаў. У забойстве абвінавачваецца геніяльны снайпер Боб Лі Свэгер. Сяржант марской пяхоты, які прайшоў праз Афганістан. Літаральна некалькі чалавек у свеце страляюць лепш за Свэгера.

Замкнуты снайпер аказваецца ў цэнтры буйных разборак паміж расійскімі спецслужбамі і амерыканскімі дзялкамі. Задача Боба Лі — даказаць сваю невінаватасць.

**Зміцер Панкавец**

## Геолагі адкрылі сёмы кантынент Зямлі




Месцазнаходжанне Зеландыі.

Пад водамі Ціхага акіяна ў яго паўднёва-заходняй частцы размяшчаецца Зеландыя — сёмы кантынент Зямлі. Да такой высновы прыйшлі геолагі з Новай Зеландыі, Аўстраліі і Новай Каледоніі, паведамляе выданне *Nature News*.

Плошча новага кантынента займае каля пяці мільёнаў квадратных кіламетраў. Вялікая яго частка, прыкладна 94 працэнты, размешчаная пад вадой, сярод наземных элементаў — выспы Новая Каледонія і новазеландскія выспы Паўночная і Паўднёвая.

Зеландыя, паводле ацэнак навукоўцаў, пачала адколвацца ад старажытнага суперкантынента Гандвана каля ста мільёнаў гадоў таму. Гэта прывяло да дэфармацыі зямной кары, у выніку чаго вялікая частка мацерыка апынулася пад вадой. Свае высновы геолагі пацвярджаюць спадарожнікавымі назіраннямі, у прыватнасці, гравіметрыяй, згодна з якой, на месцы Зеландыі знаходзіцца мацерыковая, а не акіянская кара або вулканічныя пароды.

Аўтары прапануюць павялічыць колькасць геаграфічных кантынентаў, далучыўшы да іх і Зеландыю.

**Аляксандр Апон.** Камедыя.

# Загнаныя

**Дзейныя асобы**
Зоя — ўдава
Юля —яе дачка
Люда — іх суседка
Сяргей — муж Люды
Баба Вера
Лібай
Два міліцыянты
Сабака Рыжык
Голас па рацыі
Прывід энкавэдыста
Прывід эсэсаўца

*Дзея адбываецца ў ваколіцы Мінска, у вёсцы Ш... Сялянскі падворак. Злева хата, хлеў, сабачая будка. Справа новы, па-мастацку выфарбаваны плот з весніцамі — адна ляска зялёная, другая чырвоная, трэцяя зноў зялёная і гэтак далей, — за якім прабягае шаша. Гарачы чэрвеньскі дзень. Зоя таўчэ ў дзежцы свіням бульбу і напявае.*

Тонкая сасёнка ў лесе зашумела,
Маладая дзяўчыначка замуж захацела.
Ці ты, дзяўчыначка, век хлеба не ела,
Што ты, маладзенька, замуж захацела?
Лепей стань, падумай, каб не ашукацца.
Будзе табе горай, як у роднай маці.
Сядзеш над калыскай,
будзеш калыхаці:
«Люлі, люлі, мой сыночак»,
песенькі спяваці.

*З боку шашы чуваць покліч: «Зойка! Зойка!»*

**Зоя:** Хіба нешта здарылася *(глядзіць, прыклаўшы да вачэй далонь брылём).*

*На падворак забягае Люда. Яна басаногая, у паркалёвай сукенцы. З будкі высоўваецца Рыжык.*

**Рыжык:** Гаў, гаў, гаў!
**Зоя** *(на Рыжыка)*: Сціхні! *(Рыжык хаваецца. Да Люды.)* Што, што такое?!
**Люда** *(пляснуўшы рукамі)*: Бачыла!
**Зоя:** Што бачыла?
**Люда:** Не што, а каго.
**Зоя:** Ну дык каго?
**Люда** *(цягне палец угору)*: Яго самога.
**Зоя:** Каго яго самога — Бога?
**Люда:** Не, якога Бога, прэзідэнта.
**Зоя:** Ідзі ты!
**Люда:** Во крыж *(жагнаецца)*, што праўда.
**Зоя:** Як жа табе гэта ўдалося?
**Люда** *(разводзіць у бакі рукі)*: І сама не ведаю. Проста цуд нейкі.
**Зоя:** Цуд цудам, але нештачкі ж адбылося, не сам жа ён да цябе прыцёгся?
**Люда:** Ведама, чаго ён да мяне пацягнецца?
**Зоя:** То кажы, не цягні ката за хвост.
**Люда:** Зараз, дай ачомацца... Гэта ж я агарод палола, ну і нешта гэдак мяне знячэўку змарыла...
**Зоя:** Дзіва што, гарачыня такая.
**Люда:** Вось я пад яблыняй прылегла на траўку і задрамала.
**Зоя:** І што?
**Люда:** Як вочы расплюшчыла, гляжу праз ляскі: машыны лятуць. І тут быццам чорт у мяне ногі пазычыў — падхапіў і гэльц праз плот.
**Зоя:** Ну, ну?
**Люда:** Тут я яго і ўбачыла.
**Зоя:** У машыне?
**Люда:** Анягож, у чорнай такой, вялізнай, адразу за міліцэйскай ішла.
**Зоя:** І які ён?
**Люда:** Рыхтык як у тэлевізары.
**Зоя:** А?...
**Люда:** Чакай, чакай, бо гэта яшчэ не ўсё.
**Зоя:** Няўжо спыніўся?
**Люда:** Не, рукой памахаў. Вось так *(махае рукой).*
**Зоя:** А ты?
**Люда:** А я ў адказ, вось гэтак *(зноў махае).*
**Зоя:** Эх, пашчасціла табе, Людка.
**Люда:** І не кажы.
**Зоя:** Як нікому.
**Люда:** Ага, будзе на старасці што ўспомніць. Але, думаю, каб не пайшла я палоць агарод і не прылегла б на траўцы пад яблыняй, дык не пабачыць мне гэтага шчасця, як сваіх вушэй. І вось яшчэ што цікава: сон я ўчора бачыла, нават Сяргею раніцай перагаворвала. Быццам падняла я квахтуху, месяц ужо як сядзіць...
**Зоя:** У сне?
**Люда:** Што ў сне?
**Зоя:** Квахтуха сядзіць?
**Люда:** Не, квахтуха насамрэч сядзіць, а ў сне падняла, каб падзівіцца, ці не пачалі кураняты вылупляцца, а пад ёй не яйкі, а...
**Зоя:** Што, што?
**Люда:** Грошы.
**Зоя:** Ну?!
**Люда:** Буду я выдумляць.

*Да весніц падыходзіць Сяргей.*

**Рыжык** *(высунуўшы з будкі галаву)*: Гаў, гаў,гаў !
**Зоя** *(пагразіўшы Рыжыку кулаком)*: Я табе! *(Рыжык хаваецца.)*
**Сяргей** *(да Люды)*: Вось ты дзе! Агарод прапалола?
**Люда:** Адчапіся са сваім агародам.
**Сяргей:** Што?! Ідрыт тваю ў каршэнь! Ты, баба, з глузду з'ехала ці блёкату аб'елася?
**Люда:** Нікуды я не з'язджала і не нічога не ела.
**Сяргей:** Значыцца, шарыкі за ролікі закаціліся.
**Люда:** І нічога ў мяне не закочвалася.
**Зоя:** Яна прэзідэнта бачыла.
**Сяргей:** Якога прэзідэнта?
**Люда:** Нашага, якога ж яшчэ.
**Сяргей:** Ну і што, я яго штодня бачу — як тэлевізар уключу, так ён і там.
**Люда:** А я ўжывую, вось як цябе.
**Сяргей:** Як мяне? Не веру.
**Люда:** Каб праваліцца мне на гэтым месцы, калі маню.
**Зоя:** Яна заснула пад яблыняй і, калі ён праязджаў, цераз плот пераскочыла.
**Сяргей:** Ну, што заснула пад яблыняй, я паверу адразу і безумоўна, а вось што цераз плот пераскочыла, моцна сумняваюся.
**Зоя:** Яе чорт перакінуў.
**Сяргей:** Гэта іншая справа. З гэтага трэба было і пачынаць. *(Да Люды.)* Але глядзі, баба, каб не падвёў цябе гэты чорт пад абух.
**Люда:** З якой гэта такой ласкі?
**Сяргей:** Ну як, хіба не хадзілі міліцыянты па хатах, не казалі, каб не вытыркаліся? Калі сам *(падымае палец угору)* праязджае? Вось, Зоя хай скажа.
**Зоя:** Было, было: і хадзілі, і казалі.
**Сяргей:** І хіба не папярэджвалі пра наступствы? Жонка, га. жонка, чаго маўчыш?
**Люда:** Па-па-папярэджвалі.
**Сяргей:** Дык што ж ты, дурніца, лезеш ваўку ў зубы?
**Люда:** Я, я...
**Сяргей:** Што ты, ты? Вунь, глядзі, Рыжык *(паказвае пальцам на будку)*. Загадала гаспадыня не высоўвацца — ён і не высоўваецца, бо з розумам у галаве, хоць і сабака. А дзе твой розум быў, калі цераз плот сігала?
**Люда:** Не ведаю.
**Сяргей:** А хто ведае?
**Зоя:** Чорт. Гэта ж ён яе папутаў. Факт.
**Сяргей:** Сапраўды. Няма чым крыць.
**Люда:** Ён нават мне памахаў.
**Сяргей:** Хто, чорт?
**Люда:** Які чорт? Прэзідэнт. Вось так *(махае рукой).*
**Сяргей:** Ідрыт тваю макаўку!
**Люда:** А я яму вось гэдак *(зноў махае).*
**Сяргей:** Усё, баба, капец табе, у Сібір паедзеш, на тры гады, не меней. А там тры гады як у нас трыццаць. Увогуле вернешся, хаця гэта наўрад, бо адтуль мала хто варочаецца, старэнькай. І май на ўвазе: я не дзекабрыст, за табой не паеду. *(Глядзіць на Зою.)* Вось, Зою вазьму і жыцьмем разам. Зоя, ты як, пойдзеш за мяне?
**Зоя** *(збянтэжана)*: Я?
**Сяргей:** А што тут за дзіва? Ты ўдава, я без трох хвілін удавец. Чаму нам не сысціся? *(Да Люды.)* А ты ў Сібір.
**Люда** *(згодна ківае галавой)*: Ага.
**Сяргей** *(да Зоі)*: Падзівіся на яе — думае кпім.
**Люда:** А то не!
**Сяргей:** Што ж, як кажа аграном: сцяг табе ў рукі. *(Глядзіць у бок шашы.)* Вунь баба Вера клыпае. Нешта ж яна пра Сібір павінна памятаць, не дазванння ж здзяцінела.
**Зоя:** Яна яшчэ за цябе разумнейшая.
**Сяргей:** Пагатоў *(крычыць і махае рукой)*. Баба Вера! Баба Вера! Ідзіце сюды.

*Падыходзіць баба Вера, маленькая і высахлая на смарчок старая, у платку і шарсцяной сукенцы да пят, з кіёчкам, і спыняецца ля весніцаў.*
*Рыжык высоўвае з будкі морду, каб гаўкнуць, але Зоя паказвае яму кулак, і ён хаваецца.*

**Сяргей:** Добрага, баба Вера, здароўя!
**Баба Вера:** От, якое там у мяне здароўе, каб табе такога здароўя.
**Зоя:** А што такое?
**Баба Вера:** Ды баліць усё, дзеткі, рады нямашака.
**Сяргей:** А што, што менавіта баліць?
**Баба Вера:** Я і кажу: усё, ці ты аглух?
**Сяргей:** Не, не аглух. Баба Вера!
**Баба Вера:** Чаго табе?
**Сяргей:** Вы ж у Сібіры былі?
**Баба Вера** *(да Зоі)*: З фапа, дзеткі, іду.
**Зоя:** З амбулаторыі?
**Баба Вера:** Ага, з фапа.
**Сяргей:** Вашу ж сям'ю як кулакоў у трыццаць чацвёртым годзе выслалі?
**Баба Вера** *(да Зоі)*: Прасіла ў дохтура, каб якога парашку даў.
**Зоя:** І што?
**Сяргей:** Вы ж, кажуць, толькі ў пяцісят сёмым вярнуліся.
**Баба Вера** *(да Зоі)*: Не, парашку не мае *(дастае з кішэні цыдулку і падае Зоі)*. Вось толькі паперкі нейкія.
**Зоя** *(паглядзеўшы)*: Гэта ж рэцэпт, з ім у апэку трэба.
**Баба Вера:** Святы Божа! Святы моцны! *(Жагнаецца.)* Выратуй і памілуй! *(Жагнаецца.)* Век ніякіх аптэкаў не ведала і не хачу. *(Забірае ў Зоі цыдулку і хавае сабе ў кішэнь.)* Пайду ўжо.
**Зоя:** Пастойце яшчэ крыху, адпачніце.
**Баба Вера:** Не, у магазін спяшаюся.
**Зоя:** Чаго ў магазін?
**Баба Вера:** Цукру хачу ўзяць.
**Люда:** Цукру? Дык вы ж, я бачыла, учора бралі.
**Баба Вера:** Ну брала, але яшчэ трэба.
**Люда:** Гарэлку гнацьмем?
**Баба Вера:** Якую гарэлку, на ліха яна мне?
**Люда:** На продаж.
**Баба Вера:** Барані бог *(жагнаецца).*
**Люда:** А калісь гналі.
**Баба Вера:** Не было такога, не было, гэта нагавор.
**Люда:** Добра, хай сабе нагавор. Баба Вера, мне б змеявік, га?
**Баба Вера:** Няма ў мяне нічога.
**Люда:** Я б купіла.
**Баба Вера:** Вечарам зайдзі.
**Сяргей:** Чакайце, чакайце, а Сібір?

**Зоя:** Дык навошта вам столькі цукру?
**Баба Вера:** А раптам вайна?

*Баба Вера адыходзіць.*

**Сяргей** *(гледзячы бабе Веры ўслед)*: Як на вайну, дык не забылася, а пра Сібір нават успамінаць баіцца. Во як там, ідрыт яе ў карань, добра. *(Да Люды.)* А табе той змеявік патрэбны?
**Люда:** Патрэбны.
**Сяргей:** З сабой павязеш?
**Люда:** Куды?
**Сяргей:** На кудыкіну гару *(глядзіць у бок шашы)*. Нехта сунецца.
**Зоя** *(прыглядзеўшыся)*: Як быццам Лібай.
**Сяргей:** Так, гэта ён. Во хто пра Сібір усё-ўсенька, як поп пра пекла, ведае; ён жа настаўнік геаграфіі.
**Зоя:** І гісторыі, гісторыю ў нас вёў.
**Люба:** А ў нас літаратуру. Як там:

Моцна трымаўся юнак на дапросе,
Тоячы думкі і словы свае…

*Паўза.*

Усё, далей забылася...
**Сяргей:** Эх ты:

Вораг-фашыст дакурыў папяросу,
І камсамольскі білет падае.

*Падыходзіць Лібай, сівы, хударлявы, у паношаным шэрым касцюме, з партфелем.*
*Рыжык высоўвае з будкі морду, але замест таго, каб гаўкнуць, ляпае зубамі, хапаючы на ляту муху, пасля чаго хаваецца.*

*Усе вітаюцца, мужчыны за руку.*

**Зоя:** Вы са школы? Як там мая Юлька?
**Лібай:** Нічога, нічога, разумная дзяўчынка. Толькі далей трэба вучыцца .
**Зоя:** І я ёй пра тое.
**Лібай:** А яна?
**Зоя:** Вецер у галаве.
**Лібай:** Маладзенькая.
**Зоя:** Анягож.
**Сяргей** *(да Лібая)*: А няўжо вы не на пенсіі?
**Лібай:** Каторы год, але вось, падсабляю роднай школе, пакуль магу.
**Сяргей:** Вы яшчэ зможаце, рыпучае дрэва, кажуць, доўга жыве.
**Лібай:** Але ёсць і такая прымаўка: цешыўся старац, што перажыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю. Дык што ты хацеў?
**Сяргей:** Пра Сібір запытацца.
**Лібай:** А ты ў школу хіба не хадзіў?
**Сяргей:** Хадзіў, але ўсё забыўся.
**Лібай:** Дрэнна, Сярожа.
**Сяргей:** Вядома, чаго тут добрага. Але я не вінаваты, я ж на трактары. Калі і былі якіясь мазгі *(стукае пальцам сабе па лбе)*, дык усе павытрасаліся.
**Лібай:** Ведаю, што ты на трактары, ты ж летась мне бульбу абганяў.
**Сяргей:** І сёлета абганю, а як жа. Вось скончу ля Чорнага лесу гараць, за тры дні ўпраўлюся, і абганю.
**Лібай:** Зараней дзякую.
**Сяргей:** Калі ласка!
**Лібай:** А сёння што лынды б'еш?
**Сяргей:** Выходны выбіў, у гэтым месяцы першы.
**Лібай:** Зразумела. Дык што хацеў?
**Сяргей:** Гэта, пра Сібір, значыць *(ківае галавой на Люду)*, хочам тое-сёе даведацца.
**Лібай:** Сібір — гэта абшырны геаграфічны рэгіён у паўночна-ўсходняй частцы Еўразіі, плошчай каля 10 міліёнаў квадратным кіламетраў.
**Сяргей:** Ого!
**Лібай:** Нашай сінявокай на ёй можна змясціць каля сотні.
**Сяргей:** Гэта разлеглася, дык разлеглася. Вось бы, ідрыт яе, упоперак пераараць.
**Лібай:** Сібір — маланаселеная тэрыторыя. Усяго там пражывае каля 40 міліёнаў чалавек.
**Сяргей:** Неўзабаве будзе больш.
**Лібай:** Клімат значнай часткі тэрыторыі суровы, рэзка кантынентальны, халодны і паўночнаарктычны. Сярэднегадавая тэмпература ніжэй за нуль. У асноўным Сібір — гэта вечная мерзлата. Такім чынам, пераацць табе, Сяргей, яе наўрад ці ўдасца.
**Сяргей:** Шчыра, я і не збіраюся.
**Лібай:** Затое ў Сібіры выяўленыя вялікія паклады каменнага і бурага вуглю, радовішчы нафты і газу, рэдкіх і каляровых металаў, алмазаў, золата, графіту і іншага.
**Сяргей:** Якраз будзе каму здабываць.
**Лібай:** А навошта табе гэта, на заробкі сабраўся?
**Сяргей:** Не я, а яна вось *(паказвае на Люду)*.
**Лібай:** Хто?
**Сяргей:** Мая жонка.
**Лібай:** Ідзі ты!
**Сяргей:** Святая праўда.
**Лібай:** Люда, ты што, захварэла?
**Сяргей:** Яна не па добрай волі, яе туды вышлюць.
**Лібай:** Як?! За што?
**Сяргей:** А яна, калі прэзідэнт праязджаў, цераз плот пераскочыла і памахала яму рукой. *(Да Люды.)* Пакажы, як махала. *(Люда паказвае.)*
**Лібай:** Вось здзівачыла дык здзівачыла.
**Сяргей:** А ён ёй у адказ, вось гэтак. *(Паказвае, як махала Люда.)*
**Лібай:** Ха-ха.
**Сяргей:** Вельмі карцела ўбачыць.
**Лібай:** А тэлевізар навошта?
**Сярей:** І мы ёй пра гэта.
**Лібай:** А яна?
**Сяргей:** Адмаўляе.
**Лібай:** На якой падставе?
**Сяргей:** Нячысцік, кажа, падаткнуў.
**Лібай:** Так-так, бачна рука д'ябла. Але ж Сібір у Расеі, а мы як быццам самастойная дзяржава.
**Сяргей:** Вось менавіта: як быццам, бо, па-першае, у нас з імі хаўрус, а па-другое наш *(падымае палец угору)* з іхнім заключылі пагадненне, што нашую пятую калону, ну і далучаных да яе, па ўласнай дурасці ці так, ад няма чаго рабіць, таксама розных незадаволеных языкастых і рызыкантаў, у Сібір вывозіць.
**Лібай:** Ды ну!
**Сяргей:** Але гэта па-

куль таямніца *(аглядаецца і прыцiснуўшы да вуснаў палец)*: ц-ццц... нікому, маўчок.

**Лібай** *(таксама аглянуўшыся, прыцішаным голасам)*: А скуль, калі таямніца, ведаеш?

**Сяргей:** Чалавек адзін з Мінска казаў.

**Лібай:** Той, што хату каля царквы купіў?

**Сяргей:** Ён. Я яму гаўна на агарод прывозіў, ну і разгаварыліся.

**Лібай:** Ясна. Добра, пайшоў я *(дастае з кішэні насоўку і выцірае лоб і шыю)*. Пячэ, як у апраметнай. Усяго добрага!

**Сяргей і Зоя** *(разам)*: Да пабачэння!

**Лібай:** А ты, Люда, не гаруй, мо абыдзецца.

**Сяргей:** Абыдзецца, як жа. Казаў і не раз: не лезь, жаба, дзе коней куюць. Дык што вы думаеце: хоць кол на галаве, быццам не чуе.

**Лібай:** І праўда, Люда, ты б пасцераглася. Час такі, ого, нядобры час.

**Сяргей:** А калі быў добры, га?

**Лібай** *(падумаўшы)*: Ніколі.

*Лібай адыходзіць.*

**Люда** *(у роспачы, нічога не разумеючы)*: Але ж я не хацела! Я нічога такога! Я наадварот...

**Сяргей:** Гм, не хацела яна. Мо і не хацела. Толькі так ці інакш, а за правінку чэшуць спінку.

**Зоя** *(глядзіць у бок шашы)*: Міліцыянты ідуць.

**Сяргей** *(таксама паглядзеўшы)*: Лёгкія на ўспамін.

**Люда** *(перахопленым голасам)*: А божа мой!

**Сяргей:** Стань за мной *(Люда хаваецца за Сяргеем)*.

*Да весніц падыходзяць два міліцыянты, з дручкамі, прычэпленымі да пояса, пісталетамі і рацыямі.*

**Рыжык** *(вызірнуўшы з будкі)*: Ррр...

**Першы міліцыянт:** Што тут за зборышча?

**Сяргей:** Ды так, стаім вось — гамонім.

**Першы міліцыянт:** Гамоніце? Зараз, птамаць, я вам пагаманю. Не ведаеце, што збірацца больш за трое, пагатоў гаманіць, жэстачайшэ забараняецца? Гэта ўжо масавае мерапрыемства, дэманстрацыя, на правядзенне якой патрабуецца дазвол выканаўчай улады.

**Сяргей:** Якой-якой улады?

**Першы мяліцыянт:** Выканаўчай, птамаць.

**Другі міліцыянт:** Сельсавета.

**Сяргей:** А, сельсавета!

**Рыжык** *(з будкі)*: Ррр...

**Першы міліцыянт:** Якое караецца паводле адміністрацыйнага артукула: «Парушэнне парадку арганізацыіі альбо правядзення масавых мерапрыемстваў» — да трыццаці базавых велічынь.

**Сяргей:** Не, не ведалі.

**Першы міліцыянт:** Як?

**Зоя:** Далібог першы раз чуем.

**Першы міліцыянт** *(да другога)*: Не, ну ты бачыў іх? Яшчэ, птамаць, наракаюць, што мы да іх як звяры ставімся. Збіралі ж усіх у клубе і па хатах затым хадзілі, тлумачылі, што да чаго і па чым — зноў тое самае.

**Другі міліцыянт:** Я не я, і хата не мая.

**Першы міліцыянт:** Во-во.

**Сяргей:** Ну забыліся, галовы ж з дзіркамі.

**Першы міліцыянт:** Гэта праўда.

**Сяргей:** Нічога не зробіш, бо каб былі не дзіравыя, дык, нябось, тут не ашываліся б, а даўно б *(махае ўбок рукой)*... пырх — і шукай ветру ў полі. Дык колькі гэта, трыццаць базавых велічынь, у грошах?

**Першы міліцыянт:** Атрымаеш — даведаешся. Усё, марш адсюль, каб мы вас больш не бачылі.

**Зоя:** Дык што, ужо нельга суседу да суседа зайсці, слова сказаць?

**Першы міліцыянт:** Чаму нельга? У нас прававая, дэмакратычная дзяржава, у якой, птамаць, усё льга. Ідзіце вунь у хату *(ківае галавой на хату)*, там сустакайцеся і размаўляйце колькі ўлезе. Толькі, зноў жа, ціха, каб на вуліцы чуваць не было.

**Зоя:** Божа мой, божа, што ж гэта робіцца, няўжо мы ўжо не людзі?

**Першы міліцыянт:** Зараз я табе пакажу, і што робіцца, і якія вы, птамаць, людзі. *(Здымае з пояса дручок.)*

**Сяргей** *(пацягнуўшы Зою за руку)*: Хадзем, хадзем ад граху далей.

*Зоя, Люда і Сяргей ідуць у хату*

**Першы міліцыянт:** Стаяць!

**Сяргей** *(абярнуўшыся)*: Што яшчэ?

**Першы міліцыянт:** Чаму не на працы?

**Сяргей:** Выходны ў мяне.

**Першы міліцыянт** *(паказаўшы дручком на Зою)*: А яна?

**Зоя:** Яна на ферме .

**Першы міліцыянт:** І што?

**Сяргей:** Ёй вечарам на дойку.

**Першы міліцыянт:** Файна. Адна ўвесь дзень бакі адлежвае, у другога выходны. Выходныя ім яшчэ даюць. Я ім надаваў бы выходных, наеліся б у мяне да ўсрачкі. Мы ж во без выходных укалваем, як на галерах, і нічога, толькі крапчэм. Вось, птамаць, дзе дармаеды, дык дармаеды. Гэта іх прэзідэнт распесціў. Нянчыцца з імі, як з малымі дзецьмі, паблажкі дае, саступае. Яшчэ крыху — і соплі пад носам выцірацьме. А яны, думаеш, дзякуй скажуць? Што ты! Наадварот: усё нечым незадаволены, усё ім не тое, не па губе, не паіхняму, усяго, птамаць, мала. Ды яшчэ бунтаваць мерацца. Але мы ім набунтуем, хай толькі паспрабуюць, дазнаюцца, па чым фунт ліха. Усё, каб я вас болей не бачыў, інакш за сябе не адказваю *(пагражае дручком)*. Лічу да трох. Раз...

**Рыжык** *(з будкі)*: Ррр...

**Сяргей:** Хадзем, бабы, кабыла з ваўком цягалася — хвост і грыва засталася.

**Першы міліцыянт:** Што ты сказаў, ану паўтары?

**Сяргей:** Нічога, гэта прымаўка такая народная.

**Першы міліцыянт:** Глядзі, дагаворышся. *(Да Люды.)* А з табой у нас будзе асобная размова.

**Люда:** Чаго вы да мяне хочаце?

**Першы міліцыянт:** Чаго хочам? Каб ты дзясятаму заказала цераз платы скакаць і рукамі размахваць.

**Люда:** Гэта не я.

**Першы міліцыянт:** А хто?

**Сяргей:** Чорт.

**Першы міліцыянт:** Які яшчэ чорт?

**Сяргей:** Звычайны, з хвастом і рожкамі. *(Паказвае на сабе, з якім хвастом і рожкамі.)*

**Першы міліцыянт:** Чорт? З хвастом і рожкамі? Што вы мне тут кулі заліваеце?

**Сяргей:** І нічога не заліваем. Яна пад яблыняй спала, калі ён у яе ўлез. Ну а затым якраз прэзідэнт праязджаў, цераз плот і перакінуўся. Таму яна не вінаватая.

**Другі міліцыянт:** А махаў хто, таксама чорт?

**Сяргей:** Ён, ён.

**Першы міліцыянт:** Добра, разбярэмся.

*Зоя, Люда і Сяргей заходзяць у хату.*

**Жук** *(з будкі)*: Ррр...

**Першы міліцыянт** *(па рацыі)*: Дуб два! Дуб два! Я асіна восем! Прыём.

**Голас па рацыі:** Дуб два на сувязі. Далажыце абстаноўку.

**Першы міліцыянт:** Дакладваю: усё спакойна, нідзе нічога ніякага.

**Голас па рацыі:** За платы, за платы зазірайце.

**Першы міліцыянт:** Слухаюся!

**Голас па рацыі:** Пры неабходнасці страляйце без папярэджання.

**Першы міліцыянт:** Ёсць страляць без папярэджання.

**Голас па рацыі:** Усё, канец сувязі. Прыём.

**Першы міліцыянт:** Прыём. *(Да другога міліцыянта.)* Чуў?

**Другі міліцыянт:** Чуў.

*Міліцыянты адыходзяць. Да весніц падыходзіць Юля, прывабная дзяўчына, у джынсах і кофтачцы, са школьнай сумкай.*

**Юля** *(крычыць і махае сумкай)*: Рыжык! Рыжык!

**Рыжык** *(высунуўшыся з будкі, радасна)*: Гаў,гаў, гаў!!!

*Але тут вяртаецца другі міліцыянт.*

**Рыжык:** Ррр... *(Хаваецца.)*

**Другі міліцыянт:** Юля!

**Юля:** Што?

**Другі міліцыянт:** Вечарам выйдзеш?

**Юля:** Не ведаю.

**Другі міліцыянт:** Я буду чакаць.

**Юля:** Мама не пускае.

**Другі міліцыянт:** Каля дуба.

**Юля:** Іспыты ж ідуць, рыхтавацца трэба.

**Другі міліцыянт:** А на танцы ў суботу прыйдзеш ?

**Юля:** Ну, можа, прыйду.

**Другі міліцыянт:** Не, ты напэўна скажы.

**Юля:** А калі мама не пусціць?

**Другі міліцыянт:** Што ты ўсё: мама ды мама, што ты яе слухаеш?

*На ганак выходзіць Зоя.*

**Зоя:** Юля!

**Юля:** Бягу, мама.

*Юля бяжыць у хату.*
*Другі міліцыянт праводзіць яе пажадлівым позіркам.*
*Падыходзіць першы міліцыянт.*

**Рыжык** *(з будкі)*: Ррр...

**Першы міліцыянт:** Вока на дзеўку паклаў?

**Другі міліцыянт:** Ну... гэта...

**Першы міліцыянт:** Ласы кавалачак.

**Другі міліцыянт:** Эээ...

**Першы міліцыянт:** Што, упіраецца?

**Другі міліцыянт:** Я...

**Першы міліцыянт:** Кінь. Усе яны напачатку такія. Дручком паміж лапатак перацягні раз-другі, нябось, як шоўкавая стане, сама ногі рассуне. Праверана, хлопец, на практыцы і неадназова.

**Другі міліцыянт:** Ды не, падабаецца яна мне, я жаніцца хачу.

**Першы міліцыянт:** Пагатоў. Увогуле, скажу табе, як старэйшы і тое-сеё пабачыўшы на гэтым бл.дскім свеце таварыш: з бабамі інакш нельга. Вось выпадак і не з кніжак там нейкіх альбо кіна, а з самага што ні на ёсць жыцця, ягонай, гэтак кажучы, гушчы, прытым майго асабістага. Ну, спадабалася дзеўка — пагуляў крыху і пабраліся шлюбам. Каханне і ўсё астатняе, увогуле як у людзей. Але слухай, што далей. Аднойчы прыхожу вечарам пасля службы дахаты, а яна ляжыць, разваліўшыся на канапе, як карова . У пакоі не прыбрана, вячэрай нават не пахне. Я адразу па-харошаму: што, маўляў, такое здарылася? Нічога, адказвае, проста замарылася, на трох апарацыях адстаяла, ног не чую. Яна тады медсястрой у шпіталі хуткай дапамогі працавала. Ага, ну што ж, думаю, трэба вучыць і неадкладна, бо ўвойдзе ў звычку і так ужо пацягнецца. Бяру дручок і як перацягнуў знячэўку па срацы: а-та-та, курва, тваю матку! З таго самага вечара як падмянілі бабу: замарылася на працы ці не замарылася, прасядзела паўночы каля хворага дзіцяці альбо яшчэ нешта, а выконвае свае абавязкі як належыць і ў тэрмін. Гэта значыць, каб у кватэры ні пылінкі, ні парашынкі, я ў належную гадзіну быў накормлены і ў ложку задаволены на ўсе сто. Паабнасілася, праўда, за апошнія гады, прывяла, але ж з гэтым нічога не паробіш, як толькі на маладзейшую не памяняць . Вось якое яно, хлопец, сапраўднае жыццё. А ты: выйдзеш не выйдзеш, прыйдзеш не прыйдзеш, сю ды сю. Не сюсюкаць трэба, а справу рабіць. Ці паняў?

**Другі міліцыянт:** Паняў.

**Першы міліцыянт:** То гайда за платамі паглядзім, мо якую шлюндру выявім.

*Міліцыянты адыходзяць.*
*Некаторы час на сцэне нікога няма, потым з хаты выходзіць Юля, пераапранутая па-хатняму, Сяргей, Люба і Зоя.*

**Зоя** *(да Юлі)*: Насып, дочка, курам зярня і вады падлі.

**Юля:** Добра, мама. Але спачатку Рыжыка напаю. Рыжык!

**Рыжык** *(з будкі)*: Гаў, гаў!

**Сяргей** *(кіўнуўшы галавой на будку)*: Во гарачыня, носа нават не высоўвае. Але, хадзем, жонка, і мы абходжвацца *(абдымае Люду за талію)*. Ды не пераймайся ты, таксама мне злачынца найшлася.

**Люда:** Ай, што мне ўжо тое абходжванне, усё роўна ў Сібір?

**Сяргей:** Ідрыт маю за язык, я ж жартаваў.

**Люда:** Не, не.

**Сяргей:** Далібог жартаваў, крыж пацалую.

**Зоя:** І праўда Люда, супакойся.

**Сяргей:** Чуеш! Ды каму ты, акрамя мяне, патрэбная?

*Чуваць голас першага міліцыянта: «Дуб два! Дуб два! Асіна восем слухае. Што? Едзе? ...Паўтарыце... Ёсць забяспечыць праезд».*

**Зоя** *(глядзіць у бок шашы)*: Хто едзе?

**Сяргей:** Відаць, сам.

*Да весніц падбягае першы міліцыянт, за ім другі.*

**Рыжык** *(з будкі)*: Ррр...

**Першы міліцыянт** *(крычыць)*: Пайшлі! Пайшлі! *(Забягае на падворак, адчапляючы ад пояса на хаду дручок.)*

**Сяргей:** Чаго пайшлі, куды?

**Другі міліцыянт** *(забягаючы на падворак, услед за першым)*: У хату! Бягом! Усе!

**Першы міліцыянт:** Не, адставіць хату. *(Да другога міліцыянта, паказаўшы дручком на хлеў.)* У хлеў іх, а то, чаго добрага, у вокны заглядаць пачнуць.

*Другі міліцыянт кідаецца да хлява і, адкінуўшы кручок, цягне на сябе дзверы.*
*Чуваць рохканне свіней.*

**Першы міліцыянт** *(кіруючы дручком)*: Ну, варушыцеся, птамаць. У хлеў! У хлеў!

**Зоя** *(ламаючы рукі)*: А божухна свенты!

**Юля:** Мама! *(Плача.)*

**Люда:** Сяргей!

**Сяргей:** Так нам і трэба.

**Другі міліцыянт:** Давай, давай! Не размаўляць!

*З будкі выскоквае Рыжык і хапае першага міліцыянтна за лытку. Першы міліцыянт віскоча як рэзаны: «Ааа.. ёёё... птамаць!!!», затым, злаўчыўшыся, выцягвае Рыжыка дручком. Рыжык скавыча і кідаецца ў будку. Між тым Юля, Зоя, Сяргей і Люда заходзяць у хлеў, і другі міліцыянт зачыняе за імі дзверы на кручок.*

**Першы міліцыянт** *(аглядае парваную калашыну)*: Сабаку, птамаць, нацкавалі. Так ім гэта не мінецца. Будзеш сведкам. Нападзенне на прадстаўніка органа ўлады пры выкананні ім службовых абавязкаў.

**Другі міліцыянт** *(заклапочана)*: У бальніцу трэба.

**Першы міліцыянт:** Навошта?

**Другі міліцыянт:** Для суда, пакусы зняць.

**Першы міліцыянт:** Ай, час толькі марнаваць. У судзе нам і на слова павераць.

**Другі міліцыянт:** А калі сабака шалёны?

**Першы міліцыянт:** Наўрад, ён жа не валацужны.

**Другі міліцыянт:** Усё роўна прыстрэліць не зашкодзіць.

**Першы міліцыянт:** Слушна. Але цяпер не да гэтага. Сам едзе. Высоўваемся на пазіцыю.

*Міліцыянты ідуць з падворка і шыхтуюцца ля весніцаў. Тут з левай кулісы выходзіць прывід энкавэдыста з наганам у руцэ, а з правай — прывід эсэсаўца з агнямётам. Падышоўшы да хлява, прывіды заглядваюць у шчыліны ў дзвярах. А з боку шашы чуваць нарастаючы шум картэжа, які ачольвае міліцэйская машына з уключанымі гукавым і светлавымі сігналамі. Першы і другі міліцыянт выструньваюцца і салютуюць. Картэж ляціць міма.*

*ЗАСЛОНА.*

**Важна**



**Касцёл кармелітаў.**

**Еўрасаюз прафінансуе адбудову Мсціслава. Сродкі ЕС будуць накіраваныя на аднаўленне касцёла кармелітаў і яго ўнікальных фрэсак XVII ст, былога езуіцкага калегіума, гасцініцы «Эрмітаж» і былой мужчынскай гімназіі.**



Naviband зладзілі фотасесію для «Еўрабачання» — у вышыванках і з кнігай Скарыны. Артысты атрымалі магчымасць патрымаць у руках рэдкі асобнік выдання. Біблія была дастаўлена ў фотастудыю з Нацыянальнай бібліятэкі. Трымаць у руках рэдкі фаліянт музыкам дазволілі ўсяго некалькі хвілін.



Князь Мацей Радзівіл прывёз у Мінск прыватную калекцыю карцін, якая налічвае 99 асобнікаў. Выстава пад назвай «Радзівілы: лёсы краіны і роду» праходзіць у Мастацкім музеі Беларусі з 15 лютага, а пасля пераедзе ў Гомель.





Паранены бусел прыйшоў да людзей па дапамогу ў Маладзечне. «Спачатку бусел жыў у хляве, а калі стаў мароз — я яму зрабіў загончык у склепе пад домам, там і жыве. Кормім свежамарожанай рыбай, мяса-касцяным кормам для жывёл, вада ўвесь час стаіць. Кожны дзень мяняю яе», — распавядае гаспадар. Калі прыйдзе цяпло, то бусла плануюць адпусціць.




«Нью-Ёркер» змяніў лагатып на кірыліцу. Уладзімір Пуцін глядзіць на Трампа на вокладцы свежага нумара амерыканскага інтэлектуальнага часопіса «Нью-Ёркер».



На палігоне «Палескі» праводзяцца выпрабаванні доследнага ўзору баявой машыны 9А33-1Б — новага беларускага варыянту зенітна-ракетнага комплексу «Аса».



## Анекдоты і жарты

* * *

Пытанне на форуме:

— А што будзе, калі я засуну галаву ў мікрахвалёўку на дзесяць секунд пры поўнай магутнасці?

Адказ:

— Калі вы здольныя гэта зрабіць, то горш ужо не будзе...

* * *

Не магу зразумець: калі ў гэтай краіне ўсё залежыць ад цэн на нафту, то навошта нам нагогул урад?

* * *

Дзеля цябе я нават гатовы з Velcom на МТС патэлефанаваць.

* * *

Бураціна ўладкаваўся ў цырк утаймавальнікам дзікіх жывёл.

Цяпер ён штодня ходзіць па краі жыцця і смерці, заходзячы ў клетку да раз'юшаных і галодных баброў.

* * *

Сёння на вуліцы я быў сведкам, як мужык размаўляе са сваім сабакам. Было бачна, што ён думае, быццам сабака яго разумее!

Прыйшоў дадому, распавёў свайму кату, доўга смяяліся.

* * *

На прыёме ў псіхолага:

— Напішыце ліст чалавеку, які вас моцна раздражняе, і спаліце яго.

— Добра. А з лістом што рабіць?

## «НН» сто гадоў з вамі

**З Кастравіцкай воласці Слонімскага павета** нам пішуць: ужо заглядае мужыкам у вочы голад. За малым не ўсе купляюць хлеб, бо свайго не хапае. Цана на хлеб вельмі паднялася; заработкаў няма. Па вёсках людзі страшна хварэюць на тыфус. Ратунку ніякага няма. Фельчары аб гэтым не даносяць дактарам, каб не прыйшлося ездзіць да хворых.

**«НН». №10. 1907.**

**Чыстка падручнікаў.** Праляскоўскі і Чаргінец баяцца нацыяналістычных пісьменнікаў. Праляскоўскі прапануе цалкам выкінуць са школьнай праграмы Святлану Алексіевіч, Сяргея Законнікава, Вольгу Іпатаву, Уладзіміра Арлова, Вітаўта Чаропку. Выключаць з ілюстраваных матэрыялаў і карціны Аляксея Марачкіна.

**«НН». №10. 2007.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара — Андрэй Скурко, Зміцер Панкавец
в. а. галоўнага рэдактара — Ягор Аляксандравіч Марціновіч
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 12 разоў на год.

Нумар падпісаны ў друк 16.30 28.02.2017.

Замова №900.

Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 17003